*практыкі эканамічнай эфектыўнасці выкарыстання фактараў спажывання і вытворчасці ў межах бюджэту сям'і; па-чацвёртае, да таго ж цёзка* (14.03.)

[101] *Старшыня Цяхінскага сельскага Савета Аляксандр Цыбульскі лічыць Ганну Бучманаву «чалавекам на сваім месцы»* (19.03.)

## Жаночы пол — спосабы кадавання ў беларускай мове

Якія ж назвы ў сучаснай беларускай мове могуць мець магчымасць выражэння і жаночай, і мужчынскай граматычнай формай, якія — толькі адной формай і якія гэтага прычыны? Прыклады з паралельнымі назвамі на матэрыяле «Звязды»: *аўтар — аўтарка; выкладчык — выкладчыца; гераіня — герой; дырэктар — дырэктарка; загадчык — загадчыца; карэспандэнт — карэспандэнтка; кіраўнік — кіраўніца; куратар — куратарка; майстар — майстрыха; мастак — мастачка; намеснік — намесніца; настаўнік — настаўніца; пакупнік — пакупніца; памочнік — памочніца; паштальён — паштарка* (іншая словаўтваральная мадэль); *прадстаўнік — прадстаўніца; прызёр — прызёрка; уладальнік — уладальніца*.

Назвы асоб жаночага полу афармляюцца ў сучаснай беларускай мове наступным чынам:

**1.** Гэта вытворныя ад мужчынскіх назваў, утвораныя пры дапамозе адпаведных суфіксаў (канчаткаў, якія маюць словаўтваральнае значэнне). Гэтыя назвы адназначна абазначаюць 'асобу (для мн. л. — асобы) жаночага полу'. Дарэчы будзе сказаць, што ў «Звяздзе» такіх назваў не так і мала. Утвараюцца яны ад мужчынскіх пры дапамозе існуючых суфіксаў па вядомых словаўтваральных мадэлях: *трактарыстка, біятланістка, тэнісістка, паштарка, наркагандлярка, кліентка, спявачка, рэвалюцыянерка, мастачка, карэспандэнтка, жыхарка, юбілярка, рэжысёрка, гімнастка, прызёрка, чэмпіёнка, спартсменка, батуцістка, балельшчыца, дурніца, пакупніца, гераіня, натхняльніца, дырэктарка, даследчыца, кіраўніца, майстрыха, лекарка (лялька-лекарка), імператрыца, вандроўніца, кветачніца, аматарка, загадчыца, вучаніца, выдатніца, удзельніца, пацыентка, брэстаўчанка, намесніца, настаўніца, выкладчыца, авантурыстка, актрыса, памочніца, прафесіяналка, прынцэса, прадстаўніца, аўтарка, куратарка, выхавальніца, уладальніца, мінчанка, стваральніца, школьніца, адзінаццацікласніца, беларуска, кенійка, суайчынніца, каралева, загадчыца, казачніца* (прыведзеныя падкрэсленыя назвы маюць мужчынскія варыянты ў адносінах да жанчын, іншыя назвы — толькі жаночую форму для абазначэння асоб жаночага полу).

У кантэкстах напр.:

[102] *Беларуская біятланістка закрыла 85 мішэняў* (21.01.)

[103] *Сербская тэнісістка Ана Іванавіч выбіла з барацьбы першую ракетку свету* (21.01.)

[104] *выпадкова знайшла вясковая паштарка, што прынесла бабцы пенсію* (24.01.)

[105] *«Дэбют» наркагандляркі не адбыўся ... сустрэча з кліенткай на вакзале была яе дэбютам* (05.02.)

[106] *віцебскага мастацкага музея... спявачка ... родная сястра Бэлы была рэвалюцыянеркай* (12.02.)

[107] *Генетыкай студэнтка захапілася з першых курсаў* (06.03.)

[108] *Так назвала мастачка сваю карціну* (10.03.)

[109] *пацікавілася карэспандэнтка* (05.03.)

[110] *Рэжысёрка Кацярына Аверкава* (14.03.)

[111] *беларуская гімнастка Марына Ганчарова збіралася «завязваць» з вялікім спортам... сярэбраная прызёрка лонданскай алімпіяды і чэмпіёнка свету па мастацкай гімнастыцы* (19.03.)

[112] *Я прыехала ў Кіеў балельшчыцай* (28.01.)

[113] *Чамусьці не пачуваеш сябе як пакупніца крамы* (01.03.)

[114] *намесніца дырэктара па выхаваўчай рабоце, настаўніца ... Валянціна Іванаўна Рабіноўская* (27.03.)

[115] *удзельніца, адна з юных майстрых* (27.03.)

[116] *кіраўніца рэдакцыі ... мастачка... выкладчыца ... авантурыстка ... актрыса ... прафесіяналка* (27.03.)

Варта было б прасачыць, што пра падобныя жаночыя дэрываты знойдзем у паасобных граматыках, дапаможніках і падручніках беларускай мовы, паколькі менавіта гэтыя назвы выклікаюць найбольшы рэзананс. Межы артыкула, аднак, не дазваляюць на такі прагляд. Трэба сказаць, што гэтае пытанне звычайна закранаецца рознымі аўтарамі, але даволі фрагментарна (прывяду толькі некаторыя выданні: [1, с. 28; 16, с. 210; 18, с. 165–166; 23, с. 204; 25, с. 175; 26, с. 57–59; 27, с. 50, 67] і г. д.). Інфармацыя знаходзіцца ў кантэксце граматычнай катэгорыі роду, словаўтварэння, сінтаксісу або стылістыкі мовы.

Асобна патрэбна было б звярнуць увагу на пытанне культуры мовы, асабліва гэта датычыць вытворных з суфіксам *-ша*, якія парушаюць літаратурную норму, тыпу *дылерша, трафікёрша* [19, с. 23–24] і іншых, хоць адносіны да нормы не з’яўляюцца мэтай аналізу:

[117] *аператыўнікі, якія з самага пачатку сачылі за дылершай* (05.02.)

[118] *у снежні мінулага года была затрымана трафікёрша з Іспаніі, якая завербавала і намагалася пераправіць туды дзяўчыну...* (08.02.)

Граматычна жаночая назва — гэта асноўны паказчык жаночага полу, да яе дапасуецца азначэнне, з ёй каардынуецца выказнік (у прошлым часе), побач выступаюць жаночыя імёны і прозвішчы.

Асаблівай групай асабовых назваў на *-а/-я* з’яўляюцца назоўнікі агульнага (супольнага) роду, пры назвах жанчын патрабуюць азначэнняў у форме жаночага роду і выказніка ў ж. р. (у прошлым часе), персанальных дадзеных:

[119] *Распавядае мая суразмоўца* (04.03.)

[120] *На справе Марыя аказалася ... прыемнай суразмоўцай* (04.03.)

[121] *Міхаіл Паўлавіч пагаджаецца са сваёй калегай* (05.03.)

[122] *Для маладых дзяўчат я стала не толькі старэйшай калегай, але і псіхолагам* (19.03.)

[123] *з суддзёй Вярхоўнага Суда Ксеніяй Кенік* (26.03.)

[124] *Батут для маленькай непаседы* (23.04.)

[125] *Спартсменка кажа, што прыемна пастулова набліжацца да ўзроўню сваёй старэйшай калегі — вопытнай Таццяны Пятрэні…* (23.04.)

Прычым асабовыя жаночыя назвы ў афіцыйнай беларускай мове ўжываюцца, як здаецца, без паніжэння асобы жаночага полу ў статусе, параўн. у польскай мове чым вышэйшы статус, прэстыж пасады, ступені ці звання, тым большая верагоднасць ужывання мужчынскай назвы або аналітычнай формы *пані + мужчынская назва* [35, с. 86].

Нават такія назоўнікі, як *дырэктар, дыпламат* і г. д., могуць мець жаночую форму:

[126] *З пяці гадоў працавала ў бабулі, якая ў той час была дырэктаркай бабруйскай базы «Бакалея»* (29.01.)

[127] *З унучкай мастака я пазнаёмілася, калі яшчэ не была дырэктаркай музея* (12.02.)

[128] *Дыпламатка — член міжурадавай камісіі (…) знаходзіцца тут як муж дыпламаткі* (10.03.)

[129] *Трохразовая алімпійская чэмпіёнка* (22.04.), але параўн.:

[130] *Лепшая спартсменка года, лепшы атлет сталіцы, Герой Беларусі* (22.04.)

Нягледзячы на тое, што асобныя асабовыя жаночыя назвы лічацца нарматыўнымі ў беларускай мове, як *мастачка, настаўніца, выкладчыца* і г. д., іх адпаведнікі ва ўстойлівых словазлучэннях утрымліваюць мужчынскую форму:

[131] *яна мастак-лялечнік, стварала і лісічку Яну з мядзведзікам Топам* (27.03.)

[132] *Людміла Сакалоўская працуе мастаком-афарміцелем на агракамбінаце «Прыдняпроўскі»* (18.04.)

[133] *Таццяна Яўгенаўна, як мудры настаўнік, ведае, калі можна пагладзіць па галоўцы, а калі трэба закруціць гайкі* (19.03.)

[134] *Пачынала настаўнікам працоўнага навучання і чарчэння ў сельскай школе* (13.03.)

[135] *старшы выкладчык кафедры псіхалогіі Акадэміі паслядыпломнай адукацыі, псіхолаг з 16-гадовым досведам кансультавання Алена ОСІПАВА* (06.03.)

Асобныя прафесійныя групы з’яўляюцца амаль выключна жаночымі:

[136] *Медсястру і фельчара я ўзяць з сабой не магу* (13.03.)

Адназначна называюць выключна асоб жаночага полу і асабовыя назвы ў форме мн. л., якія суадносяцца з жаночымі назвамі ў адз. л. Калі форма мн. л. утворана ад назоўніка мужчынскага роду, назва не выключае жанчын, але дапускае, што ў калектыве ёсць ці можа быць мужчына (або могуць быць

толькі жанчыны). Наступныя кантэксты ілюструюць неадназначны пол асоб, у прыкладах [137, 138] *майстрамі, прадстаўнікамі* могуць быць выключна жанчыны або жанчыны і мужчыны, затое ведаем напэўна, што не могуць імі быць выключна мужчыны:

[137] *Талент і фантазія маладзечанскіх майстроў заўсёды захапляюць, як і іх творы. Яны ўвабралі ў сябе прыгажосць роднай прыроды і цяпло чалавечых рук. Адзін з такіх майстроў, Вера Антонаўна Самаль, працуе ў Маладзечанскім цэнтры творчасці дзяцей і моладзі «Маладзік», кіруе гуртком «Беларускі сувенір»* (13.03.)

[138] *У склад журы, якое ўзначальвае народная артыстка СССР Ада Рогаўцава, уваходзяць прадстаўнікі Беларусі, Расіі, Германіі, Польшчы, Літвы, Індыі* (25.03.)

Жаночая ж форма адназначна інфармуе, што ў групе асоб няма ніводнага мужчыны:

[139] *Тэкстыльшчыцы Нью-Ёрка ... Дэманстрантак, вядома ж, разагналі* (01.03.)

[140] *у прадстаўніц багатых саслоўяў...* (04.03.)

[141] *Супрацоўніцы ў амбулаторыі ўсе досыць маладога ўзросту* (13.03.)

[142] *дзякуючы легендарным жанчынам-змагаркам звычайныя працаўніцы атрымалі свята* (14.03.)

[143] *раскрывае сакрэты беларускіх «групавічак»* (19.03.)

[144] *тры родапачынальніцы мастацкай гімнастыкі ... «мастачкам» ужо былі створаны...*

[145] *моднікі і модніцы* (17.04.)

[146] *мае паплечніцы і сяброўкі* (22.04)

[147] *Беларуска — найлепшая з еўрапеек ...* (22.04.)

**2.** Назоўнікі мужчынскага роду, якія адносяцца да асоб жаночага полу. Зафіксаваны наступныя мужчынскія назвы ў адносінах да жанчын як выключныя: *агент, аграном, альпініст, аматар, аптыміст, арганізатар, аскет, атлет, баксёр, бібліятэкар, вадзіцель, валанцёр, выдавец, дактарант, дацэнт, доктар, дызайнер, дэпутат, журналіст, інспектар, інструктар, кандыдат, кансультант, кантралёр, кінадраматург, консул, лейтэнант, лідар, маёр, медсудэксперт, менеджар, метадыст, міністр, музыкант, педагог, повар, прадавец, прадзюсар, прэзідэнт, прэс-сакратар, псіхолаг, раздатчык, рамантык, следчы, спецыяліст, сцэнарыст, таксіст, трэнер, тэрапеўт, урач, харэограф, чалавек, экскурсавод, эксперт, этнолаг, юрысконсульт, юрыст*, а таксама складаныя: *арт-дырэктар, мастак-афарміцель, мастак-лялечнік, медсудэксперт-псіхолаг, педагог-выхавальнік, прэс-сакратар, селекцыянер-генетык, трэнер-выкладчык, урач-рэабілітолаг, харэограф-пастаноўшчык, цырульнік-візажыст.*

«Перашкодаю да натуральнага ўключэння фемінізацыі мовы ў сферу публічную перш за ўсё ёсць руская мова, якая мае большую залежнасць

ад патрыярхальнай культуры», — піша У. Іваноў, што папярэджвае такімі словамі: «сучасная афіцыйная беларуская мова. Зрусіфікаваная цягам апошняга стагоддзя, яна звычайна мала чым адрозніваецца ад рускай мовы ў афіцыйным выкарыстанні роду назоўнікаў, што абазначаюць назвы прафесіяў і званняў» [7, с. 79–81]. Цяжка не пагадзіцца з аўтарам гэтых радкоў у сэнсе русіфікацыі, аднак чамусьці даследчык не дапускае магчымасці развіцця такой тэндэнцыі ўласным беларускім моўным шляхам. Параўнаем, як тыя ж працэсы адбываліся на грунце суседняй польскай мовы. Нягледзячы на тое, што ўтварэнне паралельных мужчынскіх і жаночых назваў у польскай мове было шматвяковай традыцыяй, яна не вытрымала экспансіі тэндэнцыі да выкарыстання граматычна мужчынскіх формаў у адносінах да абодвух полаў. Нейтралізацыя родавай апазіцыі пачалася ўжо на пачатку XX ст. Не заўсёды мужчынскія назвы ў адносінах да жанчын сустракаліся з прызнаннем мовазнаўцаў. Аднак тэндэнцыя называць жанчын мужчынскімі формамі была настолькі моцнай у грамадстве, што нават агульнапрынятыя польскія назвы тыпу *dyrektorka, kierowniczka, profesorka* былі ў камунікацыі масава замененыя на *pani dyrektor, pani kierownik, pani profesor* [35, с. 86].

На тое, што мужчынскія назвы абазначаюць усё ж такі жанчын, указваюць:

уласныя назвы (імёны, імёны па бацьку, жаночая форма прозвішча):

[148] *Прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ абвясціла*… (05.02.)

[149] *сельскі доктар Аксана … малады ўрач агульнай практыкі Аксана Мурза* (13.03.)

[150] *патлумачыла генеральны дырэктар РУП Белпошта Ірына Ігнатаўна Саксонава* (24.03.)

[151] *адзначыла дырэктар выдавецкага цэнтра «Марка» Ірына Валер’еўна Шыпілава* (24.03.)

[152] *Паводле слоў псіхолага … 23-й гарадской дзіцячай паліклінікі г. Мінска Кацярыны Блізнюк* (26.03.)

[153] *урач-рэабілітолаг 3-й цэнтральнай раённай клінічнай паліклінікі г. Мінска Надзея Лаўрэньцьева* (26.03.)

[154] *(…) узнагароды, якія мае маёр Буйніцкая* (04.03.)

Прозвішчы на *-а/-я* толькі ў форме Д., Т. і М. склонаў могуць указваць на розніцу полаў (хоць з іх словазмяненнем у беларускай мове існуе шмат праблем [параўн.: 19, с. 57–63]). Не скланяюцца жаночыя прозвішчы на зычны (скланенне адрознівае мужчынскія прозвішчы ад жаночых), а таксама мужчынскія і жаночыя прозвішчы на *-о* і прозвішчы на *-ых/-іх*. Прозвішчы іншамоўнага паходжання звычайна патрабуюць побач дадатковай інфармацыі (гл. таксама прыклад [165]):

[155] *беларуская спартсменка ўпэўнена абыграла амерыканку Слоан Стывенс* (21.01.)

адназначныя назвы асоб жаночага полу тыпу *спадарыня, дама, пані, міс, місіс* і г. д.:

[156] *паспяховая бізнес-лэдзі* (29.01.)

[157] *арганізатары чакаюць усіх ахвотных паказаць сябе і прадэманстраваць разнастайныя таленты ў барацьбе за тытулы «Міс Беларусь», «Містар Беларусь» і «Місіс Беларусь»* (11.02.)

[158] *Вікторыя дэманструе «даму» ў шыкоўным касцюме … Ну а дамы ў стылі XIX стагоддзя … маюць нават сумачкі* (04.03.)

[159] *Рыхтуючыся да сустрэчы з … Марыяй Старавойтавай, я ўяўляла сабе магутную даму з суровым характарам* (04.03.)

[160] *Аднак сярод беларускіх міністраў — толькі адна дама* (07.03.)

[161] *Спадарыня Лацэ-Атэ сама сустрэла карэспандэнта на першым паверсе консульства … Спадарыня Лацэ-Атэ, няўжо ў вас няма памочніка, сакратара?* (10.03.)

[162] *Усім вядомы яе вобраз «жалезнай лэдзі»* (19.03.)

[163] *Некаторыя лічаць, што такі занятак ператварае лэдзі ў «пацанку», але гэта не так* (02.04.)

У беларускай мове тэарэтычна ёсць магчымасць выкарыстоўваць аналітычную канструкцыю тыпу *спадарыня прафесар, спадарыня дырэктар, спадарыня консул* і г. д., але і так яна ўжываецца вельмі абмежавана, найбольш распаўсюджанай формай непасрэднага звароту да іншай асобы або выказвання пра яе якой-н. думкі з'яўляецца імя, імя па бацьку, прозвішча. Менавіта магчымасць ужывання аналітычнай формы звароту лічыцца вырашальным крытэрыем выкарыстання не жаночай, а мужчынскай граматычнай формы ў польскай мове ў адносінах да жанчын.

Жаночыя формы азначэння, выказніка (у прошлым часе):

[164] *Не магу пахваліцца нейкім талентам, каб у момант прачнуцца знакамітай* (07.03.)

[165] *Сустракаючыся ўчора са старшынёй Нацыянальнага сходу Лаоскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі Пані Ятхоту … У сваю чаргу Пані Ятхоту*[1] *пагадзілася …* (23.04.)

Азначэнне, выражанае назоўнікам, дапасаванае ў склоне, ліку і часам родзе, у беларускім мовазнаўстве называецца прыдаткам. Здараецца, прыдаткі дублююць значэнне 'асоба жаночага полу', супадаюць з паяснёным словам і ў родзе, іншыя — гэта назоўнікі мужчынскага або агульнага (супольнага) роду:

[166] *здараецца такое, што мужчыны шукаюць управы на жонак-п'яніц, якія забываюцца пра дзяцей* (11.02)

[167] *калі жанчыны-п'яніцы нараджаюць дзяцей у стане алкагольнага ап'янення* (05.03.)

[168] *дзякуючы легендарным жанчынам-змагаркам звычайныя працаўніцы атрымалі свята* (14.03.)

[169] *Вучонае званне прафесара маюць 227 выкладчыкаў-жанчын* (20.03.)

[1] Дзе Пані — гэта імя, а не форма ветлівага звароту да асобы жаночага полу.

[170] *дзяўчаты-майстрыхі* (27.03.)

[171] *Адзіная на той момант жанчына-вадзіцель таксі скончыла Берлінскую школу вадзіцеляў* (02.04.)

**3.** Невытворныя жаночыя назвы, якія адназначна называюць асобу жаночага полу (featured рознага ўзросту, ступені роднасці, сваяцтва), тыпу *дзяўчынка, дзяўчына, жанчына, жонка* і г. д.

[172] *розныя дробязі для жонак, матуль, каляжанак* … (01.03.)

[173] *Прычым нявеста гэта славянская* (04.03.)

[174] *А яшчэ Яніна Міхайлаўна — бабуля цудоўнай трохгадовай дзяўчынкі Лізаветы* (04.03.)

[175] *А ў тэатр прыйшлі маладыя дзяўчаты — няхай іграюць!* (07.03.)

[176] *Не важна, хто яна — маці, нявеста, жонка, дачка* ... (07.03.)

[177] *Гэта цемнаскурая дзяўчына* ... (07.03.)

[178] *Бабуля працуе на агародзе* (13.03.)

[179] *Цётка Ганна, дапамажы! … цётачка, ратуй!* (14.03.)

**4.** Субстантываваныя прыметнікі і дзеепрыметнікі ў функцыі назоўнікаў, што адназначна называюць асобу жаночага полу:

[180] *вядучая Кацярына Забаўская* (18.04.)

[181] *Ларыса Грыбалёва (тэлевядучая) … Вольга Барабаншчыкава (радыёвядучая)* (23.04.)

[182] *Пакінь, дарагая, посуд*… (01.03.)

[183] *Быў у вучонай … і асабісты матыў* (01.02.)

[184] *Паводле слоў затрыманай, сустрэча з кліенткай на вакзале была яе «дэбютам»* (05.02.)

Здараецца, што асобныя прафесійныя назвы выступаюць выключна ў мужчынскай граматычнай форме:

[185] *Следчы па асабліва цяжкіх справах СК па Магілёўскай вобласці Алена Краўчанка займалася гэтай справай не адзін месяц* (29.03.)

[186] *Адказы на гэтыя пытанні шукаем разам са старшым следчым упраўлення працэсуальнага кантролю ўпраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці Аленай Банцар* (23.01.)

**5.** Метафарычныя назвы, устойлівыя словазлучэнні, якія адносяцца толькі да жанчын:

[187] *дзесяціручка… берагіня… прыгажуня* (04.03.) у адносінах да лялькі, якая ёсць «праекцыяй» жанчыны.

[188] *Тым больш, што з кожным годам дзяўчына становіцца ўсё больш прыкметнай фігурай у айчынным спорце* (23.04.)

[189] *Перавышае колькасць прадстаўніц слабага полу … У гэтым звяне працуюць каля 8 тысяч прадстаўніц прыгожага полу* (20.03.)

[190] *Сама спартсменка на сустрэчу крыху затрымлівалася, як і належыць сапраўднай «зорцы»* (22.04.)

[191] *Лялька, а ў баскетболе разбіраецца!* (02.04.)

[192] *першая жонка Шагала была музай* (12.02.)

## Вывады

На падставе аналізу матэрыялу выдзелена пяць асноўных экспанентаў полу:

**1. Марфалагічныя** (флектыўныя і словаўтваральныя марфемы) экспаненты. Належаць да іх марфемы асабовых назоўнікаў (субстантываваных прыметнікаў і дзеепрыметнікаў), а таксама азначэнняў (прыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў) і дзеясловаў. Гэта група вельмі разнародная.

**Флектыўныя** экспаненты. Недастатковым будзе сказаць, што мужчынскія канчаткі адносяцца да асоб мужчынскага полу, а жаночыя — да асоб жаночага полу. Існуе цэлы шэраг выключэнняў, сярод якіх знаходзяцца назвы асоб мужчынскага полу тыпу *бацька, дзядуля, выступоўца, прамоўца*, назвы граматычна мужчынскія тыпу *чалавек*, граматычна жаночыя назвы тыпу *асоба, постаць, мадэль*, метафарычныя, напр. *твар*, *фігура*, *зорка*, якія адносяцца і да жанчын, і да мужчын.

Адназначнымі флектыўнымі элементамі полу з'яўляюцца:

а) прозвішчы, якія скланяюцца як прыметнікі на *-скі (-ска), -ёў/-оў/-аў/-яў (-ава),* напр. *Сакалоўскі (-ая), Жураўлёў (-ёва), Машэраў (-ава), Кароткі (-ая)*;

б) скланенне мужчынскіх прозвішчаў на зычны супраць нескланяльных жаночых, напр., *з выкладчыкам Дарашэвічам*, але: *з выкладчыцай Дарашэвіч*;

в) субстантываваныя прыметнікі, дзеепрыметнікі, напр. *важаты (-ая), участковы, падазроны (-ая), замужняя, жанаты* і г. д.;

г) флектыўныя формы асабовых (*ён, яна*), прыналежных (*мой* (*-ая*)*, твой* (*-ая*)*, свой* (*-ая*)) і азначальных (пытальных) займеннікаў (*якія (-ая)*));

д) скланенне мужчынскіх назваў, якія могуць адносіцца да асоб абодвух полаў, супраць нескланяльных жаночых, напр. *сустрэць спадара дырэктара Мальдзіса*, але: *сустрэць спадарыню дырэктар Мальдзіс*;

е) не з'яўляюцца дастатковымі і адназначнымі экспанентамі канчаткі назоўнікаў множнага ліку, калі форма множнага ліку суадносіцца з мужчынскай назвай у адзіночным ліку, напр. *настаўнікі — настаўнік* (а не *настаўніцы — настаўніца*). Такія назвы могуць абазначаць або выключна асоб мужчынскага полу, або асоб незалежна ад полу, або пол увогуле не з'яўляецца істотным для кантэксту, параўн.: *Спартсмены і спартсменкі беларускай зборнай прывезлі з алімпіяды медалі*; *Беларусы прывезлі з алімпіяды медалі*.

**Словаўтваральныя** элементы. Жаночыя суфіксы, якія да асноўнага значэння лексемы дадаюць дадатковае значэнне 'асоба жаночага полу', напр. *аўтар**к**а, артыст**к**а, удзельн**іц**а, стваральн**іц**а, майстр**ых**а*. Мужчынскія суфіксы, якія дадаюць дадатковае значэнне 'асоба мужчынскага полу', нешматлікія або гэта нульсуфіксацыя, напр.: *удава — удавец, даярка — даяр, прыгажуня — прыгажун*.

**2. Лексічны** моўны ўзровень. Яны заўсёды маюць адназначнае аднясенне да асоб канкрэтнага полу ці да мяшанай аўдыторыі (і жанчыны, і мужчыны).

Парныя лексемы, тыпу *жанчына — мужчына, кабета — мужык, сын — дачка, нявеста — жаніх*. Трохі інакш сітуацыя выглядае са зборнымі назоўнікамі ці субстантываванымі прыметнікамі, дзеепрыметнікамі ў форме мн. л.: *моладзь, кіраўніцтва, публіка, зборная Беларусі, усе ахвотныя* — да канца не ведаем (хіба што з кантэксту ці кансітуацыі), абазначаюць яны толькі мужчын, толькі жанчын ці асоб незалежна ад полу.

**3. Сінтаксічны** ўзровень. Да сінтаксічных экспанентаў адношу флектыўныя формы дапасаваных да назоўнікаў лексемаў (азначэнняў і выказніка, выражанага дзеясловам у прошлым часе адз. л.), напр.: *Да мяне прыйшла мая сяброўка*; *Да мяне прыйшоў мой сябар*. У такім выпадку сінтаксічныя элементы дублююць марфалагічныя элементы. Аднак, калі граматычная форма назоўніка можа семантычна абазначаць і асобу мужчынскага полу, і асобу жаночага полу, сінтаксічныя элементы з'яўляюцца вельмі істотнымі: *Наша прафесар цікава распавядала*; *Наш прафесар не згаджаўся з іх меркаваннямі*. Ёсць кантэксты, у якіх формы азначэння і выказніка ў прошлым часе не заўсёды адназначна інфармуюць пра пол асобы: *Трэба быць вялікім альтруістам, каб у вольны ад працы час займацца грамадскімі справамі*. Мужчынскі канчатак азначэння, дапасаванага да назоўніка мужчынскага роду, не можа быць экспанентам полу, паколькі спалучэнне *вялікі альтруіст* можа абазначаць любую асобу незалежна ад полу.

**4. Кантэксты.** Каб суаднесці некаторыя назоўнікі з канкрэтным полам, патрэбна звярнуцца да шырэйшага кантэксту. Асабліва гэта датычыць шматлікіх назоўнікаў м. р. (або іх эквівалентаў) як у адз. л., так і мн. л. Іх семантычна-сінтаксічная сувязь з іншымі словамі ў тэксце дазваляе вызначыць пол асобы або супольнасць, якая складаецца з жанчын і мужчын адначасова, напр.: *Пакуль што зрэзаныя кветкі не купляюць, толькі замаўляюць на пэўны дзень, і адразу шмат букетаў, — распавяла жанчына. — Я так зразумела, калег будуць віншаваць.* (рэпартаж пра прыгатаванні да святкавання 8 сакавіка; 05.03).

**5. Кансітуацыі.** Неаднойчы кантэкст недастатковы, каб вызначыць, да якога полу адносіцца тая ці іншая назва. Пол асобы, да якой адносіцца мужчынскі назоўнік (або ягоны эквівалент), можна канкрэтызаваць, калі будзе ўлічана кансітуацыя (агульныя веды пра асоб, якія размаўляюць (пішуць, чытаюць), стратэгіі выказвання, мэты выказвання), гістарычны і культурны кантэкст (веданне стэрэатыпаў).

І кантэксты, і кансітуацыі не заўсёды адназначныя, не заўсёды проста вызначыць пол асобы, асабліва калі неадназначнасць таго ці іншага полу была наўмысная (параўн.: [35, с. 47]). Часта ў прыкладах выступаюць розныя камбінацыі пералічаных экспанентаў. Адназначны, а адначасова найбольш паспяховы спосаб вызначэння полу назвы — гэта лексічны ўзровень (назвы невытворныя), а таксама мужчынскія і жаночыя персанальныя назвы (імёны, прозвішчы, імёны па бацьку). Марфалагічныя і сінтаксічныя экспаненты

спраўджваюцца толькі ў аднясенні да асоб жаночага полу. Марфалагічныя і сінтаксічныя паказчыкі мужчынскага полу дадаткова павінны пацвердзіць іншыя паказчыкі (лексічныя, кантэкставыя, кансітуацыйныя).

Польская даследчыца, манаграфія якой была для нас інспірацыяй, прапануе звярнуць увагу на семантыку назвы і на стыль тэксту, абодва фактары ўплываюць на выбар жаночай ці мужчынскай формы ў адносінах да жанчыны [35, с. 153–154]. На нашу думку, гэтае меркаванне істотнае і для афіцыйнай беларускай мовы. Назвы, якія называюць (характарызуюць) асобу паводле нацыянальнай прыналежнасці, паходжання, сваяцтва, веравызнання, псіхічных і фізічных рыс, маюць часцей за ўсё граматычную форму, суадносную з полам (*беларус — беларуска, селянін — сялянка, пляменнік — пляменніца, каталік — каталічка, русы — русая* і г. д.). Яны нейтральныя і ўжываюцца незалежна ад стылю мовы. Каб адказаць на пытанне, ці датычыць сказанае ўсіх назваў падобнага тыпу, патрэбна дадатковае даследаванне. Як падкрэсліваў У. Іваноў, нават для «Нашай Нівы» або «Arche» фемінізацыя назваў — гэта не заўсёды простае заданне: «Значна цяжэй журналістам фемінізаваць назвы пасадаў палітычнага вымярэння ўлады і сімвалічнай значнасці» [7, с. 78].

Што датычыць публіцыстычнага стылю беларускай мовы, то, як вынікае з аналізу матэрыялу, у публіцыстыцы адчуваецца ўплыў «жывой мовы» — у яе трапляе ўсё больш жаночых назваў. У выпадку беларушчыны з абмежаваным гутарковым варыянтам гэты факт можна разглядаць як уздзеянне незалежных СМІ, што карыстаюцца «тарашкевіцай», мастацкай літаратуры і мовы вёскі.

## Літаратура


1. Атраховіч, К. К. Граматыка беларускай мовы: у 2 т. Т. І. Марфалогія / К. К. Атраховіч, М. Г. Булахаў. — Мінск, 1962.
2. Багамолава, А. М. Стылістыка і культура беларускага маўлення / А. М. Багамолава, Г. К. Семянькова. — Мінск, 2012.
3. Гапеева, В. Да гісторыі пытання: феміністкая крытыка мовы. 8 сакавіка 2012 / В. Гапеева. [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://artaktivist.org/da-gistoryi-pytannya-feminisckaya-krytyka-movy. — Дата доступу 18.06.2014.
4. Гарбацкі, У. [Іваноў У.] Аб фэмінізацыі беларускай мовы: фэмінізацыя nomina agentis і пэўных іншых катэгорыяў у сучаснай беларускай мове / У. Гарбацкі. — Лестэр, 2012.
5. Жыдовіч, М. А. Назоўнік у беларускай мове: у 2 ч. Ч. 1. Адзіночны лік / М. А. Жыдовіч. — Мінск, 1969.
6. Іваноў, І. Прабуджаць мову з патрыярхатнага сну. 21.11.2012 / І. Іваноў [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://www.arche.by/by/page/print/12953. — Дата доступу: 18.06.2014.
7. Іваноў, У. Фемінізацыя nomina agentis беларускай мовы і праблема каланізацыі / У. Іваноў // Палітычная сфера. — 2011. — № 16–17 (1–2). — С. 73–86.
8. Карпенка, М. Ёсць такая прафесія / М. Карпенка // Маладосць. — 2013. — № 2. — С. 3.

9. Красней, В. П. Функцыянальна-стылявая дыферэнцыяцыя беларускай літаратурнай мовы / В. П. Красней // Lukašanec A., Prygodzič M., Sjameška L. (red.). Najnowsze dzieje języków słowiańskich. Беларуская мова. — Opole, 1998. — С. 223–260.
10. Ліхтаровіч, Ю. Фэмінізацыя беларускай мовы. 2008 / Ю. Ліхтаровіч [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://nn.by/index.php?c=ar&i=15057. — Дата доступу: 18.06.2014.
11. Лукашанец, А. А. Словаўтварэнне / А. А. Лукашанец // Lukašanec A., Prygodzič M., Sjameška L. (red.) Najnowsze dzieje języków słowiańskich. Беларуская мова. — Opole, 1998. — С. 155–190.
12. Лукашанец, А. А. Прадмова да: А. К. Усціновіч. Слоўнік асабовых уласных імён / А. А. Лукашанец. — Мінск, 2011. — С. 3–6.
13. Макмілін, А. [Рэц.] Гарбацкі, У. Аб фэмінізацыі беларускай мовы: фэмінізацыя nomina agentis і пэўных іншых катэгорыяў у сучаснай беларускай мове. — Лестэр, 2012. — 99 с. / А. Макмілін // Журн. беларусазнаўчых даследаванняў. — 2013. — С. 127–129 [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступу: http://belarusjournal.com/sites/default/files/McMillin%20Feminization%20of%20the%20Belarusian%20Language%20Review.pdf. — Дата доступу: 11.08.2014.
14. Наркевіч, А. І. Назоўнік. Граматычныя катэгорыі і формы / А. І. Наркевіч. — Мінск, 1976.
15. Паўленка, М. А. Нарысы па беларускаму словаўтварэнню. Жаночыя асабовыя намінацыі ў старабеларускай мове / М. А. Паўленка. — Мінск, 1978.
16. Плотнікаў, Б. А. Беларуская мова. Лінгвістычны кампендыум / Б. А. Плотнікаў, Л. А. Антанюк. — Мінск, 2003.
17. Плотнікаў, Б. А. Слоўнік цяжкасцяў беларускай мовы / Б. А. Плотнікаў, В. П. Трайкоўская. — Мінск, 2004.
18. Сіўковіч, В. М. Беларуская мова ў пытаннях і адказах / В. М. Сіўковіч. — Мінск, 2013. — 2-е выд.
19. Сцяцко, П. Культура мовы / П. Сцяцко. — Мінск, 2002.
20. Сямешка, Л. І. Курс беларускай мовы / Л. І. Сямешка, І. Р. Шкраба, З. І. Бадзевіч. — Мінск, 1996.
21. Суднік, М. Р. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / М. Р. Суднік, М. Н. Крыўко. — Мінск, 1999. — 2-е выд.
22. Цікоцкі, М. Я. Стылістыка беларускай мовы / М. Я. Цікоцкі. — Мінск, 1976.
23. Шкраба, І. Р. Граматычныя змены / І. Р. Шкраба // Lukašanec A., Prygodzič M., Sjameška L. (red.). Najnowsze dzieje języków słowiańskich. Беларуская мова. — Opole, 1998. — С. 191–205.
24. Шуба, П. П. Сучасная беларуская мова: Марфаналогія. Марфалогія / П. П. Шуба. — Мінск, 1987.
25. Юрэвіч, А. К. Стылістыка беларускай мовы / А. К. Юрэвіч. — Мінск, 1992.
26. Яўневіч, М. С. Сучасная беларуская мова. Марфалогія / М. С. Яўневіч (рэд.). — Мінск, 1997.
27. Яўневіч, М. С. Сінтаксіс сучаснай беларускай мовы / М. С. Яўневіч, П. У. Сцяцко. — Мінск, 2006.
28. Bańko, M. Inny słownik języka polskiego. T. 1–2 / M. Bańko. — Warszawa, 2000.
29. Kucała, M. Rodzaj gramatyczny w historii polszczyzny / M. Kucała. — Wrocław, 1978.

30. Kucała, M. Zmiany semantycznych podstaw rodzaju gramatycznego w języku polskim / M. Kucała // Z polskich studiów slawistycznych. Seria 5. Językoznawstwo. — Warszawa, 1978. — S. 137–142.
31. Langacker, R. W. Foundation of Cognitive Grammar. Vol. 1. Theoretical Prerequisites / R. W. Langacker. — Stanford, 1987.
32. Langacker, R. W. Semantyka językoznawcza / R. W. Langacker; tłum. A. Głaz // Etnolingwistyka–16. Problemy języka i kultury. — 2004 [1988]. — S. 29–73.
33. Laskowski, R. Kategorie morfologiczne języka polskiego / R. Laskowski // Gramatyka współczesnego języka polskiego. Morfologia / red. R. Grzegorczykowa, R. Laskowski, H. Wróbel. — Warszawa, 1998. — Wyd. 2 zmen.
34. Mańczak, W. Ile jest rodzajów w języku polskim? / W. Mańczak // Język Polski. XXXVI. Z. 2. — 1956. — S. 116–121.
35. Nowosad-Bakalarczyk, M. Płeć a rodzaj gramatyczny we współczesnej polszczyźnie / M. Nowosad-Bakalarczyk. — Lublin, 2009.
36. Saloni, Z. Kategoria rodzaju we współczesnym języku polskim / Z. Saloni // Kategorie gramatyczne grup imiennych w języku polskim. Materiały Konferencji w Zawoi, 13–15.XII.1974. — Wrocław, 1976.
37. Wierzbicka, A. The Semantics of Grammar (Studies In Language Companion Series 18) / A. Wierzbicka. — Amsterdam; Philadelphia, 1988.
38. Wierzbicka, A. Język — umysł — kultura. Wybór prac / A. Wierzbicka; red. J. Bartmińskiego. — Warszawa, 1999.
39. Zaron, Z. Aspekty funkcjonowania polskiej kategorii rodzaju. Charakterystyka fleksyjna / Z. Zaron. — Warszawa; Puńsk, 2004.
40. Zieniukowa, J. Rodzaj męski osobowy we współczesnych językach zachodniosłowiańskich / J. Zieniukowa. — Wrocław, 1981.

---

**Radosław Kaleta** *(Warszawa, Polska)*

## KILKA UWAG O NAUCZANIU POLAKÓW JĘZYKA BIAŁORUSKIEGO JAKO OBCEGO

Niniejszy artykuł poświęcony jest językowi białoruskiemu jako obcemu (JBJO) w kontekście nauczania tego języka rodowitych dorosłych Polaków. Celowo zatem język białoruski nie będzie tu nazywany językiem mniejszości narodowej (temu zagadnieniu było poświęconych wiele prac, m.in. profesor Niny Barszczewskiej [2, s. 339–350; 3, s. 95–98; 28, s. 342–353]). Nie chodzi bowiem o Polaków pochodzenia białoruskiego, dla których język białoruski jest językiem drugim (L2), którego uczą się w Polsce jako języka przodków (choć z pewnością niektóre uwagi poczynione niżej można by także odnieść do tej grupy uczących

się, gdyż często osoby zaliczające się do białoruskiej mniejszości narodowej nie znają języka białoruskiego podobnie jak rodowici Polacy).

Przede wszystkim należy podkreślić, że metodyka wykładania języka białoruskiego jako obcego dla Polaków nie została dogłębnie opracowana w jednej publikacji książkowej. Istnieją pojedyncze prace związane mniej lub bardziej z przybliżaniem języka białoruskiego Polakom. Można wśród nich wyróżnić rozmówki oraz skrypty i opracowania głównie dla studentów slawistyki. Ich autorzy, tacy jak: Teresa Jasińska (autorka m.in. wielu podręczników szkolnych dla polskich szkół z dodatkową nauką języka białoruskiego), Jadwiga Głuszkowska czy Anna Bagrowska, związani byli z białorutenistyką warszawską. W latach 80. XX w. wydano np. *Skrypt do zajęć praktycznych z języka białoruskiego (dla studentów I i II roku)* [10], *Skrypt do zajęć praktycznych z języka białoruskiego. Leksyka i leksykologia* [11], *Skrypt do zajęć praktycznych z języka białoruskiego. (Wybór zagadnień morfologiczno-składniowych)* [12] oraz *Wybór tekstów do zajęć praktycznych z języka białoruskiego* [1]. Trochę później, na początku lat 90. XX w. zostały wydane *Mini-rozmówki białoruskie* [25], których współautorem był niegdysiejszy absolwent warszawskiej białorutenistyki — Stanisław Szadyko. Rozmówki z natury rzeczy miały charakter popularyzujący język białoruski (już sama nazwa wydawnictwa — *Wiedza Powszechna* — była bardzo wymowna i symboliczna) i były przeznaczone dla szerszej rzeszy odbiorców, głównie — jak czytamy we wstępie — «dla turystów polskich wyjeżdżających na krótki pobyt do Białoruskiej SRR» [25, s. 5].

W latach 1991–1992 ukazały się na Katolickim Uniwersytecie Lubelskim dwie części *Gramatyki języka białoruskiego*, których autorem był Teotyn Rott-Żebrowski [21 i 22]. W roku 2000 ukazały się nakładem Wydawnictwa Uniwersytetu Marii Curie-Skłodowskiej w Lublinie *Materiały do praktycznej nauki języka białoruskiego* autorstwa Niny Sajewicz [23]. Wydanie przygotowywane było głównie z myślą o studentach filologii białoruskiej, ale z powodzeniem można je wykorzystywać także na innych lektoratach czy w pracy indywidualnej. Książka zawiera słownictwo tematyczne oraz teksty z literatury pięknej i publicystyki. Jest to cenne kompendium, bardzo rzetelnie opracowane, nieodzowne zwłaszcza na pierwszych etapach nauki, ale nie tylko.

W 2007 r. w Białymstoku wydano dwie pozycje pomocnicze na lektoraty języka białoruskiego głównie z myślą o studentach filologii białoruskiej: *Беларуская мова. Дапаможнік для студэнтаў беларускай філалогіі. Курс 1* autorstwa Ludmiły Siegień [35] oraz *Беларуская мова. Дапаможнік для студэнтаў беларускай філалогіі. Курс 2* autorstwa Aliny Filinowicz [36].

W roku 2010 w Krakowie ukazała się książka pt. *Крок да кроку знаёмімся з Беларуссю: мова, культура, краязнаўства* / *Krok po kroku poznajemy Białoruś: język, kultura, krajoznawstwo* białoruskiego autora Dzmitrego Kliabanaua [33]. Jest to niezwykle cenna pozycja przygotowana dla Polaków przez rodowitego Białorusina. W książce znajdują się teksty i słowniczki w języku białoruskim i języku

polskim. Wyjątkową zaletą wydania jest dodatkowy aspekt kulturoznawczy — można uczyć się języka białoruskiego i jednocześnie poznawać Białoruś, jej walory przyrodnicze, historię, sztukę, literaturę itd. To nowość w ujęciu nauczania języka białoruskiego Polaków, choć tego rodzaju metody znane są dobrze w metodyce zachodniej. Książka ta wypełniła pewną lukę na rynku [zob. 15].

W 2012 r. w Białymstoku wydano materiały pomocnicze do nauki języka białoruskiego dla studentów filologii rosyjskiej, pt. *Беларуская мова. Дапаможнік па беларускай мове для студэнтаў рускай філалогіі* [30, zob. też 14].

Nauczanie języka białoruskiego Polaków nieczęsto jest przedmiotem referatów, ale warto tu wymienić artykuł Agnieszki Goral pt. *Kulturoznawcze materiały z internetu na lekcjach języka białoruskiego w szkole wyższej* [5].

Istnieje też opracowanie amatorskie służące popularyzacji języka białoruskiego wśród Polaków pt. *Język białoruski. Podręcznik dla Polaków zainteresowanych Białorusią i Ukrainą* [19]. Pomimo przyciągającego tytułu wydanie to w formie e-booka zawiera na 35 stronach jedynie podstawowe informacje o języku białoruskim. Dla autora język białoruski jest narzędziem walki politycznej oraz rzekomego wsparcia dla demokratyzacji Białorusi: «W dzisiejszej Białorusi, rządzonej przez autorytarnego przywódcę o rosyjskiej mentalności, język białoruski stał się językiem sprzeciwu wobec władz oraz symbolem wolnościowych poglądów. Język ten funkcjonuje niejako w drugim obiegu i jest używany przez ludzi, którzy w ten sposób manifestują swoją przynależność do sfery kultury zachodniej i opowiadają się za europejską Białorusią. Jest to język alternatywnej, zakazanej przez władze kultury oraz jeden z symboli Wolnej Białorusi, która przecież prędzej czy później nastąpi. Dlatego też nauka języka białoruskiego przez Polaków jest bardzo ważnym gestem solidarności ze wszystkimi tymi Białorusinami, którzy wierzą w to, że ich kraj przestanie być kolonią Rosji i stanie się w pełni wolny i demokratyczny» [19].

Warto podkreślić, że tego typu poglądy na temat języka białoruskiego są z jednej strony prywatną opinią autora, ale z drugiej strony pogłębiają pewien stereotyp na temat białoruszczyzny, czyli w konsekwencji szkodzą i samemu językowi, i ludziom, którzy bez żadnych podtekstów politycznych chcą się nim posługiwać. Zachęcanie Polaków do wyrażania swojej solidarności poprzez naukę języka białoruskiego wydaje się bardzo wątpliwe, gdyż Polacy nie muszą być zaangażowani w politykę białoruską, a już na pewno nie musi to być powód uczenia się języka. Z pewnością można znaleźć inną, wydaje się, że bardziej popularną, motywację do nauki języka białoruskiego przez Polaków, np. chęć poznania języka i kultury sąsiada itp. Godna pochwały jest jednak idea (szkoda, że upolityczniona) stworzenia podręcznika języka białoruskiego dla konkretnej narodowościowej grupy odbiorców — w tym przypadku Polaków. Taką ideę należałoby wcielić w życie na profesjonalnym metodycznie poziomie zgodnie ze światowymi standardami nauczania języków obcych. Zamiast ideologii warto byłoby pokazać język białoruski jako istniejący od dawna język z tradycjami historyczno-literackimi, któremu niczego nie brakuje w systemie językowym. Odmitologizowanie i nadanie neutral-

ności językowi białoruskiemu jest podstawą jego oczyszczenia i rozwoju. Jest to język jak każdy inny, ani nie lepszy, ani nie gorszy wbrew różnym stereotypom. Podobną ideę stara się miejscami podkreślić podręcznik języka białoruskiego dla obywateli państw członkowskich WNP pt. *Белорусский язык для стран СНГ: учебник*, wydany w Moskwie w 2012 r. [34, s. 6].

Warto podkreślić, że obecnie w Katedrze Białorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego został opracowany przez dr Teresę Jasińską-Sochę przy współpracy dr Teresy Chylak-Schroeder i dr Jadwigi Głuszkowskiej-Babickiej nowy podręcznik do nauki języka białoruskiego pt. *Język białoruski (poziom podstawowy i średniozaawansowany)* [13] przeznaczony dla studentów I i II roku białorutenistyki. Opracowanie to już po redakcji i pozytywnej recenzji wkrótce powinno się ukazać drukiem. Zawierać będzie współczesne teksty, wzbogacone słownictwo i różnorodne ćwiczenia gramatyczne, które z pewnością mogą być wykorzystywane nie tylko na kursach dla studentów.

Nowe opracowania powstają mimo niełatwej sytuacji języka białoruskiego. Profesor Nina Barszczewska podkreśla spadek zainteresowania tematyką białorutenistyczną w Polsce, a nawet stwierdza, co następuje: «Język białoruski w Polsce nie cieszy się popularnością przede wszystkim ze względu na wąski zakres użycia na Białorusi, gdzie występuje wyraźna dominacja języka rosyjskiego w różnych sferach życia» [3, s. 98].

Mimo tak pesymistycznych wniosków w warunkach polskich języka białoruskiego jako obcego można uczyć się w ramach bezpłatnego kursu języka białoruskiego organizowanego w Warszawie przez *Mova ci kava* (*Мова ці кава*) oraz w trzech szkołach wyższych: Uniwersytecie w Białymstoku, Uniwersytecie im. Marii Curie-Skłodowskiej w Lublinie oraz Uniwersytecie Warszawskim (głównie w Katedrze Białorutenistyki, choć lektoraty języka białoruskiego są oferowane studentom także w Katedrze Studiów Interkulturowych Europy Środkowo-Wschodniej oraz Studium Europy Wschodniej). Umiejscowienie Katedry Białorutenistyki [27, s. 483–489] w jednym z najlepszych uniwersytetów w Polsce i do tego w centrum kraju sprawia, że na studia białorutenistyczne nie zgłaszają się wyłącznie absolwenci szkół z dodatkową nauką języka białoruskiego z Białostocczyzny czy osoby pochodzenia białoruskiego pragnące zgłębić tajniki mowy swych przodków. Coraz częściej bowiem białorutenistykę chcą studiować rodowici Polacy, czyli osoby bez korzeni białoruskich i niemający niczego wspólnego z mniejszością białoruską w Polsce. Ich motywacja do podjęcia studiów białorutenistycznych jest bardzo różna. Powodem może być już zwykła ciekawość, chęć wyróżnienia się, bycia w swego rodzaju awangardzie. Są też tacy kandydaci, którzy decydują się na tego typu studia, gdyż zetknęli się w jakiś sposób z białoruskością, np. dzięki podróży na Białoruś albo spotkaniu Białorusinów przebywających w Polsce, z którymi się poznali i nierzadko zaprzyjaźnili. Czasami takie przyjaźnie przeradzają się w związki małżeńskie. Oczywiście bieżące wydarzenia społeczno-kulturowo-polityczne też mają niemały wpływ. Zwrócenie uwagi polskiej opinii publicznej na szeroko

rozumiany Wschód (w tym i Białoruś) było możliwe także dzięki projektowi Unii Europejskiej znanym jako Partnerstwo Wschodnie, mistrzostwom Europy w piłce nożnej organizowanym w 2012 r. przez Polskę i Ukrainę czy mistrzostwom w hokeju organizowanym przez Białoruś w 2014 r. Bez względu na emocje, jakie tego typu inicjatywy mogą budzić, oczywisty jest fakt, że sprzyjają one promocji również Białorusi wśród Polaków.

W niniejszym szkicu główny akcent położony będzie na kilka wybranych kwestii dotyczących problematyki przyswajania języka białoruskiego jako obcego przez Polaków-studentów kierunku filologia białoruska (białorutenistyka). Oczywiście w jednym artykule nie jest możliwe wyczerpanie tego zagadnienia, które wymaga głębszej analizy, ale możliwe jest zarysowanie kilku kwestii o charakterze ogólnym.

Analiza prac studentów pozwala dojść do wniosku, że przy nauce JBJO konieczna jest bardzo dobra znajomość języka ojczystego (polskiego). Tylko dzięki temu możliwe będą zarówno unikanie pułapek językowych wynikających z interferencji, jak i poprawianie ewentualnych błędów. Tych niestety nie brakuje także w tłumaczeniach pisemnych, które studenci mogli wykonać bez presji czasowej. Już sama nazwa kraju *Рэспубліка Беларусь* tłumaczona bywa jako **Republika Białoruś*, czyli tak jak na stronie internetowej ambasady Białorusi w Warszawie, gdzie widnieje oficjalna nazwa *Ambasada Republiki Białoruś w Rzeczypospolitej Polskiej*. Podobną formę stosowała polska placówka w Mińsku — oficjalna nazwa brzmiała *Ambasada Rzeczypospolitej Polskiej w Republice Białoruś*. Obecnie na stronie internetowej występuje nazwa *Ambasada Rzeczypospolitej Polskiej w Mińsku*, choć na stronie polskiego MSZ widnieje oficjalna nazwa *Ambasada Rzeczypospolitej Polskiej w Republice Białorusi*. Może dziwić ten brak konsekwencji nazewniczej. Forma *Republika Białorusi* jest zgodna z wytycznymi Komisji Standaryzacji Nazw Geograficznych poza Granicami Polski przy Głównym Geodecie Kraju, gdzie wyszczególniono krótką nazwę *Białoruś* i nazwę oficjalną *Republika Białorusi* [17, s. 14] (podobnie *Republika Południowej Afryki* a nie *Republika *Południowa Afryka*). Studenci jednak tłumaczą z białoruskiego dosłownie, choć w analogicznej sytuacji dotyczącej ich kraju ojczystego udaje im się często uniknąć podobnego błędu i brus. *Рэспубліка Польшча* tłumaczą w zależności od kontekstu jako *Polska*, *Rzeczpospolita Polska* lub *RP*. Nikomu do głowy nie przyjdzie dosłowne tłumaczenie **Republika Polska*. Świadczy to o dobrym opanowaniu podstawowych realiów polskich. Tę kompetencję należałoby rozwijać i poszerzać na bardziej skomplikowane przypadki, nie tak oczywiste, jakby się wydawało.

Niemniej problemów stwarzają białoruskie nazwiska, które zwykle tłumaczone są na wzór oryginału. Nazwisko klasyka w zdaniach: *Аўтарам гэтай кніжкі з'яўляецца Васіль Быкаў* oraz *Дзесяць гадоў таму не стала Васіля Быкава* tłumaczone są jako *Bykau* i *Bykawa*. W języku polskim w jednym tekście powinny być jednolite formy albo *Bykaw* — *Bykawa*, albo *Bykau* — *Bykaua*. Polszczyzna nie zna alternacji: *-au : -awa*, o czym świadczą choćby odmiany takich nazwisk, jak: *Landau* — *Landaua* czy *Turnau* — *Turnaua* [18, s. 133]. Kolejną kwestią

jest tłumaczenie pseudonimu innego białoruskiego klasyka. *Вершы Янкі Купалы* tłumaczone na polski jako *Wiersze Janki Kupały* dla niezorientowanego polskiego czytelnika mogą odwoływać się do twórczości kobiety. Trzeba by w zależności od rodzaju tekstu poważnie przemyśleć wariant *Wiersze Jana Kupały* albo jeszcze lepiej możliwość podania także oryginalnego brzmienia — *Wiersze Jana Kupały (brus. Янка Купала)* [16].

Leksyka obu języków może być łudząco podobna, o czym świadczy tłumaczenie przez studentów następujących leksemów: *дзядзька* 'wujek' jako **dziadek*, *немаўля* 'niemowlę' jako **niemowa*, *заступнік* 'obrońca' jako **zastępca*, *святар* 'kapłan' jako **święty* itd. Jak się zatem okazuje, w ramach zajęć językowych potrzebne jest dogłębne omówienie homonimii i paronimii międzyjęzykowej (tzw. *fałszywych przyjaciół*), dzięki czemu studenci mogą nabrać trochę pokory językowej i nauczyć się ostrożności przy ocenie znaczeń ponoć oczywistych leksemów [por. 17 i 31].

Tłumaczenie z języka białoruskiego na język polski sprawia niemałe problemy i to zarówno na zajęciach, jak i w domu, gdzie bez pośpiechu i stresu można przyjrzeć się tekstowi zaproponowanemu do tłumaczenia. Niżej zostaną zaprezentowane oryginalne zdania z tekstów białoruskich (przeważnie z artykułów czy informacji prasowych dostępnych w Internecie) i ich tłumaczenia na język polski wykonane przez rodowitych Polaków. Zdanie: *Спецыялісты канстатуюць — беларускія жанчыны больш адукаваныя, чым мужчыны* zostało przetłumaczone na dwa różne sposoby. Wariant I brzmi: *Specjaliści stwierdzają — białoruskie kobiety są bardziej edukowane niż mężczyźni*, wariant II zaś: *Specjaliści stwierdzają — białoruskie kobiety bardziej wyedukowane, niż mężczyźni.* W wariancie I tylko w drugiej części zdania widać próby dostosowania białoruskiej składni do polskiej, stąd *kobiety <u>są</u> bardziej edukowane* zamiast *kobiety bardziej wyedukowane* jak w wariancie II. Zachowano myślnik z oryginału, ale słusznie nie przeniesiono do tłumaczenia przecinka przed *niż.* Wariant II pod tym względem całkowicie odbiega od polskiej interpunkcji. Dosłownie przetłumaczono także wyrażenie *беларускія жанчыны.* Po polsku dużo lepiej brzmiałaby forma *Białorusinki.* Ekwiwalenty typu *edukowane* czy *wyedukowane* także nie należą do najlepszych w porównaniu z neutralnym odpowiednikiem *wykształcone.* Można by się też zastanawiać, czy w danym kontekście od *bardziej* nie jest trafniejszy ekwiwalent *lepiej.* Całe zdanie można by przetłumaczyć jako: *Specjaliści stwierdzają, że Białorusinki są lepiej wykształcone niż Białorusini* albo *Specjaliści stwierdzają, że na Białorusi kobiety są lepiej wykształcone niż mężczyźni.*

Zdanie: *Сярод занятых у эканоміцы доля працуючых жанчын з вышэйшай адукацыяй складае 31 %* zostało przetłumaczone jako: *Wśród pracujących w dziedzinie ekonomii jest 31 % kobiet z wyższą edukacją.* Brus. *эканоміка* to pol. *gospodarka*, brus. *вышэйшая адукацыя* to pol. *wykształcenie wyższe*, a zatem tłumaczenie powinno wyglądać następująco: *Wśród osób zatrudnionych w gospodarce kobiety z wykształceniem wyższym stanowią 31 %.*

встречаются слова, заимствованныя изъ иностранныхъ языковъ, главнымъ же образомъ изъ Польскаго. Слова перешедшія изъ последняго языка преимущественно употребляются мелкою шляхтою, мещанами, ремесленниками, экономами, прикащиками и пр. Количествомъ этихъ словъ и распространеніемъ употребленія ихъ въ народе определяется нагляднымъ образомъ степень вліянія Польскаго языка на Белорусское наречіе» [2, уступнае слова К. Весялоўскага]. Як відаць, культурная, гістарычная і геаграфічная блізкасць беларускага народа і беларускай мовы да заходняга суседа дала падставы для «абвінавачвання» польскай мовы ў яе пранікненні ў беларускую гаворку і для наступнага вышэйзгаданага рэдагавання рэестру слоўніка.

**3.** Увогуле запазычаная лексіка прадстаўлена ў выданні даволі шырока, а ўказанне на паходжанне слова пададзена дастаткова паслядоўна. Аднак, акрамя лінгвістычнага запазычання, часта паказваецца і сацыяльнае паходжанне слова, г. зн. складальнік тлумачыць крыніцу з'яўлення слова ў побыце і маўленні носьбітаў мовы:

***Авантура**, заимствованное простолюдинами изъ высшаго класса. 1) Удивительное происшествіе. Во якая авантура! 2) Шалость. Надзелавъ авантуры. 3) Беда. Авантура съ тобою (2, с. 2);*

***Линованне**. Графленіе, линеваніе. Линованне папери.* (Слово употр. грамотными Белоруссами) *(2, с. 268);*

***Привата**, (употребляется горожанами). Постороннiй доход, особенно за частные уроки. Привату маець опричь жалования. На привату ходзиць (2, с. 497);*

***Припонтистое**, (употребляется грамотными, особенно духовными), перен. Заморское вино (от понтъ — море). Ромъ и всякое другое вино, прибавляемое къ чаю. А припонтистаго, съ припонтистымъ намъ не даси? (2, с. 508).*

Прамое ўказанне на паходжанне запазычаных слоў таксама частотна прадстаўлена ў слоўніку І. І. Насовіча — у выглядзе стылістычнай паметы або тлумачэння ў складзе семантычнай часткі да рэестравага слова:

***Адыстаръ**, нар. отъ Латин. Adistar. Точь-въ-точь. Адыстаръ бацька (2, с. 3);*

***Бенёхаць**. (Не отъ Еврейскаго ли: ben сынъ?) 1) Няньчить, качать ребенка на рукахъ. 2) Збенёхаць. Играть съ вещью, подобно, какъ съ ребенкомъ или съ куклою. Бенёхаешъ шклянку, покуль збенёхаешъ (2, с. 25);*

***Борохотодунаиць**. Дремать, качаясь въ разные стороны, подобно Еврею, молящемуся и наклоняющемуся въ разные стороны съ произношеніем молитвы «борух-ата-адонаи» — Слава тебе Боже. Борохотодунаю, кобылки не маю. Погов. (2, с. 31);*

***Вапоры**, (отъ Лат. vapor). перен. Капризы, упрямство. Зъ гетого мальца треба выгнаць дурные вапоры (2, с. 43);*

***Варта***, *(отъ Нем. Wer da? — кто тамъ?) 1) Кликъ ночной стражи: варта! 2) Ночная стража. Поставиць на ночь варту. Пошовъ на варту. 3) вообще: Сторожа чего либо. Варта колодниковъ. Варта полевая, садовая (2, с. 44);*

***Вёска***, *(отъ Слав. весь). Деревушка. Едзе черезъ тую вёску (2, с. 49).*

**4.** Паколькі ўплыў польскай мовы і польскай побытавай культуры адбываўся прама і ўскосна, то ўжыты ў артыкуле тэрмін *польскамоўнае запазычанне* закліканы падкрэсліць разнастайнасць спосабаў польскага ўплыву. У прыватнасці, у слоўніку І. І. Насовіча змяшчаюцца:

прамое ўказанне на запазычанне з польскай мовы:

***Габаць*** *(Польск. gabać — трогать; Лит. gaubti — собирать, gobus — алчный). Брать, трогать, нарушать. Габаешъ то, чего не положивъ. Загабавъ увесь хлебъ. Ёнъ габанувъ тутъ нешто (2, с. 106);*

***Гатунокъ*** *(отъ Польск. gatunek). Разборъ, свойство. Сукно хорошего гатунку (2, с. 110).*

***Зацненькій***, *смягч. от Польск. Зацный. Хорошенькій, пригоженькій. Зацненькій хлопчикъ. (2, с. 192).*

***Продоляты***. *Проволочка, откладываніе на будущее. Пусцивъ на продоляты то, што треба дзелаць скоро. Ты мене усё продолятами кормишъ, т.е. кормишъ завтраками (Заимств. изъ Польскаго) (2, с. 522).*

указанне на магчымае запазычанне з польскай мовы з прычыны існавання ў польскамоўным побыце:

***Балкомъ-песъ***. *Ругательное слово, значенія котораго впрочемъ простолюдины сами не понимаютъ. Слово это, по всей вероятности, переделано изъ Польскаго ругательного выраженія bal cię pies, «Балкомъ-песъ его» значит: Лихо его возьми, или собачій сынъ ёнъ (2, с. 13);*

***Войскій***. *1) Слово, оставшееся еще в употребленіи отъ Польскихъ чиновъ, Полковникъ. Панъ покойный Войскій Голынскій, хоць старъ бывъ, а ездивъ верхомъ хорошо. 2) Воинскій, военный. Вы войскіе людзи. Войская штука (2, с. 63);*

***Вино***. *Пики, масть въ карточной игре. Слово взято отъ винограда, изображаемаго на Польскихъ картахъ. Вино свециць (2, с. 58)*;

***Альваръ***. *Начальные основанія Латинскаго языка, составленныя іезуитомъ Альваресомъ и бывшія въ употребленіи въ Польскихъ ксендзовскихъ училищахъ и даже въ православныхъ семинаріяхъ. (Слово ныне редко употребляемое.) Отъ Альвара просто до алтаря. Посл. По альвару учився Лацины (2, с. 5).*

указанне на ўжыванне слова рознымі пластамі насельніцтва, у тым ліку і шляхтаю:

***Актъ***. *1) Церемонія, обрядъ. Актъ жалобный, актъ весельный. 2) юрид. Всякій вообще письменный документъ. Актъ вечистый, правный, продажный, единальный, заставный. (Слово употребл. шляхтою) (2, с. 4);*

***Апелеваць***, *юрид. Приносить жалобу высшему судебному месту или лицу на неправильное решеніе тяжебнаго дела въ низшемъ; подавать апеляцію. И апелявала, а ўсе пройграла. (Употр. шляхтами) (2, с. 7);*

***Вресень***. *(Время осени). мес. Сентябрь. Употребляется шляхтою (2, с. 70);*

***Дыета***. *Діета. Слово употр. шляхтою и мещанами. Седзиць на дыеце (2, с. 149).*

не ўказваецца паходжанне пры відавочным польскамоўным уплыве:

***Вонтпливосць***. *1) Сомненіе. Пустая твоя вонтпливосць. 2) Пугливость. Заичча у цебе вонтпливосць. 3) Торопливость, неуместная поспешность. Черезъ вонтпливосць свою все дзело спорцивъ (2, с. 66) — параўн.* ***wątpliwość*** *'сумненне, няпэўнасць' (польск.);*

***Дэтоноваць***. *1) Сбівать съ толку, съ тону, перебивать. Не дэтонуй его, нехай пеець. 2) Приводить въ замешательство. Дэтонуешъ, здэтоновавъ на первомъ слове хлопца (2, с. 150) — параўн.* ***detonować*** *'канфузіць, бянтэжыць' (польск.);*

***Митренга***. *1) Препятствіе. Давно въ дворе бывъ-бы, кабъ не гета митренга. 2) Безпокойство. Митренги наробивъ своимъ крикомъ (2, с. 285) — параўн.* ***mitręga*** *'цягамоціна, цяганіна, валакіта' (польск.);*

***Кревный***. *Близкій по прямой линіи родственникъ. Якъ свойму кревному не помочь! (2, с. 252) — параўн.* ***krewny*** *'сваяк' (польск.).*

Такім чынам, польскамоўнае запазычванне лексікі, змешчанай у рэестравым складзе «Слоўніка Беларускай мовы» І. І. Насовіча, мае як прамы, так і ўскосны (праз указанне на сацыяльныя групы насельніцтва, з побыту якіх пранікла слова) характар, што сведчыць не толькі пра ўласналінгвістычны, але і культурна-побытавы кантэкст вышэйназванага запазычвання.

## Літаратура


1. Гак, В. Г. Лексикография / В. Г. Гак // Лингвист. энцикл. словарь / гл. ред. В. Н. Ярцева. — М., 1990. — С. 258–259.
2. Насовіч, І. І. Слоўнік беларускай мовы / І. І. Насовіч. — Мінск, 1983.
3. Прыгодзіч, М. Р. З жыццяпісу і гісторыі стварэння «Словаря белорусского наречия» І. І. Насовіча / М. Р. Прыгодзіч // Спадчына Івана Насовіча і беларускае мовазнаўства: матэрыялы навук. чытанняў, прысв. 220-годдзю з дня нараджэння Івана Іванавіча Насовіча (18 лютага 2008 года, г. Мінск). — Мінск, 2008. — С. 16–28.
4. Шчэрбін, В. К. «Слоўнік беларускай мовы» І. І. Насовіча / В. К. Шчэрбін // Беларуская мова: энцыкл. / пад рэд. А. Я. Міхневіча. — Мінск, 1994. — С. 524–525.

**Таццяна Сакун** *(Мінск, Беларусь)*

# УПЛЫЎ ПОЛЬСКАЙ МОВЫ НА АДАПТАЦЫЮ ІНШАМОЎНЫХ СЛОЎ У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ Ў 1920–1930-я ГАДЫ

Прафесар Л. М. Шакун, характарызуючы працэс запазычвання напрыканцы XIX і ў пачатку XX ст., адзначыў важную ролю перыядычнага друку ў асэнсаванні яго вынікаў. «Паколькі друкавалася многа матэрыялаў, якія ішлі праз рускія інфармацыйныя каналы, то запазычвалася вялікая колькасць слоў з рускай мовы з уласцівымі для яе фармальнымі адзнакамі. Разам з тым выкарыстоўвалася лексіка і ў “заходнім”, польскімварыянце. Так у сучаснай беларускай літаратурнай мове вызначыліся дзве плыні ў афармленні запазычанай лексікі: “усходняя” — на ўзор рускай мовы і “заходняя” — на ўзор польскай мовы» [6, с. 25].

Мовазнаўцы канстатуюць уплыў польскай мовы на беларускую ў 1920-х і пачатку1930-х гадоў [1; 3; 5].

Крыніцамі нашага даследавання з’яўляюцца 269 беларускамоўных перыядычных выданняў рознай тэматычнай і грамадскай накіраванасці, якія ўбачылі свет на працягу 1920–1930-х гадоў. На іх старонках намі зафіксавана больш за 1000 гласіраваных іншамоўных слоў.

У беларускай мове ў гэты перыяд актыўна суіснавалі абедзве згаданыя вышэй плыні. У паведамленні звяртаецца ўвага на ўплыў польскай мовы, у першую чаргу як мовы-пасрэдніцы. Для параўнання іншамоўных слоў і іх адпаведнікаў мы выкарыстоўвалі перакладныя польска-беларускі і польска-рускі слоўнікі [2; 4]. Уплыў польскай мовы-пасрэдніцы на адаптацыю заходнееўрапейскай лексікі ў беларускай мове выявіўся на фанетыка-арфаграфічным, марфалагічным, словаўтваральным і лексіка-семантычным узроўнях. Можна меркаваць, што гэты ўплыў больш характэрны для перыядычных выданняў, якія выходзілі ў Заходняй Беларусі, найперш для віленскай перыёдыкі.

Як вядома, пачатковы этап адаптацыі іншамоўнай адзінкі звычайна прадугледжвае арыентацыю на этымон або адпаведнік у мове-пасрэдніцы. Калі этымон і адпаведнік у польскай мове-пасрэдніцы, а таксама адпаведнікі іншамоўнага слова ў абедзвюх мовах-пасрэдніцах (польскай і рускай) супадаюць — у гэтым выпадку працэс засваення іншамоўнага слова адбываецца, відаць, больш хуткімі тэмпамі, аднак дакладна вызначыць крыніцу ўплыву досыць складана, напрыклад: дэмпінг — польск. і англ. dumping: ***Dumping*** *aznačaje prapichańnie tawaraŭ na čužyja rynki pad canu sabiewartaści…* (ВК-31, № 2).

На фанетыка-арфаграфічным узроўні ўплыў польскай мовы на беларускую ў іншамоўных словах выявіўся праз наступныя адзнакі:

мяккі еўрапейскі гук *l* перад галоснымі *a, o, y*: баланс — польск. balans: *гандлёвы* ***балянс*** *(розьніца між сумай прывозу і вывазу тавараў)* (БД-25, № 30); каласальны — польск. kolosalny: *прыняў* ***колёсальны*** *(вялізарны) размер* (СН-27, № 17); кулуары — польск. kuluary: *у* ***кулюарах*** *(калідорах) Сойму* (БН-26, № 14); лакаўт — польск. lokaut: ***Лёкаут*** *— масавае звальненьне рабочых самым прадпрыемцам* (Ч/п-32, № 84);

цвёрдыя зычныя перад галоснымі пярэдняга рада *е*, *і*: агрэсіўны — польск. agresywny: *проці* ***агрэсыўнай*** *(захопнай) калянізацыйнай палітыкі* (В/п-28, № 4); гегемонія — польск. hegemonia: *palityčnuju* ***hegemoniju*** *(uładu) swaich pratektarań* (ВК-26, № 4); *Нямеччына дайшла да* ***гэгэмоніі*** *(павадырства) ў Эўропе* (БФ-38, № 4); дывідэнд — польск. dywidenda: *высокія* ***дывідэнды*** *(прыбыткі)* (Віц. пр.-31, № 1); дэпазіт — польск. depozyt: *як* ***дэпозыт*** *(залог) у судзе* (Сам.-37, № 6); *pryjmajuć złotyja ŭ* ***depozyt*** *(u załoh)* (К-39, № 1); імпарцёр — польск. importer: *купцом па ўвозу замежных тавараў* ***(імпартэрам)*** (СБ-25, № 227); інвестыцыя — польск. inwestycja: *прадбачаць (…)* ***інвэстыцыю*** *(уклад грошаў)* (Сам.-37, № 21); радыкальны — польск. radykalny: ***Радыкальны*** *— карэнны,канчатковае вырашэньне якога небудзь пытаньня* (Ч/п-33, № 148);

пачатковы галосны *е (э)*: еўгеніка — польск. eugenika: *...Асобная навуковая дысцыпліна, так званая* ***эўгеніка****. Гэтая назва складаецца з двух грэцкіх слоў: эў — харошы і генос — род, пры перакладзе на нашу мову азначае «вучэньне аб харошым родзе»…* (П-мя-27, № 2);

прыстаўны зычны *h (г)* перад пачатковымі галоснымі *і, у*: іпатэка — польск. hipoteka: *надзяліць кожнага селяніна* ***гіпотэкаю*** *(дакумэнтальнымі даводамі аб праве ўласнасьці да таго «шнурка» зямлі які ў яго ёсьць)* (СН-27, № 23); *ab prawie na niaruchomaść, prawie* ***hipoteki*** (ВК-29, № 1); *залегласьці, забясьпечаныя* ***гіпотэкай*** *(залогам нярухомасьці)* (РК-33, № 15); ураган — польск. huragan: *Niabywały pa sile wichor* ***(hurahan)*** *praniośsia nad lasnoj častkaj Narwiehii* (ВК-27, № 33). *У Партарыко* ***гураганамі*** *зусім зьнішчан ураджай фруктаў, тытуну і кавы…* (Зв.-28, № 216). *Niadaŭna ŭ Arhientynie ŭ mieście Caballito byŭ doždž z pjawak, jakija pierad hetym byli zabrany* ***hurahanam*** *(silnym wietram) z bliskich bałot* (ВК-29, № 12);

зычны *г* (замест *к*) у пачатку слова: кабінет — польск. gabinet ‘кабінет; урад’ [2, с. 165]: *пашырэньне парляманцкай падставы* ***габінэту*** *(ўраду)* (СП-24, № 9); *можа раптам выбухнуць крызіс* ***габінэту*** *(ўраду)* (НП-27, № 31); *стварэнне новага* ***габінета*** *(урада)* (ПБ-36, № 15);

мяккі *н’ (n’)* перад спалучэннем *іи* ў сярэдзіне слова: кан’юнктура — польск. koniunktura: *дзеля вельмі цяжкіх* ***коньюнктураў*** *(умоваў)* (СН-27, № 24); *što datyča h. zv.* ***«końjunktury»*** (Сам.-33, № 11);

галосныя *а* (замест *е*), *е* (замест *і*), *і* (замест *а*), *и (у)* (замест *ю*) у сярэдзіне слова: абанемент — польск. abonament: *выдаюцца па картачкам* ***(абонамэнтам)*** (БЗ-32, № 1); амністыя — польск. amnestia: *abwieśсій* ***amnestyju*** *(darawańnie kary)* (К-24, № 25); *на падставе* ***амнэстыі*** *для палітычных эмігрантаў* (СН-25, № 1); баланс — польск. bilans ‘баланс; вынік, вынікі’ [1, с. 50]: *пасыўнага гандлёвага* ***білянсу*** *(вышэйшы ўвоз за вываз)* (СН-26, № 5); бюджэт — польск. budżet: *праз зраўнаважэньне* ***буджэту*** *(пакрыцьце недахваткі даходаў пазыкай)* (З-23, № 11); *padčas razhladu* ***budžetu*** *(prychodu i raschodu)* (К-24, № 7);

спалучэнне *еи* (замест *ей*): нейтральны — польск. neutralny: *pałasa ziamli, jakaja zwałasia pasam* ***neutralnym*** *(ničyim)* (К-23, № 2);

спалучэнне зычных *gw (гв)* у корані слова: гарант — польск. gwarant; гарантаваць — польск. gwarantować; гарантыя — польск. gwarancja: ***Гваранткай*** *Вэрсальскага Трактату сталася Ліга Народаў…* (ВК-36, № 12); ***гварантуюць*** *Румыніі тэрыторыяльнае status quo* (СН-27, № 10); *камісар Лігі Народаў мае права жадаць дапаўняючых* ***гваранцыяў*** (СН-27, № 3). *Liha Narodaŭ budzie razhladać sprawu mižnarodnaj* ***hwarancyi*** *(paruki) prawoй nacyjanalnych mienšaściaŭ* (ВК-29, № 6);

спалучэнні *loa* (замест *луа*), *lua* (замест *льва*): эксплуатаваць, эксплуататар, эксплуатацыя — польск. eksploatować, eksploatator, eksploatacja: *яго заўсёды* ***эксплёатуюць*** *(выкарыстваюць)* (СН-26, № 6); *знаходзіцца пад кантролем дзяржавы —* ***эксплёататара*** *(мэтрополіі)* (ЧЗ-28, № 17); *праз узмацаваньне* ***эксплёатацыі*** *шырокіх працоўных мас* (Ж-28); дэвальвацыя — польск. dewaluacja: *ci «załaty» blok saprаŭdy ŭtrymaje svaju valutu ad pataniеńnia* ***(devaluacyi)***; *chvala abiascenivańnia* ***(devaluacyi)*** (Сам.-33, № 9-10); *ab* ***dewaluacyi*** *й Francyi i Šwajcaryi* (ВК-36, № 41);

спалучэнне *ria*: індустрыялізацыя — польск. industrializacja: ***індустріялізацыя*** *(разьвіцьце прамысловасьці) Польшчы* (Н/п-27, № 7);

выкарыстанне транслітарацыі: блеф — польск. bluff [blef]: *называе іх* ***«блюфам»*** *(абманам)* (Сам.-37, № 21); транскрыпцыі: камівояжор — польск. komiwojażer: *Саюз* ***комівояжэраў*** *(праваднікоў)* (СБ-24, № 98); трансферт — польск. transfer: *існуе спэцыяльная «камісія* ***трансфэру****» (лацінскі дзеяслоў «transfero» азначае «перанощу»)* (СБ-28, № 15);

запазычванне графічнай формы: карупцыя — польск. korupcja: ***«korupcja»*** *(падкупнасьць)* (ЖВ-25).

На марфалагічным і словаўтваральным узроўнях уплыў польскай мовы на беларускую выявіўся ў вар’іраванні:

роду іншамоўных назоўнікаў: візіт — польск. wizyta: *вельмі ўцешаны гэтай* ***візытай*** (СП-24, № 5); клас — польск. klasa: ***Клясай*** *называецца частка грамадзянства, якая займае аднаковае палажэньне у гаспадарчым жыцьці…* (Н/с-23, № 16); рэзерв — польск. rezerwa: *як ваенна-паліцэйская* ***рэзэрва***

(НП-27, № 34); *як **рэзэрва** (запас) з гадоў ураджайных* (Сам.-34, № 9); філія, філіял — польск. filia: *Нямеччына робіцца як-быццам «эўрапэйскай **філіяй»** («дачкой» — аддзелам, — як цяпер кажуць, «экспазытурай») амэрыканскага капіталу…* (ДП-28, № 5); *tajuć być arhanizavany addziely **(filii)** małačarni hałoйnaj* (Сам.-36, № 1-2);

адносін да скланення: назоўнік *кіно* ў сучаснай беларускай мове не змяняецца па склонах, у польскай — скланяецца: *Перад забастоўкай **кін** у Варшаве. … Мінуў тэрмін, у якім Магістрат Варшавы меў даць адказ **кінам** на іх дамаганьне зьменшыць падатак з **кін**; прыступіць да ліквідацыі **кін**; **кіны** будуць ступнёва зачынены* (БС-26, № 6);

афармлення асноў і канчаткаў назоўнікаў: баніфікацыя — польск. bonifikata, bonifikacja: *гэтая ўступка завецца **боніфікатай*** (ВК-34, № 43); *г.зв. **боніфікаты** (пэўная сума грошаў)* (Сам.-34, № 1); каментарый — польск. komentarz: *пададзены выясьненьні тэксту **(камэнтар)*** (БФ-38, № 2); мараторый — польск. moratorium: *Заместа грошаў — **мораторыум**. … «Плян сплаты даўгоў» пачынаецца з … **«мораторыя»**, гэта значыць з адсрочкі першых сплатаў даўгу на некалькі гадоў…* (ЖБ-25, № 1); *аб'яўлен **мараторый** (адтэрмінаванне) плацяжоў па сялянскіх даўгах* (БВ-34, № 264); *hetkaja adsročka **(moratorium)** adnosicca da asobaй žbiadnieйšych z pryčyny pieražytych и kraju padziejaй* (К-39, № 7);

асноў прыметнікаў: прэвентыўны — польск. prewencyjny: *выбух **«прэвэнцыйнай»** (папераджаючай) вайны* (З-ца-25); *па некалькітыднёвым папярэднім **(prewencyjnym)** арышце* (ББПК-26, № 14); *надужываньне **«прэвенцыйным»** арыштам (да суда)* (Н/к-26); *выкліканьне **прэвэнцыйнай** (упераджаючай) вайны* (БФ-36, № 7); фіктыўны — польск. fikcyjny: *каб гэтая адказнасьць (…) была ня **фікцыйнай** (фальшывай)* (Бел. сл.-27, № 9); *абвясьціў гэтую прадажу **«фікцыйнай»** (фальшывай)* (ДП-28, № 1); *bankowyja aperacyi (…) znachodziać **fikcyjnymi** (wydumanymi)* (ВК-28, № 18);

суфіксаў дзеясловаў: дэнансаваць — польск. denonsować: *урад Бразіліі **дэнансаваў** (заявіў аб скасаванні) заключаны (…) гандлёвы дагавор з Германіяй* (Віц. пр.-36, № 66); ізаляваць — польск. izolować: *нямецкая дэлегацыя здалела **ізаляваць** (адасобніць) Польшчу* (ЖБ-25, № 14); матываваць — польск. motywować: ***Матываваць** — тлумачыць, абгрунтоўваць* (Ч/п-33, № 144); ратыфікаваць — польск. ratyfikować: *niwodnaja dziaržawa nie śpiašałasia **ratyfikawać** (paćwiardžać)* (ВК-29, № 7).

Прыведзеныя тут прыклады ўжывання іншамоўных слоў мелі ў даследаваны перыяд дублетнае афармленне — варыянты, агульныя як з польскай, так і рускай мовамі. Прычым у сучаснай беларускай мове варыянтныя адносіны вырашыліся ў пераважнай большасці на карысць рускіх форм, за выключэннем хіба цвёрдых зычных *д, т* перад галоснымі *е, і* і суфіксаў *-ава- (-ява-)* для дзеясловаў.

Паланізмы на лексічным узроўні ўяўляюць сабой дублетныя формы: алярм (польск. alarm = трывога), анальфабэт (польск. analfabeta = непісьменны), анальфабэтызм (польск. analfabetyzm = непісьменнасць), апінія (польск. opinia = думка, погляд), дэфіляда (польск. defilada = парад), ліцытацыя (польск. licytacja = аўкцыён), рэвэляцыя (польск. rewelacja = адкрыццё, сенсацыя) і інш.: *паднялі **алярм** (трывогу)* (СН-27, № 87); *дзіця пакідае польскую школу амаль што не **анальфабэтам** (неграматным)* (СН-27, № 60); *pašyracca **analfabetyzm** (niahramatnaść)* (K-39, № 10); *польская **апінія** (грамадзянская думка)* (НП-27, № 8); ***дэфіляда** (паход) гэтага зьезду* (Сам.-37, № 8); *адбывалася **ліцытацыя** (продаж з малатка)* (Ч/п-32, № 148); ***рэвэляцыя** (адкрыцьце) «Kur. Wil.»* (НС-26, № 22).

Паланізмы абазначаюць спецыфічныя рэаліі: дэфензіва — польск. defensywa ‘ахоўная паліцыя ў Польшчы ў 1918–39 гг.’ [2, с. 97]: *Шмат хто з іх зьвязаны з польскай **дэфэнзывай** (тайнай паліцыяй)* (БВ-28, № 24).

Некаторыя паланізмы ў пэўным кантэксце атрымліваюць дадатковую канатацыю (негатыўную): *адбылося рэволюцыйнае выступленьне сялян на глебе фашысцкай **камасацыі** (прымусовага пераводу на хутары)* (Ч/п-30, № 69). *Дзяржава грабіць сялян сваёй зямельнай палітыкай, так званай **камасацыяй** (хутарызацыя), якая павінна нібыта даць селяніну зямлю ў адным кавалку, у сапраўднасці-ж гэта з’яўляецца грабяжом лепшых сялянскіх зямель у карысць памешчыка і кулака* (Л/с-36, № 111).

На семантычным узроўні іншамоўныя словы набываюць дадатковыя значэнні, якія ёсць у польскіх адпаведнікаў; напрыклад: дэкларацыя, дэклараваць — польск. deklaracja ‘заява’, deklarować ‘заяўляць; абвяшчаць’ [2, с. 98]: *Кожны беларус, які хоча вучыць сваіх дзетак у беларускай школе, павінен скласьці аб гэтым Інспэктару **дэклярацыю** (гэта значыць заяву)* (БД-25, № 10); *сумесна з Совецкім Саюзам **дэклараваць** (аб’явіць) тэрытарыяльную недатыкальнасць прыбалтыйскіх дзяржаў* (ЧЗ-35, № 4).

Такім чынам, неабходна канстатаваць, што ў перыяд 1920–1930-х гадоў меў месца ўплыў польскай мовы на беларускую, які выявіўся як у пасрэдніцтве пры адаптацыі іншамоўнай лексікі, так і наяўнасці ўласна паланізмаў. Гэты ўплыў у большай ступені быў характэрны для перыёдыкі Заходняй Беларусі 1920-х гадоў, што прасочваецца найперш на фанетыка-арфаграфічным, а таксама марфалагічным, словаўтваральным і лексіка-семантычным узроўнях.

## Скарачэнні

ВК — «Biełaruskaja krynica»; К — «Krynica»; Бел. сл. — «Беларускае слова»; ББПК — «Бюлетэнь Беларускага пасольскага клуба»; БВ — «Беларуская вёска»*[1]; БД — «Беларуская доля»; БЗ — «Беларускі звон»; БН — «Беларуская ніва»; БС — «Беларуская справа»; БФ — «Беларускі фронт»; Віц. пр. — «Віцебскі пралетарый»*; В/п — «Воля працы»; ДП — «Думка працы»; Ж — «Жанчына на барыкадах»; ЖБ — «Жыццё беларуса»; ЖВ — «Жыццё вёскі»; З — «Змаганне»; З-ца — «Зарніца»; Зв. — «Звязда»*; Л/с — «Ленінскі сцяг»*; Н/к — «Наш кліч»; НП — «Наша праўда»; Н/п — «Наша праца»; НС — «Народная справа»; Н/с — «Наш сцяг»; ПБ — «Піянер Беларусі»*; П-мя — «Полымя»*; РК — «Родны край»; СБ — «Савецкая Беларусь»*; СН — «Сялянская ніва»; СП — «Сялянская праўда»; Сам. — «Самапомач»; ЧЗ — «Чырвоная змена»*; Ч/п — «Чырвонаармейская праўда»*.

## Літаратура


1. Арцямёнак, Г. Беларуска-польскае лексічнае ўзаемадзеянне на сучасным этапе / Г. Арцямёнак // Беларуская мова: шляхі развіцця, кантакты, перспектывы: матэрыялы III Міжнар. кангрэса беларусістаў «Беларуская культура ў дыялогу цывілізацый» (Мінск, 21–25 мая, 2000 г.). — Мінск, 2001. — С. 145–149.
2. Волкава, Я. В. Польска-беларускі слоўнік: звыш 40 000 слоў / Я. В. Волкава, В. Л. Авілава. — Мінск, 2005.
3. Гапоненка, І. А. Лексіка беларускай літаратурнай мовы XIX — пачатку XX ст.: асаблівасці станаўлення і развіцця / І. А. Гапоненка. — Мінск, 2012.
4. Гессен, Д. Большой польско-русский словарь: ок. 80 000 слов: в 2 т. / Д. Гессен, Р. Стыпула. — М.; Варшава, 1979.
5. Запрудскі, С. М. Беларускае мовазнаўства і развіццё беларускай літаратурнай мовы: 1920–1930-я гады / С. М. Запрудскі. — Мінск, 2013.
6. Шакун, Л. М. «Усходнія» і «заходнія» крыніцы папаўнення лексічных сродкаў беларускай мовы / Л. М. Шакун // Весн. Беларус. дзярж. ун-та. Сер. 4: Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. — 1995. — № 2. — С. 22–26.


[1] Знакам * пазначаны выданні, якія выходзілі па-за межамі Заходняй Беларусі (Вільні).

**Ганна Спорыш** *(Мінск, Беларусь)*

# СТЫЛІСТЫЧНЫ СТАТУС ЛЕКСЕМ, АГУЛЬНЫХ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ І ПОЛЬСКАЙ МОЎ

Аб'ектам нашай ўвагі ў дадзеным даследаванні з'яўляюцца лексічныя адзінкі, якія ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы (далей — ТСБМ) падаюцца з абмежавальнай паметай *абл.* Як вядома, беларуская літаратурная мова з'яўляецца мовай з дыялектнай асновай, таму сёння некаторыя беларускія лінгвісты, напр., Д. Паўлавец [3], мяркуюць, што тыя ці іншыя дыялектныя словы можна ўключыць у літаратурную мову.

У 20-я гг. ХХ ст., у перыяд фарміравання беларускай літаратурнай мовы, таксама шмат увагі ўдзялялася ролі дыялектнай лексікі. Так, згаданая праблематыка ўздымаецца ў артыкулах «Што трэба зрабіць па беларускай мове і літаратуры» (1921) Яўхіма Карскага, «Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы» (1924) Язэпа Лёсіка, «Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы» (1925) Сцяпана Некрашэвіча, «Аб збіранні народнага слоўнікавага матэрыялу ў беларускай мове ў 1927 г.» (1927) Міколы Байкова і інш. Адзначым, што кожны лінгвіст падкрэсліваў важнасць, значнасць народнай, дыялектнай лексікі як асновы для беларускай літаратурнай мовы.

Методыка нашай працы наступная: спачатку з ТСБМ робіцца выбарка слоў з паметай *абл.*, затым наяўнасць кожнай адзінкі правяраецца па дыялектных слоўніках. На сённяшні дзень картатэка налічвае 127 адзінак, аднак натуральна, што не кожная з іх падлягае ўключэнню ў даследаванне, бо намі былі вылучаны крытэрыі для аднясення лексічнай адзінкі да запаўняльніка інтралінгвальнай лакуны. Да іх мы адносім адзінкі, якія характарызуюцца тэрытарыяльнай пашыранасцю (лексема сустракаецца ў некалькіх мясцовасцях Беларусі); маюць гісторыю выкарыстання ў беларускай мове (зафіксаваныя ў Гістарычным слоўніку беларускай мовы); могуць папоўніць сінанімічны рад, выступіўшы семантычным або семантыка-стылістычным сінонімам; могуць з'явіцца кампанентамі словаўтваральнага гнязда; могуць пашырыць гіпера-гіпанімічныя рады; могуць выступіць аднаслоўным адпаведнікам да літаратурнай апісальнай назвы.

Асобна адзначым, што намі разглядаюцца толькі тыя лексічныя адзінкі, якія вызначаюцца актуальнасцю (намінацыі з'яў, паняццяў, рэчаў і прадметаў, не актуальныя для нашага часу, не разглядаюцца).

На наш погляд, цікава таксама разгледзець стылістычны статус даследуемых адзінак і ў іншых славянскіх мовах, у прыватнасці польскай.

Беларуская і польская мовы вельмі падобныя па сваім лексічным складзе, бо адносяцца да славянскай моўнай групы. Зразумела, што, паколькі Польшча і Беларусь маюць шмат агульнага ў гісторыі, культуры, гэта не магло не адбіцца і на мове.

Як вядома, польская мова, як і беларуская, з’яўляецца мовай з дыялектным базісам, таму, на наш погляд, разглядаючы беларускія лексемы з паметай *абл.*, якія можна ўвесці ў літаратурны ўжытак, варта параўнаць іх стылістычны статус у польскай мове.

Для даследавання мы выбралі, як ужо было адзначана, ТСБМ, паколькі ён з’яўляецца на сённяшні дзень самым поўным з існуючых слоўнікаў беларускай мовы. Выданне складаецца з 5 тамоў (6 кніг) і выходзіла на працягу 1977–1983 гг., ягоны рэестр налічвае каля 100 000 лексічных і фразеалагічных адзінак.

Для працы з фактычным матэрыялам з польскай мовы выкарыстоўваўся Універсальны слоўнік польскай мовы ў 4 тамах пад рэдакцыяй прафесара Станіслава Дубіша, які быў выдадзены ў 2006 годзе і таксама налічвае каля 100 000 слоў. Як сказана ў прадмове да выдання, яно з’яўляецца «сярэднім» паміж 11-томным слоўнікам польскай мовы пад рэдакцыяй Вітольда Дарашэўскага (120 тысяч слоў) і 3-томным слоўнікам пад рэдакцыяй Мечыслава Шымчака (каля 72 000 слоў) і іншымі слоўнікамі. Згаданае выданне рэгіструе перадусім лексіку другой паловы XX — пачатку XXI ст., аднак змяшчае і багата ранейшых па часе функцыянавання слоў, якія фіксуе слоўнік пад рэдакцыяй Дарашэўскага. У слоўніках польскай мовы тэрытарыяльна абмежаваная лексіка абазначаецца паметай *reg.*

Для разгляду мы выкарысталі выбарку лексічных адзінак з паметай *абл.* з ТСБМ на літары А-Д, якая налічвае 48 слоў, што адпавядаюць, на наш погляд, вызначаным вышэй крытэрыям для ўключэння ў літаратурны ўжытак: *аблетак* ‘жывёліна ва ўзросце двух год; жывёліна, якая пералетавала’, *аблуда* ‘1. Няправільная, памылковая думка, погляд, памылковае ўяўленне аб чым-н.; 2. Той, хто адмоўна ставіцца да чаго-н., мае памылковую думку аб чым-н.’, *аблудны* ‘1. Які далёка зайшоў у сваіх памылках, збіўся з правільнай жыццёвай дарогі. 2. Ілжывы, няправільны, памылковы’, *алёс* ‘нізкі заліўны луг; зарослая хмызняком або трысцём нізіна; забалочанае месца’, *амяглы* ‘падсохлы, прывялы без вады ў гарачую пару’, *аполец* ‘вялікі кавалак свінога сала, які атрымліваецца пры разбіранні тушы’, *асца* ‘сліна’, *безгалоўе* ‘2. Пра вельмі дрэннае надвор’е (завіруху, дождж, буру)’, *браценік* ‘дваюрадны брат (рэдка — родны)’, *брыдасць* ‘тое, што і *брыда, брыдота*’, *букта* ‘глыбокае месца, яма, вір у рацэ, возеры і пад.’, *вада* ‘загана, недахоп’, *валахаты* ‘калматы’, *варсаць* ‘тыкаць, пароць канцом чаго-н.’, *вератнік* ‘гоні, загон’, *верч* ‘скрутак чаго-н. (дроту, кабелю, вяроўкі, луцця)’, *вілюжны* ‘звілісты’, *вілюжына* ‘звіліна’, *вусціш* ‘вусцішнасць’, *выгода* ‘3. выгада (у 1 значэнні ‘карысць, прыбытак; разлік’)’, *выправа* ‘3. рэчы, якія рыхтуюцца да таго, хто ідзе (едзе) у дарогу // пасаг у выглядзе хатніх рэчаў’, *выспятак* ‘штуршок нагой’, *гадзіць* ‘3. *каго* наймаць на працу на пэўны час’, *гайня/гання* ‘зграя ваўкоў, сабак’, *гак*[1] ‘2. участак зямлі, які вострым клінам удаеца ў што-н.’, *галашчок* ‘вялікі мароз з ветрам (звычайна ў пачатку зімы да выпадзення снегу)’, *гаматны* ‘залішне прасторны, вялікі; грубы (часцей пра вопратку)’,

*гзымс* 'карніз', *гічка*[1] 'верхняя частка завязанага мяшка, торбы', *глеісты* '2. вязкі', *гломазд* 'ламачча, смецце', *глыж* 'камяк ссохлай або змёрзлай зямлі, звычайна гліны', *груд* '4. куча галля, хворасту; лоўж', *груца* 'ячменныя крупы, а таксама каша з гэтых круп', *гучок* 'маладая галінка; атожылак, парастак', *гушча* '4. каша', *даражыцца* 'запрашваць надта дорага пры продажы чаго-н. або наймаючыся на работу', *дзверына* 'створка дзвярэй', *дзейкаць* 'гаварыць, пускаць пагалоскі, чуткі', *дзялянка* '3. кавалак чаго-н.', *доле* '1. на падлозе, на зямлі; 2. уніз, дадолу', *дор* 'драніца', *драбы* 'рэбры', *дрэнчыць* 'не даваць спакою, турбаваць', *дубальт* 'падвойная рама, падвойныя дрэвы', *дыля* 'тоўстая дошка; дылёўка', *дыхтоўны* 'вельмі добры, высокай якасці', *дыхцець* 'павяваць, дыхаць'.

З іх агульнымі для беларускай і польскай моў з'яўляюцца: *вада, выгода, выправа, гзымс, грубы, груда/грудка, дрэнчыць, дыль.*

Так, лексема **вада**, якая ў беларускай мове мае значэнне 'загана, недахоп', фіксуецца ў гаворках Брэстчыны і Гродзеншчыны — якраз у тых рэгіёнах, якія мяжуюць з Польшчай. У польскай мове згаданае слова з'яўляецца полісемічным і мае 3 значэнні: **wada** — '1. ujemna cecha charakteru; przywara, 2. ujemna cecha, brak, uszkodzenie obniżające wartość jakiegoś przedmiotu, wytworu pracy, systemy; defekt, usterka, 3. niedorozwój, zniekształcenie, nieprawidłowa budowa lub złe działanie jakiegoś narządu żywego organizmu' [9, c. 332]. Значэнне лексічнай адзінкі ў беларускай мове супадае з другім значэннем слова ў польскай мове.

Назоўнік **wygoda** мае два значэнні: '1. to, co komuś dogadza, zaspokaja czyjeś potrzeby, 2. rzeczy, urządzenia itp. ułatwiające wykonywanie jakichś czynności, uprzyjemniające życie' [9, c. 590].

У беларускай мове фіксуецца лексема **выгода**, якая мае 3 значэнні, і толькі ў адным з іх з'яўляецца дыялектным і мае тое ж значэнне, што і **выгада** ў 1 значэнні, г. зн. 'карысць, прыбытак; разлік'.

Назоўнік **выправа** з'яўляецца шматзначным і ў сваім трэцім значэнні 'рэчы, якія рыхтуюцца да таго, хто ідзе (едзе) у дарогу // пасаг у выглядзе хатніх рэчаў' падаецца з паметай *абл.* Цікава, што ў польскай мове лексема **wyprawa** таксама полісемічная і ў значэнні 'bielizna, pościeil, ubranie, sprzęty, które dostaje od rodziców dziewczyna wychodząca za mąż' [9, c. 655] падаецца з паметай *przestarz.*, а гэта значыць, што лексема з'яўляецца ўстарэлай, ужываецца пераважна прадстаўнікамі старэйшага пакалення.

Дыялектны назоўнік **гзымс** фіксуецца ў слоўніку беларускай мовы са значэннем 'карніз' і пры гэтым не сустракаецца ні ў адным з дыялектных слоўнікаў (нават у слоўніках гродзенскіх і брэсцкіх гаворак), якімі мы карысталіся пры даследаванні. Аднак ілюстрацыйны матэрыял ТСБМ да гэтага слова (прыклады з твораў Янкі Брыля, носьбіта гаворкі Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці, і Пятра Глебкі, носьбіта гаворкі Уздзенскага раёна Мінскай вобласці) часткова ўказвае на тэрыторыю яго пашырэння. Слоўнік польскай мовы фіксуе лексему **gzyms**, прычым гэтае слова з'яўляецца

полісемічным і ў кожным сваім значэнні мае тую ці іншую абмежавальную памету. ‘1. *archit.* poziomo biegnący profilowany występ ściany, zdobiący wewnętrzne i zewnętrzne mury budynku, 2. *książk.* wystające obrzeże sprzętów domowych lub mebli, 3. *geogr.* poziomy występ na zboczy skały, 4. *przestarz.* listwa do zawieszania firanek; karnisz’ [9, с. 1109]. Зноў жа, як бачым, чацвёртае значэнне, аналагічнае з семантыкай беларускай лексемы, мае памету *przestarz.*

Слова прыйшло ў польскую мову з нямецкай. Цікава, што ў нямецка-беларускім слоўніку як адзін з варыянтаў перакладу слова **Gesims** таксама фіксуецца разглядаемая адзінка: ‘карніз, гзымс; выступ’ [2, с. 292].

Пры перакладзе на рускую мову падаецца памета *стр*. ‘карниз, выступ’ [1, с. 378].

Прыметнік **грубы** з’яўляецца полісемічным, аднак толькі ў значэнні ‘цяжарная (пра жанчыну)’ пазначаны паметай *абл.* Дыялектныя слоўнікі падаюць іншыя дэфініцыі слова: ‘тоўсты бульбяны блін’ [4, с. 34], ‘1. тоўсты (пра палатно); 2. нізкі (пра голас)’ [7, с. 90], грубая ‘1. тоўстая 2. цяжарная’ [5, с. 128]. Як бачым, толькі ў адным са слоўнікаў значэнне супадае з тым, што падаецца як абмежаванае паводле ўжывання ў ТСБМ. Натуральна, слова **gruby** фіксуецца і слоўнікам польскай мовы, аднак значэнне ‘цяжарная’ адсутнічае: 1. mający znaczny przekroj poprzeczny, 2. mający określony przekrój poprzeczny, 3. o dzwiękach, głosie: niski, głuchy, przytłumiony, 4. o ludziach: mający znaczną tuszę, dużą wagę ciała; otyły, tęgi, 5. *książk.* pospolity, trzywialny, niewyrafinowany, 6. o odzieży: ciepły, chroniący od zimna, 7. większy niż można się było spodziewać [8, с. 1084]. Такім чынам, словы супадаюць у значэннях ‘тоўсты (пра палатно)’, ‘нізкі (пра голас)’.

У ніжэйпрыведзенай табліцы прадстаўлена супадзенне/несупадзенне абмежавальных памет для беларускіх і польскіх лексем:

| Памета<br>Слова | *абл. / reg.* | *уст. / przestarz.* |
|---|---|---|
| **в*а*да** | | |
| **w*a*da** | | |
| | | |
| **выг*о*да** | | |
| **wyg*o*da** | | |
| | | |
| **выпр*а*ва** | | |
| **wypr*a*va** | | |
| | | |
| **гзымс** | | |
| **gzyms** | | |
| | | |
| **гр*у*бы** | | |
| **gr*u*by** | | |

Увогуле, кампаратыўны аналіз стылістычнага статусу некаторых польскіх і беларускіх лексем накіроўвае на цікавыя думкі: як нескладана заўважыць, словы, якія фіксуюцца ТСБМ з паметай *абл.*, сустракаюцца ў польскай мове з паметай *przestarz.* (такіх прыкладаў 2 з 5). Падкрэслім, што з пяці слоў тры ў польскай мове не маюць абмежавальных памет, г. зн. з'яўляюцца літаратурнымі.

Такім чынам, разгледзеўшы некаторыя беларускія тэрытарыяльна абмежаваныя лексемы ў параўнанні з польскімі, мы паказалі, што функцыянаванне слоў у роднаснай мове ў якасці нарматыўных з'яўляецца адным з дапаможных паказчыкаў, які пацвярджае магчымасць змяніць іх стылістычны статус і ў беларускай мове.

## Скарачэнні

абл. — абласное
стр. — будаўнічае/ы
уст. — устарэлае
przestarz. — przestarzały
reg. — regionalizm

## Літаратура


1. Большой немецко-русский словарь. 11-е изд., стереотип. — М., 2004.
2. Кур'янка, М. І. Нямецка-беларускі слоўнік / М. І. Кур'янка. — Мінск, 2006.
3. Паўлавец, Д. Д. Наспеў час стварэння поўнага слоўніка беларускай мовы / Д. Д. Паўлавец // Жыццём і словам прысягаючы… : да 90-годдзя праф. М. Я. Цікоцкага: зб. навук. прац. — Мінск, 2012. — С. 428–437.
4. Слоўнік рэгіянальнай лексікі Гродзеншчыны / А. І. Багдзевіч, І. І. Бубновіч, С. А. Богуш [і інш.]. — Гродна, 1999.
5. Сцяшковіч, Т. П. Матэрыялы да слоўніка Гродзенскай вобласці / Т. П. Сцяшковіч; АН БССР, Ін-т мовазнаўства, ГДПІ імя Янкі Купалы. — Мінск, 1972.
6. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: у 5 т. / рэд. К. К. Атраховіч. — Мінск, 1977–1984.
7. Янкова, Т. С. Дыялектны слоўнік Лоеўшчыны / Т. С. Янкова. — Мінск, 1982.
8. Uniwersalny słownik języka polskiego PWN / pod red. Stanisława Dubisza. T. 1: A–J. — Warszawa, 2006.
9. Uniwersalny słownik języka polskiego PWN / pod red. Stanisława Dubisza. T. 4: T–Ż. — Warszawa, 2006.

**Вікторыя Уласевіч** *(Мінск, Беларусь)*

# НЕАЛАГІЗМЫ І НЕАСЕМАНТЫЗМЫ Ў «БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІМ СЛОЎНІКУ» («SŁOWNIK BIAŁORUSKO-POLSKI». WARSZAWA, 2012): ХАРАКТАРЫСТЫКА І АСАБЛІВАСЦІ ЛЕКСІКАГРАФІЧНАГА АПІСАННЯ

У 2012 г. кафедрай беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта быў падрыхтаваны «Беларуска-польскі слоўнік» (далей — БПС) [1], які змяшчае «больш за 40 тысяч слоўнікавых артыкулаў, сярод якіх значнае месца займае сучасная лексіка, што адлюстроўвае змены ў лексічнай сістэме беларускай мовы» [1, с. 9]. Асноўнымі крыніцамі беларускай лексікі сталі «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (1977–1984) і «Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы» (далей — ТСБЛМ) (1996) [2]. Акрамя таго, бралася пад увагу лексіка, зафіксаваная ў тэрміналагічных слоўніках (на жаль, яны не названыя), і навейшая пазаслоўнікавая лексіка з перыядычнага друку.

Перакладныя слоўнікі, у адрозненне ад спецыялізаваных слоўнікаў новых слоў, непазбежна рэгіструюць новыя словы з некаторым спазненнем. Падрыхтоўка рукапісу да выдання патрабуе пэўнага часу, новыя ж словы з’яўляюцца ў мове пастаянна. Да таго ж, у двухмоўныя слоўнікі неалагізмы ўключаюцца не адразу, а толькі пасля таго, як яны праходзяць выпрабаванне часам [3]. Звычайна толькі моўная практыка здольна паказаць, якія з наватвораў замацуюцца ў слоўнікавым складзе. Слоўнікі ж новых слоў адлюстроўваюць і такія лексемы, паколькі характарызуюць развіццё пэўнай мовы ў канкрэтны перыяд часу.

Беларуская мова ў апошнія дзесяцігоддзі папоўнілася значнай колькасцю новых слоў. Папаўненне слоўнікавага складу адбываецца за кошт новаўтварэнняў, запазычанняў з іншых моў і набыцця новых значэнняў агульнавядомымі словамі. Новы лексічны матэрыял кожнай эпохі патрабуе свайго вывучэння і фіксацыі ў лексікаграфічных працах. У беларускім мовазнаўстве першымі прыкладамі неаграфічных даследаванняў сталі «Слоўнік новых слоў беларускай мовы» (далей — СНС) (2009) і «Беларуска-рускі тлумачальны слоўнік новых слоў і новых значэнняў слоў» (далей — БРСНС) (2013) [4]. Галоўнай праблемай пры стварэнні неаграфічных выданняў у беларускім мовазнаўстве з’яўляецца пэўная ступень суб’ектыўнасці іх стваральнікаў. Гэта праблема найперш выклікана тым, што «служба слова» ў нашай краіне да сённяшняга часу не наладжана, адсутнічае Нацыянальны корпус беларускай мовы. У сувязі з гэтым актуальным уяўляецца аналіз новай лексікі, змешчанай у БПС, паколькі фактычна аўтарамі праведзена самастойнае неаграфічнае даследаванне.

Найперш крыніцай новай лексікі для БПС паслужыў ТСБЛМ. Лексемы, якія пачалі выкарыстоўвацца ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х гг., застаюцца новымі для беларускай мовы, хаця ўжо і зафіксаваны ў слоўніку: *аэробіка, бартар, брокер, відэакліп, гамбургер, дылер, дыскета, дэпартаваць, імідж, імпічмент, істэблішмент, крыжаванка, крымінагенны, маркетынг, мафіёзі, менеджмент, менталітэт, мікрапрацэсар, наркабізнес, ноу-хау, папулізм, піца, піцэрыя, працэсар, рок-музыка, рэкет, рэспандэнт, сафары, спонсар, таксікаманія, тостар, трылер, уфалогія, чартар, экуменізм, энерганосьбіты* і інш.

Значная колькасць новай лексікі, зафіксаванай у БПС, прадстаўлена ў слоўніках новых слоў беларускай мовы (СНС, БРСНС). Частка з гэтых лексем уключана ў апошнія выданні нарматыўных акадэмічных слоўнікаў, у прыватнасці, «Слоўнік беларускай мовы» (далей — СБМ) (2012) і «Граматычны слоўнік назоўніка» (далей — ГСН) (2008; 2013, 2-е выд.) [5].

Новыя лексемы належаць да самых розных сфер жыцця сучаснага грамадства, напрыклад: палітыка, сацыяльны лад і ідэалогія (*антыглабаліст, глабалізацыя, саенталогія, саміт, экатурызм, экасістэма; ЕП* (*Еўрапейскі парламент*)), новыя эканамічныя адносіны (*антыдэмпінгавы, аўдыт, дывелапер, дыстрыб'ютар, індэксацыя, лізінг, прыватызацыя, факторынг; ААТ* (*адкрытае акцыянернае таварыства*)), спорт (*боўлінг*, *кайтсёрфер, кайтсёрфінг, сёрфінг, скейтборд, слалам-гігант, сноўбард, фітнес-клуб*), культура і шоу-бізнес (*графіці, кастынг, папарацы, постар, прадзюсар, ролік* (*тэлеролік*)*, рымейк, фотамадэль*), медыцына і касметалогія (*акупрэсура, глюкометр, клаўстрафобія, крыятэрапія, ліпасакцыя, пілінг, плацэба, тамаграфія)*, быт (*бутэрбродніца, грыль, дамафон, джакузі, дываналін, легінсы, памперс, папкорн*), сфера інфармацыйных тэхналогій (*адсканіраваць, браўзер, вэб-сайт, курсор, ноўтбук, прынтар, сканер; ПК* (*персанальны камп'ютар*)) і інш.

Акрамя таго, у БПС зафіксаваны шматлікія новыя ўстойлівыя выразы, якія дэманструюць набыццё новых значэнняў раней вядомымі словамі (г. зв. неасемантызмы): *аб'ём памяці, перыферыйнае абсталяванне, адмыванне (брудных) грошай, электронны адрас, аператар сотавай сувязі, пляжны валейбол, генетычна мадыфікаваныя прадукты (арганізмы), грып курыны (птушыны, свінскі), камп'ютарныя гульні, арганізаваная злачыннасць, дысконтная картка, мабільны тэлефон, сурагатная маці, мыльная опера, лазерны (струменны) прынтар, гульнявая прыстаўка, ускосная рэклама, рыначная эканоміка* і інш.

Беларуская мова пачынаючы з 90-х гг. XX ст. пад уплывам тэндэнцыі да нацыяналізацыі папоўнілася значнай колькасцю новых слоў, якія не абазначаюць новыя паняцці, а з'яўляюцца дублетамі нарматыўных лексем. Пры гэтым лексічныя адзінкі, агульныя з рускай мовай, замяняюцца наватворамі, запазычаннямі з польскай і ўкраінскай моў або словамі, вернутымі з

пасіўнага запасу (словы, якія шырока выкарыстоўваліся ў 20-я гг. XX ст., але з 30-х гг. XX ст. знаходзіліся ў пасіўным запасе). Звяртае ўвагу, што ў слоўніку такія лексемы фактычна адсутнічаюць, хаця часткова яны прадстаўлены ў «Польска-беларускім слоўніку» (2005) [6], з якім аўтары БПС былі знаёмы (ён згадваецца ў прадмове да слоўніка), а таксама зафіксаваны ў СНС: *адсотак, амбасада, апавед, выстава, жарсць, закладнік, заўзятар, імпрэза, кіроўца, наведнік, наклад, стасункі, страйк, улётка, філіжанка, чалец* і інш. Трэба адзначыць, што частка гэтых лексем фіксуецца апошнімі акадэмічнымі выданнямі, у прыватнасці, СБМ: *адсотак, амбасада, апавед, выстава, жарсць, закладнік* і інш.

У БПС зафіксаваны толькі адзінкавыя прыклады такіх лексем: *заплечнік* (лексема *рукзак* пададзена як варыянтная; пол. plecak; параўн. у СНС *заплечнік, пляцак* ‘рукзак’), *каментар* (у адным артыкуле з *каментарый*), *пазоўнік* (асобным артыкулам пададзена *ісцец*), *перамовы* (даецца адсылка да *перагаворы*) і некаторыя іншыя. Лексема *суразмовец (суразмоўца)* адсутнічае як агалоўнае слова, але выкарыстоўваецца ў ілюстрацыйным матэрыяле да лексемы *загаварыць*: **загавары́ць** … 3. *pot.* zagadać; ~ **-ары́ць суразмо́ўцу** zagadać współrozmówcę.

З іншага боку, у БПС зафіксавана некалькі лексем, што, верагодней за ўсё, узніклі пад уплывам польскіх адпаведнікаў (розных па паходжанні), якія не фіксуюцца беларускімі слоўнікамі (або фіксуюцца толькі асобнымі з іх): бел. *беатыфікацыя* — пол. beatyfikacja; *катэхізатар* — katecheta (рэлігійныя тэрміны; лексема *беатыфікацыя* зафіксавана ў «Слоўніку сучаснай беларускай мовы» пад рэд. М. Р. Прыгодзіча, У. М. Завальнюка [7]); *інтэрвізія* — interwizja (варыянт лексемы *інтэрбачанне*).

Значную частку новых слоў складаюць запазычанні. Запазычванне ўяўляе сабой працяглы працэс ператварэння іншамоўных слоў у словы, падобныя да спрадвечных, і з фармальнага боку ён прадугледжвае фанетыка-графічнае і граматычнае іх засваенне. Пры гэтым часта адзначаецца вар’іраванне матэрыяльнай формы лексем, што праяўляецца ў ваганнях у вымаўленні, напісанні і акцэнтуацыі. Асаблівасці адаптацыі запазычанняў можна назіраць пры параўнанні лексем, зафіксаваных у БПС, з лексемамі, зафіксаванымі ў апошніх беларускіх слоўніках.

Для беларускай мовы характэрны наступныя цяжкасці пры фанетыка-графічным афармленні запазычанняў:

перадача цвёрдасці-мяккасці зычных на пісьме: *бодзібільдар* (БПС) — *бодзібілдар* (СБМ); *дысплей* (БПС) — *дысплэй* (СБМ); *секс / сэкс* (але: *сексолаг, сексуальны* і пад., БПС) — *секс* (СБМ); *скансен* (БПС) — *скансэн* (СБМ); *сэрвер* (БПС) — *сервер* (СБМ);

перадача іншамоўных зычных [d], [t] перад галосным [i]: *бодзібільдзінг* (БПС) — *бодзібілдынг* (СБМ);

напісанне слоў разам або праз злучок: *бліц-апытанне, бліц-інтэрв'ю* (БПС) — *бліцапытанне, бліцінтэрв'ю* (СБМ); *буль-тэр'ер* (БПС) — *бультэр'ер* (СБМ); *ды-джэй* (БПС) — *дыджэй* (СБМ); *мас-медыя* (БПС) — *масмедыя* (СБМ).

Зафіксаваны неадпаведнасці ў напісанні, звязаныя з рознай перадачай іншамоўных гукаў: *экібана* (БПС) — *ікебана* (СБМ); рознымі шляхамі запазычання: калькаванне абрэвіятуры *бамж* (*без акрэсленага месца жыхарства*; БПС) і запазычанне з рускай мовы — *бомж* (рус. без определенного места жительства; СБМ).

Праблема акцэнталагічнай адаптацыі не мае маштабнага характару. Адзначана толькі некалькі падобных прыкладаў: *лапараско́пія* (БПС) — *лапараскапі́я* (СБМ); *піцэры́я* (БПС) — *піцэры́я* і *піцэ́рыя* (СБМ); *ска́нсен* (БПС) — *скансэ́н* (СБМ); *сно́ўбард* (БПС) — *снаўбо́рд* (СБМ); *грыль, грыля́* (БПС) — *грыль, гры́ля* (СБМ); гл. таксама: *ноўтбук* (націск не пазначаны; БПС) — *но́ўтбук* і *ноўтбу́к* (СБМ).

Сур'ёзнай праблемай з'яўляецца граматычная адаптацыя запазычанняў. Так, выклікае цяжкасці вызначэнне родавай прыналежнасці запазычаных нескланяльных назоўнікаў, звязанае з уплывам розных аналогій (родавае найменне, уплыў мовы-крыніцы і г. д.): *біенале* (м. р.; БПС) — *біенале* (н. р.; СБМ); *еўра* (н. р.; БПС) — *еўра* (м. і н. р.; СБМ).

У працэсе граматычнай адаптацыі запазычаныя назоўнікі або застаюцца нескланяльнымі, або пачынаюць змяняцца па адным з тыпаў скланення. Цікава, што БПС больш свабодна адаптуе новыя лексемы да граматычных асаблівасцей беларускай мовы. Напрыклад, як змяняльныя фіксуюцца ў БПС словы *мас-медыя* (-й), *мюслі* (-яў), *рызота* (-та, -це), якія ў слоўніках беларускай мовы пакуль фіксуюцца як нескланяльныя.

Вельмі складаным пытаннем у беларускай мове, нават у адносінах да спрадвечнабеларускіх і даўно запазычаных слоў, з'яўляецца выбар канчатка назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне адзіночнага ліку. Падобныя неадпаведнасці назіраюцца і ў гэтым выпадку, параўн.: *ёгурта* (БПС) — *ёгурту* (СБМ); *паркамату* (БПС) — *паркамата* (СБМ); *пілінга* (БПС) — *пілінгу* (СБМ); *пін-коду* (БПС) — *пін-кода* (СБМ); *пірсінга* (БПС) — *пірсінгу* (СБМ); *прэсінга* (БПС) — *прэсінгу* (СБМ); *сёрфінгу* (хаця *віндсёрфінга, кайтсёрфінга*; БПС) — *сёрфінга* (СБМ); *факсу* (БПС) — *факса* (СБМ); *фітачая* (БПС) — *фітачаю* (БРСНС); *халакоста* (БПС) — *халакосту* (ГСН); *харасмента* (БПС) — *харасменту* (БРСНС).

Некаторыя новыя лексемы маюць неадпаведнасці ў семантыцы. Так, лексема *трафікёр* перакладаецца як handlarz **żywym** towarem, параўн. у СНС: *трафікёр* 'той, хто займаецца нелегальнай дастаўкай **наркотыкаў, зброі** і пад.'; бел. *прадзюсар* — пол. producent **filmowy**, параўн. у БРСНС: *прадзюсар* 'асоба, якая выконвае функцыі дырэктара-распарадчыка пры пастаноўцы кінафільма, **спектакля** і г. д., арганізацыі **дзейнасці спевакоў і музычных**

**груп** і ажыццяўляе фінансавы кантроль за гэтай дзейнасцю’. Лексема *акумулятар* у БПС мае дадатковае значэнне: 2. ładowarka (telefonu komórkowego), не прадстаўленае ў слоўніках новых слоў беларускай мовы.

Асаблівую ўвагу варта звярнуць на новую лексіку, якая прадстаўлена ў БПС, але не фіксуецца апошнімі слоўнікамі беларускай мовы (акрамя тэрміналагічных). Новыя лексемы такога тыпу колькасна нешматлікія. Найбольшую групу складае медыцынская лексіка: *аўтызм, біяактыўны, кантрацэптны* (пол. antykoncepcyjny; параўн.: у ТСБЛМ *кантрацэпцыйны*, СБМ *процізачаткавы*), *кіберфобія*, *кутыкула*, *ліпіды*, *мастэктамія*, *паліноз, педафіл, проціпролежневы*, *разацэа, тэстастэрон*. Абмежавана прадстаўлена лексіка іншых тэматычных груп: бытавая (*асвяжальнік* (паветра), *паперарэзка, электрашчыпцы* (параўн. у СБМ *плойка*)), кулінарная (*кары, падсалоджвальнік, шпікачкі*), батанічная (*браколі, капуста-брусэлька*), сферы культуры (*відэахіт, тэлезабаўлянка* (пол. telegra; параўн. у СНС *тэлегульня*), *фільм-катастрофа*), інфармацыйных тэхналогій (*фольдар* (пол. folder, ад англ. folder; параўн. у СНС *папка*)), касметалогіі (*гель-маска*) і інш.

Затое вельмі актыўна ў БПС прадстаўлены новыя ўстойлівыя словазлучэнні: *піўны алкагалізм, дзейны алкаголік, алкагольная залежнасць, экстракарпаральнае апладненн*е *(ЭКА)*, *біяметрычны пашпарт, вакцына супраць курэння, палавое выхаванне, жосткі дыск* (параўн. у СНС *цвёрды дыск*), *генная інжынерыя* (слова *інжынерыя* ў БПС як асобнае загалоўнае адсутнічае), *камп’ютарная графіка, міліцэйская дубінка, італьянская забастоўка, біржавая інтэрвенцыя, куленепрабівальная камізэлька* (параўн. у СНС *бронекамізэлька*)*, дэзаксірыбануклеінавая кіслата (ДНК), кластар* (муз.), *комплекс непаўнацэннасцей* (з паметай *псіхал.*; параўн. у СНС *комплекс* з той жа паметай)*, кухонны камбайн, пасудамыечная машына, корпусная мэбля, накапляльнік на цвёрдых магнітных дысках* (параўн. у СНС *дыскавы накапляльнік*), *падушка бяспекі, глабальнае пацяпленне, свабодны рынак, бяспечны секс (сэкс), маскітная сетка, сіндром хранічнай стомленасці, скрытае беспрацоўе, роўмінгавая сувязь* (пол. roaming; параўн. у СБМ *роўмінг, роўмінгавы*; лексема *роўмінг* у БПС адсутнічае), *ачышчальныя сурвэткі, кантактны тэлефон, сэрвісная тэлефонная картка, неабмежаваны тэндар, парніковы эфект, АЗП (адвольнае запамінальнае прыстасаванне)* (параўн. у СНС *АЗУ (аператыўнае запамінальнае ўстройства*)) і інш.

Большасць названых лексем і ўстойлівых словазлучэнняў актыўна выкарыстоўваецца ў сучаснай беларускай мове і патрабуе фіксацыі ў спецыялізаваных слоўніках. Несумненна, частка з іх стане здабыткам слоўнікавага складу беларускай мовы і будзе адлюстравана ў нарматыўных арфаграфічным і тлумачальным слоўніках.

Такім чынам, беларуская мова ў канцы ХХ — пачатку ХХІ ст. папоўнілася значнай колькасцю новых слоў. Застаецца актуальнай задача аператыўнай фіксацыі і аб’ектыўнай інфармацыі аб лексічных інавацыях розных тыпаў у бе-

ларускай мове. Існуе шмат лакун, запоўніць якія павінны новыя неаграфічныя даследаванні.

## Літаратура


1. Słownik białorusko-polski / Uniwersytet Warszawski, Katedra Białorutenistyki / pod red. T. Chylak-Schroeder, J. Głuszkowskiej-Babickiej, T. Jasińskiej-Sochy // Беларус.-пол. слоўнік / Варшаўскі ўніверсітэт, кафедра беларусістыкі / пад рэд. Т. Хыляк-Шрэдар, Я. Глушкоўскай-Бабіцкай, Т. Ясіньскай-Сохі. — Warszawa, 2012.
2. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы: Больш за 65 000 слоў / пад рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко. — Мінск, 1996.
3. Берков, В. П. Двуязычная лексикография. 2-е изд. / В. Берков. — М., 2004. — С. 27–28.
4. Уласевіч, В. І. Слоўнік новых слоў беларускай мовы / В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч. — Мінск, 2009; Уласевіч, В. І.Беларуска-рускі тлумачальны слоўнік новых слоў і новых значэнняў слоў / В. І. Уласевіч, Н. М. Даўгулевіч. — Мінск, 2013.
5. Слоўнік беларускай мовы / навук. рэд. А. А. Лукашанец, В. П. Русак. — Мінск, 2012; Граматычны слоўнік назоўніка / навук. рэд. А. Я. Міхневіч, В. П. Русак. — Мінск, 2008. 1379 с.; 2-е выд., дапрац. — Мінск, 2013.
6. Волкава, Я. В. Польска-беларускі слоўнік: звыш 40000 слоў / Я. В. Волкава, В. Л. Авілава; пад рэд. Г. А. Цыхуна. — 2-е выд. — Мінск, 2005.
7. Завальнюк, У. М. Слоўнік сучаснай беларускай мовы / У. М. Завальнюк, М. Р. Прыгодзіч, В. К. Раманцэвіч; пад агул. рэд. М. Р. Прыгодзіча, У. М. Завальнюка. — Мінск, 2009.

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

**Жанна Некрашэвіч-Кароткая** *(Мінск, Беларусь)*

## «ПОЛЬСКАСЦЬ» — «БЕЛАРУСКАСЦЬ» У ЛІТАРАТУРЫ XIX СТ.: СТРАТЭГІІ ІДЭНТЫФІКАЦЫІ Ў СУЧАСНЫМ ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫМ ДЫСКУРСЕ

Да сённяшняга дня застаецца актуальным пытанне пра «польскасць» і «беларускасць» як ідэнтыфікацыйныя крытэрыі ў стасунку такіх ключавых у літаратурным працэсе XIX ст. постацяў, як Адам Міцкевіч, Ян Баршчэўскі або Уладзіслаў Сыракомля. Яшчэ ў 1992 г. акадэмік І. Я. Навуменка слушна канстатаваў: «Геній Міцкевіча абуджае да творчасці хутчэй беларускіх пісьменнікаў, чым польскіх» [8, с. 29]. Аднак, нягледзячы на гэта, у акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў» (т. 2; 2007) адсутнічае манаграфічны артыкул, прысвечаны творчасці аўтара «Дзядоў» і «Пана Тадэвуша»: яму прысвечаны 17 старонак у артыкуле Уладзіміра Мархеля «Прадвесце адраджэння». Спрошчанае ўяўленне пра беларускасць і яшчэ больш спрошчанае ўяўленне пра польскасць літаратараў XIX ст. спрычыняецца да бясконцых дыскусій на тэму, ці мае той ці іншы аўтар дачыненне да беларускай літаратуры? Актуальнасць жа абранай намі тэмы звязана з тым, што адпаведныя ідэнтыфікацыйныя стратэгіі ўзніклі ў рэчышчы польскага (дакладней, «пост-рэчыпаспалітаўскага») пісьменства, якое развівалася ў межах Расійскай імперыі, аднак пры ўсёй складанасці культурнай і палітычнай сітуацыі гэтыя стратэгіі паўплывалі ў далейшым на фарміраванне ўласна беларускага літаратурнага працэсу.

Паўплывалі — не абавязкова значыць «паўплывалі станоўча». Фарміраванне ўласна беларускай літаратуры адбывалася не толькі на шляху акцэптавання ўжо існуючых стратэгій ідэнтыфікацыі, а перадусім на шляху карэкціроўкі і адштурхоўвання — ад рускасці, польскасці, ліцвінскасці і г. д. — аж да нулявога ўзроўню акцэптавання папярэдняй традыцыі ў літаратуры пачатку XX стагоддзя. Так, дзеля сцвярджэння беларускай ідэі Янка Купала развітваецца ва ўласнай творчасці са сваім шляхецтвам, якое найперш і атаясамлівалася з польскасцю, і заяўляе: «Я — мужык-беларус, пан сахі і касы». Дзеля сцвярджэння той жа беларускай ідэі ён развітваецца і з самой іпастассю паэта-творцы, абагаўлёнай яшчэ Мацеем Казімірам

Сарбеўскім, па словах якога толькі паэзія паводле сваіх функцый больш за ўсё набліжаецца да ўласцівага Богу стварэння. Але ў эпоху «Нашай нівы» не магло быць і гаворкі пра шляхецкасць у беларускай літаратуры; у эпоху «Нашай нівы» немагчыма было пазбавіць Міцкевіча і Сыракомлю іх польскасці, а значыць, можна было толькі пазбыцца іх саміх (з іх рэальным творчым абліччам і рэальнай эстэтычнай праграмай), пазбыцца высокага з гамэраўскіх часоў гучання слова «паэт». Жыццёва неабходна было, уцёршы нос усім літаратурным папярэднікам, разам узятым, рашуча заявіць: «Я не паэта, о крый мяне Божа, не рвуся я к славе гэткай нямала»…

Прайшло сто гадоў пасля перыяду нашаніўства. Сучаснае беларускае літаратуразнаўства тытанічнымі намаганнямі сваіх вялікіх навукоўцаў заслужыла права адэкватна, без фальсіфікацый і ідэалагічных перакосаў вырашыць прымяняльна да беларускай сітуацыі пытанне пра месцазнаходжанне культуры — *location of culture* — менавіта так называецца кніга аднаго з найбольш уплывовых на сённяшні дзень тэарэтыкаў у галіне даследаванняў культуры Хомі Бхабха. Гэтае пытанне вучоны сфармуляваў наступным чынам: «Якім чынам стратэгіі рэпрэзентацыі і фарміравання ўзнікаюць з узаемных прэтэнзій супольнасцяў, у якіх узаемаабмен каштоўнасцямі, значэннямі і прыярытэтамі дзеяння далёка не заўсёды грунтуецца на прынцыпах роўнасці і супрацоўніцтва, а часам і зусім наадварот — на антаганізме, канфліктнасці і нават на поўным узаеманеразуменні?» [1, с. 162]. З падобнымі калізіямі звязана і развіццё нацыянальнага пісьменства.

На грунце адштурхоўвання ад папярэдняй традыцыі фарміраваўся ў пачатку XX ст. новы этап літаратурнай эвалюцыі, якому папярэднічала «сціранне» і адмаўленне (паводле Ганса Роберта Яўса) старых літаратурных форм, старых літаратурных ідэй, старых ідэнтыфікацыйных прыярытэтаў. Беларуская літаратура пачатку XX ст. адмовілася ад польскасці як важнага для літаратуры XIX ст. ідэнтыфікацыйнага крытэрыя. Пры гэтым няважна было, што пад польскасцю не мелася на ўвазе этнічнае паходжанне, — важна было прынцыпова пераадолець гэты спосаб ідэнтыфікацыі і самаідэнтыфікацыі дзеля сцвярджэння беларускай нацыянальнай ідэі ў яе чыстым выглядзе, аж да спасціжэння яе пятай сутнасці (*quinta essentia*). У сітуацыі беларускага нацыянальнага і культурнага будаўніцтва важна было супрацьпаставіць, прычым рэзка, польскасць беларускасці. Гэта, уласна кажучы, і робіць Яўхім Карскі, калі, напрыклад, у артыкуле пра Яна Чачота прыгадвае дэвіз згуртавання філаматаў «айчына — навука», і асноўную думку гэтага дэвіза разумее як «(польскі) патрыятызм, гуманнасць, асвета» [4, с. 272]. Заўважым: выдатны філолаг бярэ слова «польскі» ў дужкі, разумеючы, што гэтай уяўнай маргінальнасцю ён, наадварот, прыцягне да слова «польскі» ўвагу чытачоў.

Прайшло сто гадоў пасля перыяду нашаніўства, але традыцыя рэзкага супрацьпастаўлення беларускага і польскага ў літаратурным працэсе Беларусі XIX ст. захавалася ў пераважнай большасці даследчыцкіх прац аж да

сённяшняга дня. Так, разважаючы пра эмансіпацыю беларускага літаратурнага працэсу з рэчыпаспалітаўскай літаратурнай сістэмы, вядомы даследчык беларускай літаратуры XVIII–XIX стст. Мікола Хаўстовіч сцвярджае, што беларускае прыгожае пісьменства ў 40-х гг. XIX ст. праяўлялася як дзве разрозненыя мастацкія сістэмы. «Першая — польскамоўная — выступала як літаратура, арыентаваная на кніжную мастацкую і моўную культуру. Другая — беларускамоўная — працягвала традыцыі народнага вершаскладання» [13, с. 70]. Грунтам гэтага канцэптуальнага сцвярджэння служыць адпраўны тэзіс, што менавіта ў 40-х гг. узнікае беларуская думка і імкненне ствараць літаратуру на беларускай мове. У якасці прыкладу прыводзяцца браты Грымалоўскія. Цікава, што ў нямецкамоўным варыянце гэтага артыкула імкненне пераўтвараецца ў *Bedürfnis* — 'патрэбу' пісаць па-беларуску [14, с. 69]. І, такім чынам, у межах артыкула ўзнікае сімпатычная метанімія, закліканая пераканаць, што польскамоўныя пісьменнікі Беларусі не маглі не адчуваць патрэбы пісаць па-беларуску. Цікава, аднак, што сам Мікола Хаўстовіч у іншай сваёй публікацыі заўважае: «…**ёсць звесткі**, што браты пісалі па-беларуску» — і далей спасылаецца на ліст Аляксандра Грозы да Міхала Грабоўскага, у якім паведамляецца, што «браты Грымалоўскія **хочуць** свой беларускі дыялект вывесці з усеагульнага забыцця» [7, с. 1076]. Гэта значыць, што рэальных беларускамоўных тэкстаў братоў Грымалоўскіх не захавалася, уяўленне пра патрэбу і нават пра імкненне гэтых аўтараў пісаць па-беларуску — чыста гіпатэтычнае, яно належыць даследчыку XXI ст.

Падобныя апеляцыі тыповыя для беларускага літаратуразнаўчага і адукацыйнага дыскурсу аж да сённяшняга дня. «Няўжо, — піша І. Запрудскі, — акрамя маргінальнага запісу ў французскай энцыклапедыі "Na bożom sudzie wsiem w żopu budzie" Адам Міцкевіч нічога больш не пісаў па-беларуску? Не верыцца!» [3, с. 22]. Падобным чынам у большасці прац, прысвечаных творчасці Уладзіслава Сыракомлі, эксплікуецца вера ў тое, што «Добрыя весці» і «Ды ўжо птушкі пяюць усюды» — далёка не ўсё, што паэт напісаў па-беларуску, што, маўляў, многія яго беларускамоўныя творы да нас не дайшлі.

Творы на беларускай мове выступаюць у дадзеным выпадку як выразныя «абвесткі» (*Anzeige*, паводле Эдмунда Гусэрля), якія маюць засведчыць беларускую самасвядомасць тых аўтараў з Беларусі, якія пісалі пераважна або выключна (як у выпадку з Міцкевічам) па-польску. З іншага боку, даследчыкі старанна маскіруюць польскую культурную свядомасць у любых яе праявах у тых аўтараў, якія шмат пісалі па-беларуску (як у выпадку з Дуніным-Марцінкевічам) або якія вельмі цесна знітаваны з беларускім культурным кантэкстам (ізноў жа як у выпадку з Міцкевічам).

Вера, што творы на беларускай мове Міцкевіча існуюць, што творы на беларускай мове Сыракомлі існуюць у намнога большай за два вершы колькасці, але яны проста яшчэ не знойдзены, карэліруе з разважаннямі Гусэрля пра сутнасць абвестак, якія дазваляюць прыйсці да высновы, што «адныя рэчы маюць

права на існаванне або павінны існаваць, паколькі маюцца ў наяўнасці нейкія іншыя рэчы» (*die einen Sachen bestehen dürften oder bestehen müssen, weil jene anderen Sachen gegeben sind*) [16, с. 25]. І ў гэтым даволі часта заключаецца логіка сённяшняга беларускага літаратуразнаўчага дыскурсу: калі іншыя народы ў XIX ст. мелі ўжо развітую літаратурную традыцыю на сваёй мове, значыць, і беларусы павінны такую традыцыю мець. А калі ўжо даследчыкі дапускалі ў кантэкст гісторыі беларускай літаратуры польскамоўныя творы, то толькі і выключна «пад соусам» ярка выражанай у іх беларускай самасвядомасці. Адпаведныя меркаванні павінны абнадзейваць сённяшніх беларусаў у тым, што працэсы фарміравання нацыянальнай самасвядомасці развіваліся паступова і планамерна, на працягу доўгага часу і што, магчыма, у XXI ст. яны завершаны. Гэтая вера, аднак, не дазваляе зразумець таго сённяшняга феномену, які беларускі пісьменнік Валянцін Акудовіч назваў «архіпелагам Беларусь», які асэнсоўваецца ў публікацыях сучасных гісторыкаў, культуролагаў, палітолагаў (у тым ліку ў працах колішняга аспіранта кафедры гісторыі беларускай літаратуры Валера Булгакава). Развважанні даследчыкаў у цэлым зводзяцца да наступнага: ёсць беларускі народ, ёсць беларуская мова, ёсць незалежная беларуская дзяржава, ёсць беларуская літаратура з даўняй гісторыяй — і ёсць вялікія праблемы з беларускай нацыянальнай свядомасцю.

Але на дзіва літаратуразнаўцы часта ігнаруюць падобныя праблемныя пастаноўкі пытанняў. Замест гэтага прадпрымаюцца неверагодныя спробы прыпісаць польскамоўным літаратарам XIX ст. «патрэбныя» сённяшнім даследчыкам ідэі, высновы і нават словазлучэнні. Часам даводзіцца здзіўляцца вынаходлівасці айчынных навукоўцаў, якія ўжываюць фантастычныя спосабы для таго, каб «замяць», схаваць нават мінімальныя праявы польскай свядомасці класікаў беларускай літаратуры. Так, у зборніку «Літаратура Беларусі: першая палова 19 ст.», які быў падрыхтаваны вядомым перакладчыкам і даследчыкам Кастусём Цвіркам і выдадзены ў 2000 г. (апошняе перавыданне — 2013), у раздзеле, прысвечаным Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, мы знойдзем урывак з гістарычнага апавядання «Люцынка, альбо Шведы на Літве»:

Мова родная! — часам як лірнік наш слынны
Песню аб сінявокай літоўскай дзяўчыне
Распачне мілагучна… Ну, як не здзівіцца!
Як жа сэрцу ў грудзях нашых моцна не біцца!

…

Не мілей хіба нам наша родная мова,
Дзе падкрэслена слава народу праз слова?
Прыгажосці яе мы часамі не знаем
І таму чужаземную мову ўжываем… [6, с. 507–508]

Фрагмент з перакладнога тэксту парцэляваны настолькі адмыслова, што наўрад ці ў студэнта, які адгорне адпаведную старонку і ўбачыць імя класіка беларускай літаратуры В. Дуніна-Марцінкевіча, урывак з яго твора на беларускай мове, заўважыць у моцнай пазіцыі тэксту (на пачатку) рытарычны вокліч «Мова родная!», узнікне сумненне адносна таго, якая ж мова тут маецца на ўвазе. Канешне, беларуская, — хутчэй за ўсё вырашыць студэнт, асабліва ў сітуацыі, калі выданне ніякай дадатковай інфармацыі не прадстаўляе. Пра якую ж мову ў рэальнасці пісаў аўтар «Люцынкі»? Адказаць на гэтае пытанне няцяжка, калі звярнуцца да арыгінальнага тэксту. Пачнем цытаванне крыху вышэй:

Ej! szczęśliwie się wiodło w te dawniejsze lata: —
Litwa nasza kwitnęła, cnotami bogata,
Zamożnością, swobodą oddychał kraj cały!
Prawda, nasze prababki modnych ksiąg nie znały: <…>
To też dziewki nie znały co Russy, Woltery,
Nie przyjmowały, jak dziś, obcej maniery;
A również francuzczyzną lichą nie paplały,
Lecz mowy Kochanowskich z chlubą używały [15, с. 15–16].

Браты Ян і Анджэй Каханоўскія жылі ў XVI ст.; адзін з іх быў славутым паэтам, які распачаў сваю творчасць узорамі лацінскага вершавання, але потым перайшоў на польскую мову, стварыўшы шэраг паэтычных помнікаў, што ўвайшлі ў залатую скарбонку польскай літаратуры; другі праславіўся як перакладчык «Энеіды» Вергілія і твораў Плутарха на польскую мову. Адпаведна, «мова Каханоўскіх» — гэта толькі польская мова і ніякая іншая. І менавіта пасля згадкі пра «мову Каханоўскіх» ідзе тая страфа, якая ў перакладзе К. Цвіркі распачынаецца словамі «Мова родная!»:

Bo też piękny nasz język! — Ot kiedy lirnicy
O wdziękach modrookiej litewskiej dziewicy
Rzewną zanucą piosnkę, w rymowanej mowie,
Aż serce drga z rozkoszy, aż się mąci w głowie…
<…> No, powiedzcie! nie milszaż nam ojczysta mowa,
W której się wdzięcznie kreśli chluba narodowa?
Ach czemuż piękna onej z gruntu nie zbadamy?
Dla czego tych nieszczęsnych partów używamy? [15, с. 16].

З працытаванага ўрыўка зразумела, што В. Дунін-Марцінкевіч супрацьпастаўляў тут польскую мову французскай, выступаючы супраць галаманіі.

Упэўнена, што падобныя «карэкціроўкі» ў дачыненні да тэкставага корпусу беларускай літаратуры XIX ст. робяцца ўкладальнікамі з лепшых — патрыятычных — меркаванняў. Але тут хочацца задаць тое ж пытанне, якое больш за 50 гадоў таму задаў вядомы польскі літаратуразнавец Казімір

Куманецкі, якому прапанавалі не ўжываць тэрмін «маньерызм» у кантэксце гісторыі польскай літаратуры: *czy nam się to opłaci*? Падобна, не ўсе даследчыкі станоўча адказваюць на гэтае пытанне.

Так, Лія Кісялёва даводзіць, што «ў XIX ст. … беларускамоўныя творы не набылі шырокага распаўсюджання ў сялянскім асяроддзі, і цікавіліся імі не столькі хлопы, колькі хлапаманы» [5, с. 75]; Ігар Запрудскі адзначае, што «В. Дунін-Марцінкевіч пісаў свае беларускія творы з намерам дапамагчы засваенню здабыткаў польскай кніжнасці» [3, с. 24]. Падобным чынам, спакойна і без фальсіфікацый тлумачыць Галіна Тычка, чаму беларускі змагар і пакутнік Францішак Савіч часта называе сваю Айчыну «дарагая польская зямля». «З'ява гэта часавая ў нашай гісторыі» [12, с. 94], — адзначае даследчыца. Сапраўды, часавая, і калі мы хочам гэты час зразумець, то мусім глыбока асэнсаваць сутнасць польскага (рэчыпаспалітаўскага) патрыятызму беларусаў у XIX ст. Бо, на вялікі жаль, многія культурныя феномены, якім ужо даўно варта было б зрабіцца трывалымі, застаюцца да сённяшняга дня часавымі (беларусізацыя як дзяржаўная палітыка), а з іншага боку, «часавае» (як, прыкладам, «сарматызм», «ліцвінскасць», «тутэйшасць») раз-пораз адгукаецца, аказваючыся чымсьці істотным для фарміравання нацыянальнага руху, нацыянальнай самасвядомасці і ідэнтычнасці.

Што ж датычыць рэальных стратэгій ідэнтыфікацыі пісьменнікаў XIX ст. з Беларусі-Русі, то яны былі надзвычай адрознымі, але ў асноўным зводзіліся да той вызначанай гродзенскімі літаратуразнаўцамі матыўнай прасторы, якая прадстаўлена і ў беларускай літаратуры XX ст.: матыў роднай хаты, матыў бяседы (так званай гавэнды) і матыў шляху. Спробы ж ідэнтыфікаваць гэтых аўтараў паводле іх нацыянальнай прыналежнасці, на маю думку, — бесперспектыўныя. Відаць, да адпаведнай высновы прыйшоў і Адам Мальдзіс, які ў 2012 г. выпусціў кнігу сваіх артыкулаў на рускай мове «Соотечественники». Адам Міцкевіч прадстаўлены тут першапачаткова як «гениальный сын земли новогрудской», потым аўтар задае правакацыйныя пытанні «Белорус? Поляк? Литвин (литовец)?» і сам дае правільны адказ: «Гении не делятся».

Самыя розныя спробы самаідэнтыфікацыі ўраджэнцаў Беларусі XIX ст. — ад славутай «ліцвінскасці», так шчымліва засведчанай Адамам Міцкевічам і Адамам Кіркорам, да ўласна беларускасці (напрыклад, у Вайніслава Савіча-Заблоцкага) былі вельмі нясталымі і маглі змяняцца на працягу жыцця аднаго аўтара. Так, вышэйзгаданы Савіч-Заблоцкі ў 1886 г. пісаў на беларускай мове: «Мы рускія — русіны, як нас завуць, — і Маскоўшчыне гэтай брацці, і Польшчы гэтай не чужбіна — з аднаго мы з ёю ішлі гнязда» [2, с. 545]. З іншага боку, у «Маніфесце палякаў, якія знаходзяцца ў Бельгіі» 1836 г. было запісана: «Украінец, кашуб, русін, вяліка- або малапалянін, літвін, падалянін, жмудзін, мазур, валынянін і кожнай нашай правінцыі даўняй Рэчыпаспалітай сын з'яўляецца палякам, і толькі ў той назве сваю цэласнасць бачым» [цыт. па:

3, с. 125]. Відавочна, што ў дадзеным выпадку азначэнне «паляк» выступае як палітонім — падобна таму, як словамі (*natione*) *Polonus* вызначаў сваю дзяржаўную прыналежнасць у XVI ст. ураджэнец Беларусі Мікалай Гусоўскі альбо ўраджэнец Украіны Станіслаў Ажахоўскі.

Наогул, калі прасачыць, як у старажытнай літаратуры ўжываўся тэрмін «паляк», то мы заўважым, што найчасцей ён ужываўся менавіта як палітонім. Так, у «Аповесці мінулых гадоў» чытаем: «… словени же ови пришедше седоша на Висле, и прозвашася ляхове, а от тех ляхов прозвашася поляне…» [9, с. 24]. Д. Ліхачоў так пераклаў адпаведны пасаж: «… славяне эти пришли и сели на Висле и прозвались ляхами, а от тех ляхов пошли поляки…» [9, с. 25]. Крыху ніжэй чытаем: «Тако же и ти словене пришедше и седоша по Днепру и нарекошася поляне…», а ў перакладзе Д. Ліхачова — ужо іншы варыянт: «Также и эти славяне пришли и сели по Днепру и назвались полянами…». У многіх беларускіх летапісах распавядаецца гісторыя няўдалай каранацыі вялікага князя Вітаўта. Аднак, паводле «Супрасльскага летапісу», «поляне не пропустиша коруны» [11, с. 57], у «Хроніцы Літоўскай і Жмойцкай» у гэтым самым эпізодзе згадваюцца не «поляне», а «поляки» [10, с. 81], у «Хроніцы Быхаўца» — «lachowe» [10, с.153].

Усё гэта гаворыць пра тое, што тэрмін *паляк* быў вельмі недакладны, а таму нязручны для ўжывання ў якасці этноніма. І таму ў помніках прыгожага пісьменства Вялікага Княства Літоўскага і слова *Polonus*, і слова *Polonia* ўжываліся для дзяржаўнай, а не этнічнай ідэнтыфікацыі. *Poloni* ў помніках літаратуры далёка не заўсёды былі палякамі ў этнічным сэнсе. Ведаючы гэта, В. Савіч-Заблоцкі ўводзіць у аповесць «Полацкая шляхта» яркі паводле сваёй культурнай маркіраванасці эпізод: шчыры патрыёт сваёй Айчыны стараста Арлалёт, прадстаўнік полацкай (!) шляхты, выхоўваючы бізунамі на дыване здрадніка і галамана графа Гажагорскага, паўтараў: «*Polonus esto! Polakiem bądź! Simia non esto! Skoroś szlachcic, błaznem Wasze nie bądź. Religją zaś miej*» [17]. У гэтым сэнсе цалкам заканамернай бачыцца заява аўтара «Полацкай шляхты», што белыя русіны не саступаюць жыхарам Кароны і Літвы ані радавітасцю, ані дастаткам, ані старой польскай (!) цнотай. Характэрнае і паведамленне пра славака Бянёўскага, які ўцёк з Петрапаўлаўскай крэпасці, а пазней *ut Nobilis Polonus* (як польскі шляхціч) абвясціў сябе каралём далёкага Мадагаскара.

Такім чынам, уяўленне пра польскасць, ад якога так актыўна адштурхоўваўся амаль што ўвесь папярэдні культурны дыскурс Беларусі, не ўяўляе ніякай небяспекі для беларускай нацыянальнай ідэі. Гэта папросту зусім іншая польскасць — гэта польскасць, роўная шляхецкасці. Беларуская *szlachta zaściankowa* альбо *szlachta zagrodowa* была менавіта тым асяроддзем, у якім нараджаўся і беларускі пісьменнік, і беларускі чытач XIX ст. Яны лічылі сябе польскай шляхтай (*nobilitas Polona*), але яны добра ўсведамлялі

сваю «ліцвінскую», альбо «беларускую», альбо нават «крывічскую» (як у выпадку з Янам Чачотам) культурную адметнасць. Але прыналежнасць да шляхецкага саслоўя была рэальнай стратэгіяй ідэнтыфікацыі альбо, паводле П'ера Бурдзьё, модусам пазіцыянавання для аўтараў з Беларусі — ад Адама Міцкевіча да Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча.

Упершыню рашуча парывае з гэтай стратэгіяй ідэнтыфікацыі Францішак Багушэвіч, напісаўшы: «Маліся ж, бабулька, да Бога, каб я панам ніколі не быў». Вось чаму Цётка ў прадмове да «Скрыпкі беларускай» пісала ад імя Гаўрылы з Полацка: «Доўга я гадаў і думаў, як сябе зваць, ці то паляком, ці то літоўцам, бо слова тутэйшы мне нексць не смакавала. І так колькі гадоў я хістаўся то на ту, то на другую сторану, аж покі не попала ў мае рукі "Дудка" Мацея Бурачка» [цыт. па: 4, с. 433–434]. Іншымі словамі, Цётка, як і многія іншыя чытачы твораў Францішка Багушэвіча, зразумела беларускасць гэтага аўтара праз прызму яго адмаўлення ад шляхецкасці на карысць мужыцкасці, што, у прыватнасці, было дэкларавана і абранымі ім псеўданімамі — Мацей Бурачок, Сымон Рэўка з-пад Барысава.

Абодва модусы пазіцыянавання — шляхецкасць і мужыцкасць — адыгралі важную ролю ў развіцці літаратуры на Беларусі. Аднак у межах абодвух модусаў асаблівую ролю ў спасціжэнні сваёй ідэнтычнасці адыгрывала гарачае патрыятычнае пачуццё і яго эксплікацыя ў найважнейшых, праграмных для аўтараў творах. Пачаткі двух нацыянальных эпасаў беларусаў, створаных двума Міцкевічамі, непасрэдна карэліруюць паміж сабой у гэтым сэнсе: «Litwo, ojczyzno moja, ty jesteś jak zdrowie» — «Мой родны кут, як ты мне мілы». Творчасць як аднаго, так і другога (прычым другога — у постаці Якуба Коласа) вызначала гарызонты чаканняў беларускага чытача — але ў розныя эпохі. Пры гэтым асаблівую ролю ў спасціжэнні «свайго» адыгрываў пясняр — вайдэлот у Міцкевіча, лірнік у Сыракомлі, гусляр у Янкі Купалы і музыка ў Якуба Коласа. У гэтым вобразе выступае важны для сённяшняга чытача пасрэднік, які ажыццяўляе своеасаблівы герменеўтычны акт, аб'ядноўваючы мінуўшчыну свайго народа — у многіх адносінах польскую, з сучаснасцю — бясспрэчна, беларускай.

## Літаратура


1. Бхабха, Х. Местонахождение культуры / Х. Бхабха // Перекрёстки. — 2005. — № 3–4. — С. 161–191.
2. Заняпад і адраджэнне: беларуская літаратура XIX ст. / укл., прадм. і заўв. У. Казберука. — Мінск, 2001.
3. Запрудскі, І. М. Па дарозе на Парнас. Атрыбуцыйныя даследаванні і пытанні рэцэпцыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя / І. М. Запрудскі. — Мінск, 2012.
4. Карский, Е. Ф. Белорусы: в 3 т. Т. 3, кн. 2. Очерки словесности белорусского племени / Е. Ф. Карский; коммент. Т. И. Вабищевич, В. М. Казберука, О. П. Кричко. — Минск, 2007. — (Помнікі гістарычнай думкі Беларусі).

5. Кісялёва, Л. Г. Маргіналіі: беларуская гумарыстычная літаратура XIX — пачатку XX ст. у святле сучасных літаратуразнаўчых канцэпцый / Л. Г. Кісялёва. — Мінск, 2007.
6. Літаратура Беларусі: першая палова XIX стагоддзя: хрэстаматыя / уклад. К. Цвірка. — Мінск, 2000.
7. Літаратура першай паловы XIX стагоддзя / уклад. і камент. М. Хаўстовіча. — Мінск, 2012. — (Залатая калекцыя беларускай літаратуры. Т. 3).
8. Навуменка, І. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч / І. Навуменка. — Мінск, 1992.
9. Памятники литературы Древней Руси. Начало русской литературы. XI — начало XII века / сост. и общ. ред. Д. С. Лихачева и Л. А. Дмитриева. — М., 1978.
10. Полное собрание русских летописей. Т. 32. — М., 1975.
11. Полное собрание русских летописей. Т. 35. — М., 1980.
12. Тычка, Г. Шлях змагара і пакутніка: вяртанне Францішка Савіча / Г. Тычка // Шляхам гадоў: гіст.-літ. зб. — Мінск, 1994. — С. 90–94.
13. Хаўстовіч, М. Дзве плыні ў літаратуры Беларусі XIX ст.: эмансіпацыя беларускага літаратурнага працэсу з рэчыпаспалітаўскай літаратурнай сістэмы / М. Хаўстовіч // Погляды на спецыфічнасць «малых» літаратур: беларуская і ўкраінская літаратуры / уклад. Г.-Б. Колер, П. Навуменка. — Мінск, 2012. — С. 61–75.
14. Chaŭstovič, M. Zwei Strömungen der belarussischen Literatur des 19. Jahrhunderts: die Emanzipation des belarussischen Literaturprozess aus dem Literatursystem der Rzeczpospolita / M. Chaŭstovič // Kohler, G.-B. Kleinheit als Spezifik. Beiträge zu einer feldtheoretischen Analyse der belarussischen Literatur im Kontext ‘kleiner’ slavischer Literaturen / G.-B. Kohler, P. I. Navumenka. — Oldenburg, 2012. — S. 59–75. — (Studia Slavica Oldenburgensia. 20).
15. Dunin Marcinkiewicz, W. Lucynka czyli Szwedzi na Litwie. Opowiadania historyczne, w 4-ch obrazkach przez Wincentego Dunin Marcinkiewicza / W. Dunin Marcinkiewicz. — Wilno, 1861.
16. Husserl, E. Logische Untersuchungen. 2-r Teil. Untersuchungen zur Phänomenologie und Theorie der Erkenntins / E. Husserl. — Halle, 1901.
17. Sawicz-Zabłocki, W. Połocka szlachta / W. Sawicz-Zabłocki // Warta. Rok XII. — Nr. 564. — Poznań. — Dnia 19. Kwietnia, 1885.

**Таццяна Кохан** *(Мінск, Беларусь)*

# «НОВАЯ САФІЁЎКА» Я. ЧАЧОТА: ТРАДЫЦЫІ І ЎПЛЫВЫ

Адзіны рукапіс паэмы «Новая Сафіёўка. Верш да Зосі»[1] захаваўся ў «Зборы розных твораў вершам і прозай»[2] («Zbiór Różnych Pism Wierszem y Prozą…»), альбо, як прынята называць, фамільным Раптуляжы Я. Чачота. Як сведчыць С. Свірка: «група вершаў Чачота, напісаная невядомым почыркам, пачынаецца з 165 старонкі (ранейшая нумарацыя — 155). Гэту групу адкрывае твор найвыбітнейшы ў тым рукапісе пад тытулам «Новая Сафіёўка. Верш да Зосі». З правага боку ад назвы ўжо іншым характарам пісьма пазначана «Чачот Ян, 1823» [8, s. 204]. Твор, хутчэй за ўсё, быў напісаны Я. Чачотам напрыканцы 1823 г., калі паэт знаходзіўся пад следствам па справе філаматаў у зняволенні ў базыльянскіх мурах.

Упершыню інфармацыю пра творы з Чачотавага Раптуляжа падаў Ю. Рыхтэр («Dziennik Polski», 1886, № 295), пазней ён жа апублікаваў матэрыялы пра рукапіс у іншых выданнях («Biesiada Literacka»,1887, №№ 576, 577; «Ognisko Domowe», 1887, №№ 97, 101; «Bluszcz», 1889, №№ 14,15, 17), у якіх проста згадвалася назва «Новай Сафіёўкі» Я. Чачота. Больш поўнае і па-навуковаму дакладнае апісанне Раптуляжа было зроблена ў 1953 г. Ч. Згажэльскім і змешчана ў «Roczniku Zakłada Narodowego imienia Ossolińskich». У 5 томе выдання «Roczniki humanistyczne» за 1954–1955 гг. Ч. Згажэльскі змясціў першую (і пакуль адзіную) публікацыю тэксту паэмы «Новая Сафіёўка» Яна Чачота, аздобіўшы выданне невялікай, але змястоўнай прадмовай [7]. Пасля больш за 30 гадоў твор не прыцягваў да сябе ўвагі навукоўцаў. Толькі ў 1989 г. з’явілася вычарпальная манаграфія С. Свіркі «Разам з Міцкевічам, або Жыццё і творчасць Я. Чачота» («Z Mickiewiczem pod rękę, czyli Życie i twórczość Jana Czeczota»), некалькі старонак якой прысвечаны гэтаму яшчэ такому мала знанаму твору [8, s. 204–207]. Гэта пры тым, што, паводле меркавання С. Свіркі, «Новая Сафіёўка. Верш да Зосі» — «адзін з лепшых твораў» [8, s. 207] у паэтычным даробку Я. Чачота.

---

[1] Назва верша, найбольш верагодна, узнікла пад уплывам Эдварда Адынца, пра што красамоўна сведчаць яго лісты да Чачота. У першым з іх (ад 16/28 ліпеня 1823 г.) Э. Адынец распавядаў пра далёка не ўзорнае жыццё графіні Сафіі Патоцкай [4, с. 271–272], а ў другім (ад 27 ліпеня 1823 г.) — пра задуму напісаць «Даліну Раманскую», накшталт «Сафіёўкі», і паэт нават меркаваў даць адпаведную назву «Новая Сафіёўка», як і «Новая Элаіза» [4, с. 293].

[2] Захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы імя Асалінскіх у Вроцлаве, адз. зах. 3287/II.

Паэма[1] напісана сілабічным трынаццаціскладовікам, налічвае 222 радкі і адносіцца, поруч з баладамі і «Думай над магіламі французаў», да самых буйных па аб'ёме вершаваных тэкстаў у спадчыне літаратара. Да таго ж выразны аўтабіяграфізм спрыяе актуалізацыі гісторыка-літаратурнага значэння «Новай Сафіёўкі» Я. Чачота для разумення спружын творчасці і свету душы паэта.

Даследчыкі беларускай літаратуры рэдка згадваюць паэму ў сваіх працах, выключэнне — І. Бурдзялёва, якая ў аспекце выяўлення рыс сентыменталізму прааналізавала «Новую Сафіёўку» ў сваёй кандыдацкай дысертацыі «Традыцыя сентыменталізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя», а пасля змясціла адпаведны матэрыял у кнізе «Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзяў: майстры, плыні, традыцыі» [1, с. 26–29]. Навуковец слушна праводзіць паралель з узорнай класіцыстычнай апісальнай паэмай «Сафіёўка» С. Трэмбецкага, выяўляе спецыфіку Чачотавага твора, для якога было характэрна «імкненне да эмацыянальна-асабістага і прыватна-лакальнага асэнсавання рэчаіснасці», ідылічна-настальгічнае адчуванне прыроды і вёскі [1, с. 26]. Аднак, нягледзячы на значныя дасягненні літаратуразнаўчай навукі, сёння па-ранейшаму застаецца актуальным аналіз паэмы «Новая Сафіёўка», асабліва ў кантэксце традыцый і ўплываў.

Безумоўна, сама назва твора Я. Чачота «Новая Сафіёўка» выклікае ў кампетэнтнага чытача адпаведныя асацыяцыі, адлюстроўвае непасрэдную сувязь з апісальнай паэмай «Сафіёўка» С. Трэмбецкага, уводзіць у шырокі гісторыка-культурны кантэкст найвыбітнейшых узораў жанру апісальнай паэмы («Поры года» Дж. Томсана, «Поры года» Ж.-Ф. Сен-Ламбера, «Сады» і «Сельскі жыхар» Ж. Дэліля і інш.). Твор перастае існаваць у замкнёным культурным кантэксце, пачынае вырывацца з яго і ўступаць у кантакт з аналагічнымі з'явамі ў іншых літаратурах, нават падзеленымі моўным бар'ерам. У творы Я. Чачота адчуваецца новая філасофія і эстэтыка прыроды, якая асэнсоўваецца ў філасофскіх і літаратурных працах яго папярэднікаў (найперш, безумоўна, Ж.-Ж. Русо) і сучаснікаў (напрыклад, А. Міцкевіча), актыўна маніфестуючы змену літаратурных напрамкаў — пераход ад класіцыстычнага ладу мыслення да сентыменталісцкага і нават рамантычнага, пры якім узвялічваецца роля асобы, ствараецца прынцыповая ўстаноўка на пазнанне свету праз унутранае «я».

Аднак нельга цалкам адмаўляць пераемнасць паміж апісальна-дыдактычнымі паэмамі ранейшых часоў і паэмай «Новая Сафіёўка». У спадчыну ад сваіх папярэднікаў Я. Чачот пераняў цэлы комплекс тэм і матываў: меланхалічны настрой, які спадарожнічае тэме адзіноты, характэрныя

---

[1] У крытычнай літаратуры найчасцей сустракаецца наступнае жанравае вызначэнне — «poemacik» («паэмка»), што не з'яўляецца навуковым, але адпавядае сутнасці твора.

элементы пейзажу (у прыватнасці, сад як аб’ект апісання), проціпастаўленне сельскага і гарадскога жыцця, пачуццё еднасці з прыродай, тэму сапраўднага шчасця, дабрачыннасці, сяброўства, кахання. Гэтае сэнсава-тэматычнае поле становіцца агульнапрызнаным топасам, своеасаблівым жанравым «маячком» апісальнай паэмы. Відавочна, што паэт акцэнтаваў наяўнасць папярэдняй традыцыі, але разам з тым гэта была спроба стварэння арыгінальнага твора. Так, падзагаловак «Верш да Зосі» адмаўляе зададзеную жанрам апісальнай паэмы манументальнасць формы і зместу, актуалізуе прыватны, аўтабіяграфічны пачатак у творы, які падаваўся пераважна элегічна — у танах суму аб мінулым. Ідылічнасць сентыменталізму ў спалучэнні з перадрамантычнай настальгічнай меланхоліяй выяўляецца ў трактоўцы паэтам успамінаў аб наведваннях садка Зосі Малеўскай. У творы Я. Чачота прырода перастае быць толькі дэкаратыўным фонам, для паэта важна адчуць сябе часткай навакольнага свету.

С. Свірка слушна сцвярджае: «Задума Я. Чачота была арыгінальная, але разам з тым рызыкоўная: ён супрацьпаставіў сваю сціплую паэтычную музу аднаму з класікаў польскага Асветніцтва, экзатычнаму парку — садок Малеўскіх у Вільні, а графіні Патоцкай, гераіні часоў станіславаўскіх, — дачку рэктара Зосю» [8, с. 204]. Сапраўды, палемічная супрацьпастаўленасць твораў праяўляецца з самых першых радкоў: Я. Чачот узяў у якасці эпіграфа да «Новай Сафіёўкі» заключныя словы з паэмы «Сафіёўка» С. Трэмбецкага:

Lecz to miejsce, Zofijo, więcej zdobisz sama,
Podobniejsza niebiankom niż córkom Adama,
A póki między rodem ludzkim raczysz gościć,
Pół świata czcić cię będzie, drugie pół — zazdrościć [6, c. 46].

Да якіх дадаў:

A ja bym może tak odmienił:
I póki świat ten niski zatrymać cię zdoła,
W niebie się nie doliczą jednego anioła [5, c. 347].

Ва ўступе паэт аддаў належнае С. Трэмбецкаму (*«Twojego trzeba pędzla, aby w godnym rymie // Rozrzucić jej po świecie lube sercu imie»* [5, с. 348]), але ў той жа час падкрэсліў сваю і Зосіну маральную перавагу:

A to zawsze mieć będę pierwszeństwo przed tobą,
Żem krwawą pracą żyjąc i własną chudobą,
Nigdy dwustronnym czuciem duszy mej nie skaził
I nigdy z niskim czołem w pański dwór nie właził.
A ta, której chcę wzdzięczny ogródek opiewać,
Nigdy nie mogła Boga występkiem rozgniewać [5, c. 348].

Яшчэ адным пунктам супрацьпастаўлення з’яўляюцца заяўленыя ў назвах твораў аб’екты апісанняў — экзатычны парк «Сафіёўка» графаў Патоцкіх у Тульчыне і «новая Сафіёўка» — віленскі садок Зосі Малеўскай, каханай Я. Чачота. Наколькі значным быў кантраст, сведчаць наступныя факты: стварэнне парка «Сафіёўка» працягвалася з 1796 па 1805 г. і каштавала С. Патоцкаму 15 мільёнаў злотых, была задзейнічана праца некалькіх тысяч прыгонных. Людвік Метцэль, аўтар тапаграфічных і архітэктурных работ, выпісваў з заходніх краін мармуровыя скульптуры і гідраўлічныя машыны, а рэдкія віды дрэў і кветак — з Турцыі. Усе аб’екты парку мелі антычныя назвы, запазычаныя з грэчаскай міфалогіі, пазней яны былі забытыя ў сувязі з пераходам пасля паўстання 1830–1831 гг. права валодання паркам ад нашчадкаў Патоцкіх да Расійскай кароны [3, с. 74]. У той жа час садок каханай Зосі не мае такой пампезнасці, пазбаўлены арыстакратычнай пыхі:

Witaj, skromny przybytku naszej lubej flory!
Gdzież tu pyszne są drzewa? gdzie roślin wybory?
Gdzie zamorskie i spiekłej Afryki mieszkańce <…>
Nie ma śladu przymusu, wszystko bez wytworu,
Bo to jest obraz pani duszy i humoru [5, c. 348].

Як слушна сцвярджае І. Бурдзялёва, у садку яго каханай «паэт бачыць праекцыю прыроды і вёскі, якія па сентыменталісцкай традыцыі супрацьстаяць гораду. Садок Зосі Малеўскай у Вільні, абагрэты святлом інтымных успамінаў, кантрастуе са светам цывілізацыі, ад якой варта ўцякаць да сапраўдных каштоўнасцей натуры» [1, с. 29]:

Tam huk karet do ziemi duszy nie przybije,
Tam się nie będziesz pytać, czyj wóz? konie czyje?
Ale wszechmocność Boga z każdej widząc strony,
Do nieba myślą wzlecisz od kwiatu korony.
Szukać początku rzeczy i wiecznej mądrości [5, c. 351].

Таму паэт жадае Зосі як найчасцей бываць на прыродным улонні, у сваім садку, каб мець магчымасць узвысіцца над паўсядзённасцю і адпачыць душой, падумаць пра вечнае. Варта заўважыць, што пры адлюстраванні прыроды С. Трэмбецкі пераважна карыстаецца антычнай вобразнасцю, у той час як Я. Чачот ідзе па шляху злучэння антычнага і хрысціянскага пачаткаў: у тэкст «Новай Сафіёўкі» неаднаразова ўводзіцца згадка пра райскі сад. Шчасце Эдэмскага саду можа быць адноўлена праз здабыццё свабоды і ўнутранай гармоніі чалавечай душы.

У адрозненне ад паэмы С. Трэмбецкага, дзе галоўным быў паказ значэння роду графаў Патоцкіх і дзівоснага хараства іх экзатычнага парку, стрыжнем Чачотавага твора з’яўляюцца асабістыя ўспаміны:

Pamiętasz, jak zbierałem agrest, choć tak kole!
I dłoń moją zwyczaję znosić ostre dole.
Nie zbierałbym nikomu, chyba wam i sobie,
Lecz zbierałem, bom ciebie wyręczał w tej dobie.
Dowód błahy, że krwi nie szkoda dla ciebie,
Którą tylko Ojczyźnie oddałbym w potrzebie [5, c. 350].

Пацвярджэнне аўтэнтычнасці таго фрагменту знойдзем у лісце Францішка Малеўскага да Яна Чачота ад 15/27 мая 1823 г.: «Бегай за Зосяй па садку, каліся, збіраючы для яе агрэст, спявай, разважай…» [4, с. 223].

У іншым месцы паэт узгадвае:

Jednak, może na takie niepamiętna czary,
Tomaszowi z ogródka swego dała dary.
Jej bukiet czarodziejską poił go wonnością
I jeszcze tego kwiatu oddycha słodkością [5, c. 349].

Той букет апісаў Тамаш Зан у лісце да Марыі Путкамер ад 15/27 верасня 1823 г.: «Тады Зося падбегла да мяне і падала букет з найпрыгажэйшых, найдрабнейшых, наймілейшага паху кветак, вельмі густоўна ўкладзены» [4, с. 333].

Усё гэта ўпэўнівае, што Я. Чачот кіраваўся не фантазіямі, а абапіраўся на канкрэтныя жыццёвыя факты. Да такіх фактаў трэба аднесці і выразныя алюзіі на зняволенне, у якім і быў створаны гэты твор:

A u nas jak mnich jaki w ściślejszym zakonie,
Musi siedzieć za kratą jak w szklannym wazonie [5, c. 349].

Такім чынам, Я. Чачот у творы «Новая Сафіёўка» плённа працягвае традыцыі сваіх папярэднікаў, якія працавалі ў жанры апісальнай паэмы (Дж. Томсана, Ж.-Ф. Сен-Ламбера, Ж. Дэліля і інш.), але ў першую чаргу пры аналізе твора варта ўлічваць уплыў С. Трэмбецкага, які выкарыстаў форму апісальна-дыдактычнай паэмы для апявання экзатычнага парку «Сафіёўка» графаў Патоцкіх у Тульчыне. Сад у паэме С. Трэмбецкага адлюстроўвае класіцыстычны светапогляд, уражвае знешняй прыгажосцю, веліччу, выводзіць на першае месца прыроду, але не мае глыбокага псіхалагічнага зместу і таму стамляе чытача аднастайнасцю. У аснову Чачотавай «Новай Сафіёўкі» пакладзены прынцып натуральнасці, нязмушанасці, твор пабудаваны ў форме даверлівай размовы, якая дазваляе чытачу за самымі на першы погляд звычайнымі рэчамі ўбачыць іх глыбіню і адчуць сувязь са светам аўтарскіх перажыванняў, са светам чалавечай душы. Твор пазначаны глыбокай эмацыянальнасцю і лірыка-суб’ектыўным характарам, рэальнасць успрымаецца праз асобу лірычнага героя з яго складаным унутраным светам.

## Літаратура

1. Бурдзялёва, І. А. Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзяў: майстры, плыні, традыцыі. Курс лекцый / І. А. Бурдзялёва. — Мінск, 2009.
2. Вережбовский. История польской литературы. [Б. м.], [Б. г.].
3. Фадеева, Т. М. Две Софии и Пушкин. Истоки вдохновения «Бахчисарайского фонтана» / Т. М. Фадеева. — Симферополь, 2008.
4. Archiwum Filomatów: Korespondencya Filomatów / wydał J. Czubek. T. 5: 1823. — Kraków, 1913.
5. Czeczot, J. Nowa Sofiówka / J. Czeczot // Roczniki Humanistyczne. — T. 5. — 1954–1955. — S. 347–354.
6. Trembecki, S. Sophiowka: Poeme polonais, traduit vers francais par le comte de Legarde / S. Trembecki. — Vienne, 1815.
7. Zgorzelski, Cz. «Nowa Sofiówka» / Cz. Zgorzelski // Roczniki Humanistyczne. — T. 5. — 1954–1955. — S. 341–346.
8. Świrko, St. Z Mickiewiczem pod rękę, czyli Życie i twórczość Jana Czeczota / St. Świrko. — Warszawa, 1989.

**Tomasz Wielg** *(Opole, Polska)*

# TWÓRCZOŚĆ UŁADZIMIRA KARATKIEVIČA I JEJ ZWIĄZKI Z LITERATURĄ EUROPEJSKĄ

Uładzimir Karatkievič, zmarły w roku 1984 białoruski poeta i prozaik, był jednym z najwybitniejszych talentów pisarskich w historii literatury swojego narodu. Pisarz o szerokim spektrum zainteresowań, najbardziej znany jako autor powieści historycznych, był także doskonałym dramaturgiem, scenarzystą, krytykiem literackim, historykiem, tłumaczem a także ze wszech miar utalentowanym poetą.

Karatkievič urodził się w 1930 roku w Orszy na Witebszczyźnie. Swoje spotkania z literaturą rozpoczął od wydania zbiorków poezji, jednak w pełni jego talent pisarski ujawnił się dopiero w utworach prozatorskich, dopiero jego powieści historyczne dają bowiem możliwość poznania pisarza o niespotykanym we wcześniejszej literaturze białoruskiej locie, posiadającym umiejętność przekazywania w literaturze nieprzemijających wartości humanistycznych. Motywy antyczne, biblijne i legendarne przeplatają się w twórczości Karatkieviča z historycznymi wydarzeniami, filozoficznymi rozważaniami, z głębokimi humanistycznymi przemyśleniami o miejscu, roli i znaczeniu kultury i literatury dla rozwoju każdej jednostki i całego społeczeństwa.

W większości utworów Karatkieviča nie sposób nie dostrzec jego wielkiej miłości i atencji w stosunku do białoruskiej historii, swoich rodaków i języka ojczystego. Jeszcze za życia pisarza krytycy często wypominali Karatkievičowi ekstrawagancję poszczególnych utworów, nadmierne epatowanie ideą narodową oraz zbytnią romantyczność opisywanych wydarzeń i działających w nich postaci[1].

Nauki życiowe i literackie pobierał Karatkievič w Moskwie i Kijowie. Poza Białorusią poznawał pisarz kultury bliższych i dalszych sąsiadów oraz nieprzerwanie studiował język i kulturę własnego narodu. Na Białoruś powrócił już jako wytrawny erudyta i intelektualista[2]. Zarówno podczas studiów w Kijowie, jak i podczas pobytu na kursach dla literatów w Moskwie Karatkievičowi nie tylko udało się poznać wielu swoich późniejszych wieloletnich przyjaciół: Adama Maldzisa, Floriana Nieuważnego, ale przede wszystkim poszerzyć kontakty z literatami i pisarzami — w dużej mierze na tamte czasy undergroundowymi — żyjącymi zarówno w Rosji, na Litwie i Łotwie jak i w Europie Zachodniej.

Związki Karatkieviča z kulturą i literaturą słowiańską, europejską i światową pozwoliły mu w krótkim czasie stać się jednym z głównych pisarzy białoruskich, klasykiem narodowej literatury. Już pierwsza opublikowana powieść *Nie wolno zapomnieć* (*Нельга забыць*, 1962)[3] jest doskonałym dowodem na to, iż w literaturze białoruskiej pojawiła się solidna osobowość twórcza, wytrawny prozaik i nie mniej ciekawy poeta.

Z wielu historycznych i politycznych powodów — spóźniony o sto lat — stał się Karatkievič dla literatury białoruskiej tym, kim dla Polaków był i jest Henryk Sienkiewicz czy Ignacy Kraszewski, dla Czechów Alois Jirásek czy dla Anglików jeszcze wcześniejszy Walter Scott. Tak jak Sienkiewicz Karatkievič stworzył i rozbudował «ku pokrzepieniu serc» białoruską powieść historyczną, próbował stworzyć oddzielny nurt w białoruskim kinie, lecz przez reżyserów i scenarzystów upominany był wielokrotnie za «pseudohistorycyzm».

Wszystkie wielopłaszczyznowe działania artystyczne twórcy podporządkowane były od początku do końca jednemu podstawowemu celowi — pisarz chciał ze za wszelką cenę udowodnić Białorusinom, że są takim samym narodem jak wszystkie inne, że mają takie same prawa i powinni być dumni ze swej histo-

---

[1] O przyjęciu przez krytykę powieści Kłosy pod sierpem twoim pisze w swojej książce m. in. A. Wierabiej. Zob.: [1, c. 125–126].

[2] Nie bez znaczenia jest również fakt, iż Karatkievič w przeciwieństwie od innych (praktycznie od większości) pisarzy białoruskich pochodził z rodziny inteligenckiej — ojciec pisarza był urzędnikiem państwowym, a matka nauczycielką.

[3] Po raz pierwszy tekst powieści został wydrukowany w numerach 5 i 6 czasopisma «Полымя» w roku 1962 pod tytułem «Леаніды не вернуцца да зямлі» (Leonidy nie powrócą na ziemię). W wyniku późniejszych wydarzeń — głównie z powodów cenzuralnych — tytuł powieści został zmieniony i powieść dziś znana jest pod tytułem «Нельга забыць» (Nie wolno zapomnieć).

rycznej przeszłości. W każdym swoim utworze udowadniał, że Białorusini mają bogatą, wielowiekową, niezwykle ciekawą historię i nie mogą zgadzać się na to, aby być sprowadzanymi do roli przysłowiowego Kopciuszka, kiedy przeszłość predestynuje naród białoruski do bycia księżniczką. Inaczej mówiąc, Karatkievič swoją poezją i prozą starał się pobudzać narodową i historyczną samoświadomość Białorusinów, starał się wskazywać swoim rodakom źródła własnej tożsamości narodowej i tym samym zmuszał ich do sięgnięcia po swoje prawa, co po części i w nieznacznym stopniu udało się wprowadzić w życie po rozpadzie Związku Radzieckiego i utworzeniu niezależnego państwa białoruskiego.

Karatkievič przerastał swoją epokę. Widać to było już w czasach studenckich, kiedy za udział w manifestacji po śmierci Stalina starano się młodego Białorusina wyrzucić z uniwersytetu w Kijowie. Pisarz zawsze starał się spoglądać daleko w przyszłość, przyszłość z nowymi ideami i możliwościami, która go zarówno pociągała, jak i bardzo trwożyła. Znawca historii Europy Wschodniej wiedział, że droga, którą wybrał, nie będzie łatwa, a tematyka jego pisarstwa nie przysporzy mu samych przyjaciół. W Związku Radzieckim niełatwo było propagować idee odrodzenia się narodu białoruskiego i opisywać fakty historyczne, które oficjalna literatura niejednokrotnie wymazywała z pamięci swojego odbiorcy. Oficjalna ideologia sowiecka niechętnie przyjmowała historyczną prawdę o Wielkim Księstwie Litewskim i walkach z zaborcą w czasie powstań narodowych, wśród których na pierwszy plan wysuwało się w twórczości Karatkieviča Powstanie Styczniowe roku 1863. Jak doskonale wiadomo, powojenna nowa «narodowa» radziecko-białoruska historiografia marginalizowała lub wprost wymazywała pamięć o czasach, kiedy Białorusini próbowali wybić się na niepodległość. Przez dziesięciolecia starano się wpajać, nie tylko zresztą Białorusinom, oficjalny mit jedności i braterstwa obywateli Kraju Rad, z którym powinny były utożsamiać się wszystkie narody wchodzące w skład państwa sowieckiego.

Karatkievič, mimo, iż zdawał sobie sprawę z trudów wprowadzenia w życie własnych idei, nigdy się nie poddawał i chociaż wielokrotnie przychodziło mu płacić za swoje niepodporządkowanie wysoką karę, swoich ideałów jako białoruski patriota nigdy nie zdradził.

W wielu opracowaniach dotyczących literatury białoruskiej porównuje się Uładzimira Karatkieviča z jego znamienitymi poprzednikami — Franciszkiem Skaryną i Maksimem Bahdanovičem. Wszyscy oni byli bowiem pod wieloma względami prekursorami w swoich literackich i naukowych działaniach i przez to byli nie do końca zrozumiani przez sobie współczesnych.

Dla pisarstwa białoruskiego twórcy charakterystyczne jest poszukiwanie nierozerwalnych więzi pomiędzy przeszłością a teraźniejszością, co uwidocznia się w poszczególnych utworach głębokim zrozumieniem procesów historycznych i stworzeniem na tej podstawie artystyczno-historycznej kroniki życia i losów Białorusinów. W swoich twórczych poszukiwaniach Karatkievič rekonstruował przeszłość własnego narodu. Wychodząc od materiału legendarno-folklorystycz-

*Пан I і Пан II* («Стрыптыз» С. Мрожака), *героі* «Рэпетыцыі» А. Асташонка, «Султана Брунея» А. Дзялендзіка). Для апошніх жыццё часам губляе сваю каштоўнасць: «[АА.] *А такі цудоўны нявольнік быў з цябе… І ўсё сапсаваў ты. Бо думаеш толькі пра сябе.* (ХХ здымае гальштук і вяжа яго ў пятлю. Прывязвае канец гальштука да патрона лямпачкі.) *Будзеш вешацца?* [ХХ.] *А што, можа мне нельга?* [АА.] *Можна, можна. Самагубства — святое права вольнага чалавека, апошняе сведчанне яго волі.* [ХХ.] *Тады пасунься»* [3, с. 304–305].

Запазычваючы стратэгію абсурдысцкага пісьма, беларускія драматургі, як і С. Мрожак, спрабуюць дэідэалагізаваць сваіх герояў, вызваліць асобу, якую яны адлюстроўваюць, ад пэўных табу. Пры гэтым назіраецца своеасаблівае адлюстраванне чалавекацэнтрысцкай канцэпцыі, дзе замест духоўнага ўзвышэння асобы паказваецца яе дэградацыя і страта здольнасці асабістай самаідэнтыфікацыі.

Пэўнай нормай у сучасным жыцці становіцца рацыяналістычная ідэя свабоды, навязаная чалавеку, яна з'яўляецца своеасаблівым фетышам утылітарнага постмадэрнісцкага грамадства. Праз розныя свае праявы (напрыклад, свабода асобы, правы чалавека, барацьба з таталітарнымі рэжымамі, філасофія геданізму) свабода, якую сёння пачынаюць разумець як усёдазволенасць пры ажыццяўленні жаданняў і памкненняў, нараджае агрэсію. Гэтаму знаходзім пацверджанне ў многіх творах С. Мрожака: Дзядуля («Караль») хоча страляць у Караля, яго *ultima ratio* — «у старасці свае правы», рука («Стрыптыз») забірае рэчы Пана I і Пана II зусім без тлумачэння, былы раб Вацлаў («Вацлаў») думае, што вольны адрозніваецца ад раба толькі тым, што любой цаной павінен стаць багатым і знакамітым.

Творчасць і творчы асяродак становяцца толькі формай самавыражэння асобы, прычым асобы, якая прызнае выключна эмпірычны спосаб пазнання сябе і грамадства. Сіла і агрэсія — як вынік бязмежнай свабоды — нараджаюць страх. Страх перад жыццём, перад самім сабой, перад будучыняй… Страх і безадказнасць стымулююць сілу і агрэсію. Атрымліваецца замкнёнае кола. Так, неперажнасць сілы канстатуецца ў «Галаве» І. Сідарука (Папяровая Галава змяняецца Гумовай, тая ў сваю чаргу — Сталёвай), «Стрыптызе» С. Мрожака (у фінале становяцца дзейнымі асобамі дзве рукі), яго ж «Вацлаве» (Вацлаў, які імкнуўся дасягнуць сваёй мэты любымі шляхамі, сам становіцца ахвярай мацнейшага).

Адсюль узнікае праблема камунікацый і дэвальвацыя чалавечых зносін, размываюцца паняцці нормы. На сцэну выходзяць псіхічна хворыя або тыя, хто знаходзіцца на мяжы з вар'яцтвам (акцэнтуяваныя асобы). У такіх героях, як Артур («Танга» С. Мрожака), Дурань («Галава» І. Сідарука), Вадзім («Ку-ку» М. Арахоўскага), большасць бачыць людзей з пэўнымі псіхічнымі адхіленнямі. Тым не менш, гэтыя асобы з'яўляюцца носьбітамі пэўнай ідэі, а калі ідэі няма, то і яе адсутнасць становіцца ідэйнай.

Так, у «Танга» Артур — практычна адзіны чалавек, здольны на шчырасць пачуццяў, але ў адказ на гэта чуе толькі дэкларацыі пэўных лозунгаў. Шчырасць Артура, яго светапогляд застаюцца незразумелымі для іншых, а незразумелае ўспрымаецца як адхіленне ад нормы — псіхічная хвароба. Адзначым, што вобраз Артура даволі супярэчлівы, бо, як слушна заўважае Ян Блоньскі, Артур — персанаж тыповы і нетыповы адначасова, а «<…> шаленства Артура не вычэрпваецца, аднак, у дыялектычных гульнях»[1] [5, с. 108].

Характары такіх вобразаў раскрываюцца праз сітуацыі, а не праз адлюстраванне падзей, што абазначаецца адсутнасцю дакладна выражанага сюжэта і кальцавой кампазіцыяй (гэта ў сваю чаргу адлюстроўвае бессэнсоўнасць чалавечых намаганняў), умоўнасцю часу і месца дзеяння: час страчвае храналагічнасць, а прастора — канкрэтнасць.

Важнай стылёвай адзнакай твораў С. Мрожака, як і іншых драматургаў-абсурдыстаў, з'яўляецца абмежаваная колькасць дзейных асоб (дзве-тры), якія часам маюць даволі ўмоўныя назовы: АА і ХХ («Эмігранты»), Пан I і Пан II («Стрыптыз»), Chlop I, II, III («Індык»), Дзед і Унук («Танга»), Я, Жонка, Дыпламат 1, Дыпламат 2 («Дом на мяжы»), Інспектар паліцыі і Злачынца («Графская пломба»), Ліс і Малпа («Ліс-аспірант»). Тым самым драматург, следам за С. Бэкетам, Э. Іанеска, спрабуе як бы нівеліраваць чалавека, звесці тыпы да схемаў. Пры гэтым назіраецца «расшчапленне» асобы: два персанажы выступаюць як два бакі аднаго і таго ж «Я», як alter ego. Рэплікі такіх герояў гучаць «па інтарэсах»: «[Пан I.] *Я проста ішоў, як звычайна…* [Пан II.] *Больш звычайна і не магло быць.* [Пан I.] *Як раптам…* [Пан II.] *Зусім неспадзявана.* [Пан I.] (нібы толькі зараз заўважыў прысутнасць Пана II). *А вы адкуль тут з'явіліся?* [Пан II.] *Вы лепш запытайцеся, адкуль мяне сюды з'явілі?»* [2, с. 11–12].

Адсюль вынікае важная прыкмета п'ес Мрожака — іх маналагічнасць. Нават тады, калі фармальна прысутнічае дыялог, застаецца ўражанне, што героі размаўляюць самі з сабой, часам не заўважаючы часу, абставін, фонавых падзей, гэта ўжо не дыялог, а калейдаскоп фраз. Такі ж прыём выкарыстоўваецца і ў творах І. Сідарука («Галава»), А. Асташонка («Рэпетыцыя», «Уначы, калі светла», «Двое», «Ахвяра»)[2]. Адзначым, што «маналагізацыя» п'есы,

---

[1] Тут і далей пераклад з польскай мовы наш. — *В. К.*

[2] Пра гэта больш падрабязна гл.: Лявонава, Е. Філасофска-эстэтычны пошук у сучаснай беларускай літаратуры і еўрапейскі тэатр абсурду («Няўжо я памру?» А. Асташонка) // Веснік БДУ. Сер 4. 1994. № 3. С. 18–21; Лявонава, Е. Агульнае і адметнае: творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры. Мінск, 2003. С. 47–49; Короткевич, В. И. Абсурдное как стержневой элемент «Драматургических текстов» Алеся Асташонка // Науковий вісник Ізмаїльского державного гуманітарного університету: Спецвипуск. 2003. Вип. 15. С. 164–169.

як сцвярджаў Э. Іанэска, з'яўляецца характэрнай рысай антыдрамы: «Ніхто нікога па-сапраўднаму не чуе, калі не хоча пачуць» [1, с. 257].

У драме абсурду С. Мрожака дзеянне часцей адбываецца на ўзроўні сімулякраў, схем, умоўнасцяў, якія часам набываюць гратэскавы характар. Пэўнымі знакамі становяцца *дом*, які дзеляць дыпламаты («Дом на мяжы»), *акуляры*, якія спачатку шукае Дзядуля, а здабыўшы, становіцца сапраўдным маньякам («Караль»), *працэс выраашэння*, каго з'есці паміж Абломкамі Буйным, Сярэднім і Дробным пасля караблекрушэння («У адкрытым моры»). Усё гэта знакі сучаснага жыцця. Абстрактны сярэдні чалавек, які шукае апоры ў жыцці, паказаны і ў драме «Ку-ку» М. Арахоўскага. Тут галоўны канфлікт твора заключаецца ў неадпаведнасці рэальнасці думкам і мроям героя.

У выніку распаду старой сістэмы маральна-этычных каштоўнасцяў нараджаецца новая сучасная міфарытуальная структура, якая, здаецца, прысутнічае ў любым таталітарным грамадстве. Адмовіўшы старое як нездавальняючае, чалавек імкнецца знайсці новыя аб'екты-фетышы для пакланення. Асоба ў такіх умовах пачынае жыць светам знакаў, *label*'амі. Новая культура сведчыць пра падзенне «Я-ego» асобы, якая вымушана ўвесь час шукаць, чакаць і не знаходзіць, не заспець. Так, у жыццё чалавека прыходзіць абсурд, які адлюстроўваецца ў мастацтве, у тым ліку і тэатральным. Гэты абсурд праяўляецца на ўзроўні падсвядомасці дзейных асоб: Дзядуля проста хоча страляць у Караля, гэтым жа ганарыцца Унук («Танга» С. Мрожака); Вадзіму ўвесь час трызніцца здрада ўласнай жонкі, яго свядомасць расшчапляецца, ён ужо не належыць сам сабе, часам на сцэне замест Вадзіма гавораць Супермэн і Падушкападобны — міфічныя істоты, у якіх праяўляецца сутнасць асобы Вадзіма («Ку-ку» М. Арахоўскага); Стах імкнецца пазбавіцца ад свайго дару — жывых карцін (Лабірынт» М. Арахоўскага).

Такім чынам, важнай асаблівасцю развіцця тэатральнага мастацтва XX стагоддзя ў Польшчы і Беларусі з'яўляецца нараджэнне драмы абсурду ў межах яе ўсходняй мадэлі. Як паказвае прапанаванае даследаванне, падабенства грамадскага жыцця і культурнай сітуацыі ў Беларусі і ў Польшчы абумовіла зварот беларускіх драматургаў да вопыту вядомага і, па сутнасці, вельмі польскага, нягледзячы на доўгую эміграцыю, мастака Славаміра Мрожака. Гэтае падабенства заўважаецца найперш на ўзроўні фарміравання вобразнай сістэмы і стратэгіі яе прэзентацыі.

## Літаратура


1. Ионеско, Э. Противоядия / Э. Ионеско. — М., 1992.
2. Мрожак, С. Выбраныя творы / С. Мрожак. — Мінск; Wrocław, 2008.
3. Мрожак, С. Эмігранты / С. Мрожак // Пры зачыненых дзвярах : драматычныя творы / уклад. Л. Баршчэўскага; прадм. С. Дубаўца. — Мінск, 1995. — С. 249–307.
4. Шаблоўская, І. В. Драма абсурду ў славянскіх літаратурах і еўрапейскі вопыт. Паэтыка. Тыпалогія / І. В. Шаблоўская. — Мінск, 1998.
5. Błoński, J. Wszystkie sztuki Sławomira Mrożka / J. Błoński. — Kraków, 1993.

# ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРАЛОГІЯ

**Адам Мальдзіс** *(Мінск, Беларусь)*

## ПЕРАВОЗ У КРАКАЎ СТАНЬКАЎСКАГА МУЗЕЯ ГУТЭН-ЧАПСКІХ: ЗДРАДА ЦІ ПОДЗВІГ?

Пачну з далёкіх успамінаў.

Мае пошукі беларускіх экспанатаў унікальнага па багацці музея Эмерыка Гутэн-Чапскага, перавезеных у 1896 годзе ў шасці вагонах са Станькава, што пад Мінскам, у аўстра-венгерскі Кракаў, пачаліся 50 гадоў таму назад, позняй вясной 1964 года.У тыя часы я працаваў у акадэмічным Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы. Толькі што, годам раней, пад кіраўніцтвам незабыўнага Алеся Адамовіча абараніў сваю кандыдацкую дысертацыю, прысвечаную беларуска-польскаму літаратурнаму ўзаемадзеянню ў XIX стагоддзі, рыхтаваў да друку па ёй манаграфію «Творчае пабрацімства». Але запланаваная загадзя месячная навуковая камандзіроўка ў Польшчу, у час якой трэба было ўдакладніць многія факты дысертацыі, прыпазнілася і адбылася толькі вясной наступнага года. Асабліва мяне хваляваў тады лёс кніжак і рукапісаў Францішка Багушэвіча. Памятаецца, перад ад’ездам прафесар Сцяпан Александровіч, ці не найлепшы ў той час знаўца нашага пісьменства XIX стагоддзя, павучаў мяне:

— Абавязкова пашукай у Кракаве, дзе ў друкарні Анчыца выдаў свае кнігі — зборнік вершаў «Дудка беларуская» (1891) і апавяданне «Тралялёначка» (1892) — Францішвк Багушэвіч, а потым у Познані, дзе, як сведчыць тытульная старонка, у выдавецтве нейкага Р. Нікульскага пабачыў свет другі зборнік паэта — «Смык беларускі» (1894), сляды трэцяга абяцанага аўтарам зборніка — «Скрыпка беларуская», а можа, знойдзеш і сам зборнік, безумоўна, для нас найбольш насычаны і цікавы. Кажуць, што ён, у адрозненне ад папярэдніх, выйшаў з партрэтам аўтара, а такога не прыдумаеш, і што ўвесь яго тыраж канфіскавалі на граніцы царскія памежнікі, калі яго перавозіў праз мяжу ці то сам Пілсудскі, ці то ягоныя людзі.

Але ж арыгінал рукапісу павінен быў дзесьці застацца…

У Кракаве я тады даведаўся, што ні друкарня Анчыца, ні яе архіў не захаваліся. Затое высветлілася, што ў першую сталіцу Польшчы Багушэвіч прыбыў у 1891 годзе, на з’езд даследчыкаў прыроды, не адзін, а са сваім сябрам лінгвістам Янам Карловічам, у якога служыў у Вішневе (тым,

што цяпер у Смаргонскім раёне) аканомам, пакінуў у горадзе над Віслай каштоўныя музейныя памяткі і рукапісы, пакуль не выяўленыя. Польскі мовазнавец пазнаёміў у Кракаве беларускага паэта з фальклярыстам Міхалам Федароўскім, грамадскім дзеячам Шыманам Дыкштэйнам, лічыў творчасць свайго вішнеўскага сябра «справай вялікага гістарычнага значэння».

Але сляды «Скрыпкі беларускай» у Кракаве ў тую камандзіроўку не выявіліся. Некаторыя дасведчаныя людзі і тады, і ў час наступных трох паездак нашэптвалі мне, што экзэмпляр рарытэта можа аказацца ў двухпавярховым палацы па вуліцы Маніфесту Ліпцовага (а раней — Вольскай), 12, дзе над уваходам вялікімі літарамі было напісана «Muzeum Narodowe, filia imienia Emeryka Hutten-Czapskiego». Уваходзіў я туды, а дзяжурны ветліва так тлумачыў мне, што ўваход наведвальнікам забаронены. Калі ж я пытаў, як магло так здарыцца, бо ў час дарэння экспанатаў (а яны займалі, даведаўся пазней, 134 скрынкі) ранейшы, станькаўскі ўладальнік, а пасля яго смерці жонка выставілі кракаўскім гарадскім уладам дзве ўмовы: каб музей быў адчынены для наведвальнікаў і каб насіў яго імя. Першая з іх яўна парушана. Чаму? На гэта дзяжурны адказваў, што ён ніколі пра ўсё гэта не чуў. Пісьмовыя запыты таксама вынікаў не далі.

Не аказалася ў 1964 годзе ніякіх слядоў і ў Познані — не толькі «Смыка» (нібыта яго дапамагала выдаць Эліза Ажэшка), але і ўяўнага выдаўца Р. Нікульскага. Кніга не зарэгістравана ў познанскім, тады прускім, паліцэйскім прэзідыуме, бібліяграфічных даведніках. «Смыка» няма ў познанскіх бібліятэках, хаця ў кракаўскіх і варшаўскіх ён ёсць. Значыць, заказчык ці выдавец такім чынам заблытваў сляды нелегальнага, непадцэнзурнага выдання, якое ў сапраўднасці выйшла або ў тым жа Кракаве, або, як ананімны «Дзядзька Антон», у прускім Тыльзіце.

Ішоў час. Пра музей і яго першага ўладальніка з'явіліся ў друку кваліфікаваныя кнігі аўтараў-жанчын. Гэта парыжскае эмацыянальнае даследаванне ўнучкі ўладальніка Станькава Марыі Чапскай «Еўропа ў сям'і» (1970) і навуковая ды багата ілюстраваная манаграфія яе цёзкі гісторыка Кацуёвай «Айчынным рэліквіям, выратаваным у гістарычнай буры» (Кракаў, 1978). Праштудзіраваўшы абедзве кнігі, змясціў на іх у друку вялікія рэцэнзіі.

Паводле першай аўтаркі, род Чапскіх быў распаўсюджаны ў Аўстрыі, Германіі, Польшчы, Украіне. У Беларусі яны з'явіліся з Прусіі ў пачатку XVI стагоддзя. У 1772 годзе Францішак Станіслаў Костка Чапскі ажаніўся з княжной Веранікай Радзівіл, дачкой магната па мянушцы Рыбанька, жанчынай смелай, якая з шабляй у руках удзельнічала ў баях пад Слонімам.

Марыя Чапская падрабязна пераказала жыццяпіс найбольш яскравай асобы беларускай галіны роду — Эмерыка Гутэн-Чапскага. Нарадзіўся ён 5 (7) лістапада 1828 года ў Станькаве, вучыўся ў Віленскай гімназіі, дзе захапіўся гісторыяй, зборам старых манет, вывучыў старабеларускую і літоўскую мовы. Закончыўшы са ступенню кандыдата прыродазнаўчых навук

Маскоўскі ўніверсітэт, адразу стаў членам Рускага археалагічнага таварыства. У Харкаўскім універсітэце выявіў нумізматычны збор, вывезены ў 1812 годзе з Нясвіжа, і часткова набыў яго шляхам абмену. Потым даваў згоду стаць губернатарам у Ноўгарадзе Вялікім, віцэ-губернатарам у Пецярбургу, урэшце, дырэктарам Ляснога дэпартамента Міністэрства дзяржаўнай маёмасці. Знаходзячыся на апошняй пасадзе, паспрачаўся з самім імператарам з-за растранжырвання тым драўніны сярод іншаземцаў. Пайшоўшы з-за гэтага ў 1879 годзе ў адстаўку, заняўся збіральніцтвам — найперш манет і старых кніг, для якіх пабудаваў двухпавярховы «скарбчык». У 1889 годзе актыўна ўдзельнічаў у вялікай выставе ў Варшаве «Старажытнае і новае мастацтва ў прымяненні да прамысловасці».

І раптам, нечакана нават для родных, Эмерык Гутэн-Чапскі рашыў, прывёзшы экспанаты з Варшавы дамоў, зноў адправіць іх праз Вільню на гэты раз за мяжу, у Кракаў. Для прыліку апраўдваўся тым, што перасяляецца туды дзеля здароўя. Але ўчыніў пераезд таму, што ўлады ў Аўстра-Венгрыі былі куды ліберальней у нацыянальнай палітыцы, чым у Расіі ці Прусіі. Зрэшты, тады нашы многія культурныя дзеячы — Францішак Багушэвіч і Адам Гурыновіч, Аляксандр Ельскі і Іван Луцкевіч, сям'я Карловічаў — глядзелі на Кракаў і Львоў як на перспектыўныя зарубежныя, а таму надзейныя асяродкі беларускай культуры.

Але потым, пасля Кастрычніка, пасля здабыцця дзяржаўнасці і незалежнасці, іх спадзяванні апраўдаліся толькі часткова.

Больш прафесіянальна і падрабязна станькаўскія зборы, перавезеныя ў Кракаў, апісаны ў манаграфіі Марыі Кацуёвай. Асаблівую ўвагу яна ўдзяліла нумізматычным зборам, якія потым бесперапынна папаўняліся новымі ахвяраваннямі з розных еўрапейскіх краін, і бібліятэцы, куды ўвайшлі рэдкія кнігі слуцкага пастара Бегеля і мінскага збіральніка Татура. Усяго кніг, паводле слоў на сёлетнім мінскім семінары пра Гутэн-Чапскіх аднаго з кіраўнікоў польскага музея іх імя Матэвуша Возьняка, набярэцца каля 20 (!) тысяч. А колькі сярод іх, падумалася мне, павінна быць невядомых нам сёння рарытэтаў!

Сабраныя матэрыялы пра зборы Эмерыка Гутэн-Чапскага далі мне магчымасць напісаць і надрукаваць у газеце «СБ. Беларусь сегодня» вялікі артыкул пра іх «Вывезено за Буг» (2008. 6, 7 июня). Там я напісаў, што апошнія 10 год не быў у Кракаве, а ў лістах дв мяне польскія калегі нейк згладжваюць сітуацыю, таму не ведаю, як там выглядае сітуацыя цяпер: ці выканана воля беларускага дабрадзея і ці даступныя станькаўскія зборы для наведвальнікаў? «Калі акажацца, — цытую тут сябе, — што мае трывогі дарэмныя, буду толькі рады. У адмоўным выпадку ці не лепш вярнуць калекцыю Чапскіх у Станькава. Добра, што і будынак "скарбчыка" там захаваўся».

Польскі бок адрэагаваў на публікацыю 2008 года імгненна. Неўзабаве ў Мінск прыбыла і кракаўская дэлегацыя ды сваякі Чапскіх з Амерыкі, якія на

Міжнароднай навуковай канферэнцыі ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь (2009) паведамілі, што фінансаванне на аднаўленне і пашырэнне кракаўскага музея ўжо атрымана і неўзабаве дачакаемся яго адкрыцця. Яно адбылося летам мінулага года. А на сёлетнім семінары працягнулася размова пра маю магчымую навуковую паездку туды для першых ідэнтыфікацый і апісання экспанатаў, найперш кніжных рарытэтаў і літаратурных рукапісаў, што будзе карысным для абодвух бакоў.

Пра семінар жа хачу сказаць, што ў цэнтры яго ўвагі быў сын Эмерыка Кароль (Карл) Чапскі, мінскі галава і рэфарматар канца XIX стагоддзя, будаўнік першай мінскай электрастанцыі, пракладчык першых коннага трамвая і тэлефонных ліній. У адрозненне ад бацькі яго музейныя зборы трапілі не на захад, а на ўсход — у 1916 годзе яны ў сувязі з наступленнем немцаў былі вывезены ў Маскву на захаванне. На семінары гаварылся, што даўно пара распачаць іх пошукі.

А што ж сказаць пра сляды «Скрыпкі беларускай», якую я паралельна шукаў, апрача Кракава, і ў Рызе (сярод рэштак кніжных збораў Кастуся Езавітава), і ў Лондане, і ў Пецярбургу (сярод кніг «інбелкультаўцаў»)? Але цяпер засталася толькі надзея на Кракаў, на зборы Чапскага. Бо на канферэнцыі 2009 года супрацоўніца Гістарычнага музея Ірына Зварыка прывяла невядомы раней факт, што гувернёркай у станькаўскім доме Чапскіх працавала… Канстанцыя Багушэвіч (Тунька), дачка паэта! Гэтыя факты лёгка звязваюцца адзінай ніткай.

І наогул, далейшыя пошукі ў кракаўскіх зборах могуць прынесці многа важных знаходак. Хто падрыхтаваў глебу для перавозу музея Гутэн-Чапскага ў Кракаў? Ці вучыўся ў Кракаўскім універсітэце пачынальнік расійскага кнігадрукавання Іван Фёдараў, а да гэтага, мяркуючы па гербе, беларускі шляхціц ці то з Вілейшчыны, ці то з ваколіцаў Ішкалдзі? Што прывёз над Віслу Аляксандр Ельскі? Ці трапілі туды якія рукапісы пахаваных там Адама Ганорыя Кіркора і Алеся Гаруна? Публічныя і прыватныя размовы ў Кракаве і Мінску ўпэўнілі мяне, што такія знаходкі могуць мець месца. А ўказаныя вышэй звесткі я паведамляю прысутным на той выпадак, калі мне ўсё ж па розных прычынах не ўдасца стаць першым апісальнікам збораў музея Гутэн-Чапскіх у Кракаве, нарэшце адкрытага летам мінулага года.

У заключэнне — адказ на пытанне, пастаўленае ў загалоўку: безумоўна ж, не здрада, як сцвярджаюць некаторыя дыскутанты ў кулуарах, а подзвіг! У той сітуацыі, калі было невядома, як будуць развівацца гістарычныя падзеі ў Расійскай імперыі далей, Эмерык Гутэн-Чапскі і яго радня не толькі хацелі выратаваць станькаўскія скарбы ад магчымага знішчэння ці канфіскацыі, але і зрабіць іх даступнымі славянскаму і еўрапейскаму гледачу і даследчыку. Гледачу яны летась адкрыліся, а вось карпатлівых даследчыкаў (каля 20 тысяч старых мясцовых кніг!) яшчэ чакаюць.

**Лена Глагоўская** *(Беласток, Польшча)*

# АЛЬБІН СТЭПОВІЧ — АД МУЗЫКІ ДА ПАЛІТЫКІ. ПРА ПУБЛІЦЫСТЫЧНУЮ І ГРАМАДСКУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ АЛЬБІНА СТЭПОВІЧА

Хаця з адкрыцця для беларускай прасторы (грамадскай-культурнай, навуковай) асобы Альбіна Стэповіча прайшло больш за 20 гадоў[1], ніхто дасюль не паклапаціўся пра выданне яго спадчыны ды не заняўся яе аналізам. Зараз упамінаецца пра яго расцярушаную літаратурную і іншую спадчыну[2]. У міжчасе яго біяграмы паявіліся ў беларускіх даведніках і энцыклапедыях[3]. На яго магіле ў Вільні быў устаноўлены помнік, якога адкрыццё адбылося ў снежні 1994 г.[4] Успомнілі яго таксама на малой радзіме — на Астравеччыне[5]. Яго спадчына была сабраная ў пачатку 90-х гадоў ХХ ст. Ленай Глагоўскай і перададзеная ў пачатку 1994 г. братанкам Альбіна — Эдмундам Стэповічам Нацыянальнаму навукова-асветнаму цэнтру імя Ф. Скарыны ў Мінску. Ужо тады пісалася, што «прысланыя матэрыялы зоймуць месца на выставе “Беларусы ў сьвеце”, а таксама ў музеі, які арганізуецца Астравецкім раённым аддзелам культуры і Беларускай каталіцкай грамадой у вёсцы Барані — у драўлянай хаце Стэповічаў, якая цудам захавалася дзякуючы клопатам вяскоўцаў»[6].

25 чэрвеня 2004 г. у роднай хаце Альбіна Стэповіча ў Баранях адбыліся «чытанні» (сарганізаваныя Грамадскім аб’яднаннем «Вільняр»), прысвечаныя яму, якія вяла астравецкая журналістка Ганна Чакур[7]. Удзельнікамі чытанняў была таксама сям’я Стэповічаў з Гданьска, Вільні і з Бараняў.

---

[1] Бабкін, Г. Ці пачуем яго голас? // Літаратура і мастацтва. № 3. 18.01.1991. С. 7; Głogowska, H. Karierę rozpoczynał w Ciechanowcu // Czasopis. 1993. № 9. С. 2–4; Глагоўская, Л. Беларусь перад усім! // Ніва. № 15. 10.04.1994. С. 9.

[2] Хільмановіч, У. 120 гадоў з дня нараджэння Альбіна Стаповіча // Ніва. № 12. 23.03.2014. С. 10.

[3] Беларускія пісьменнікі. Біябліяграфічны слоўнік. Мінск, 1995. Т. 5. С. 414–416; Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Ч. І. Мінск, 2001. С. 405–406; Беларуская энцыклапедыя. Т. 15. Мінск, 2002. С. 153; Polski Słownik Biograficzny. Т. XL III/3. Сш. 178. Warszawa; Kraków, 2005. С. 433–434.

[4] Сурмач, Г. Гучалі песні // Голас радзімы. № 1. 5.01.1995. С. 4; Глагоўская, Л. Усё пачалося ад «Хаткі» // Ніва. № 5. 29.01.1995. С. 5.

[5] Альбін Стаповіч (Стэповіч) // Памяць. Астравецкі раён. Мінск, 2004. С. 171–173; Драўніцкі, І. Ён нарадзіўся ў Баранях // Астравецкая праўда. № 45. 13.06.2012. С. 6.

[6] Белавусава, А. Хроніка беларусазнаўчага жыцця // Голас радзімы. № 3. 20.01.1994. С. 5.

[7] Глагоўская, Л. Неба плакала над Баранямі // Ніва. № 31. 1.08.2004. С. 3.

У роднай хаце Альбіна Стэповіча ўпершыню прагучалі песні з яго спеўніка «За бацькаўшчыну», якія падрыхтаваў Кірыл Насаеў са сваімі студэнтамі. Гаварылася пра яго ў адкрытым у 2010 г. у Баранях Доме Казіміра Сваяка[1]. Нягледзячы на ўсё, астаецца ён у цяні свайго брата ксяндза Кастантага, паэта Казіміра Сваяка.

Альбін Стэповіч нарадзіўся 18 сакавіка 1894 г. у Баранях Свянцянскага павету Віленскай губерні, у каталіцкай сялянскай сям'і Матэўша і Альжбеты (з дому Буйко). Вучыўся ў школе ў Свянцянах і ў кансерваторыі Монтвіла ў Вільні. Яго настаўнікам там быў Людамір Рагоўскі, які «паўплываў на фарміраванне яго творчай асобы, абудзіў у ім любоў да народнай песні»[2]. У пачатку 1913 г. працаваў арганістым у касцеле ў Цеханоўцу (Гродзенская губерня)[3]. З 2 ліпеня 1913 г. быў на такой пасадзе ў Казані. Гэтага дня пісаў да бацькоў: «Dzisiaj, w poniedziałek, stanąłem na miejscu. Co za śliczne miasto Kazań! Gdzie tam Wilno! Jak niebo do ziemi niepodobne! Czystość, tramwaje elektryczne. Żydów ani duchu. Przyjechałem do księdza — nie ma w domu — powiadają, wyjechał do Warszawy na 2 tygodnie. Ulokowano mnie w plebanii. Stołować się będę w mieście, bo i ksiądz tak samo robi»[4]. Пры касцеле вёў таксама хор, пра што сведчыць захаваны кішэнны гадзіннік з прысвячэннем яму ад хору[5].

У 1918 г. паступіў на Казанскі ўніверсітэт на юрыдычны факультэт, а пасля году перавёўся на факультэт грамадскіх навук[6]. Разам з ім у Казані быў яго малодшы брат Ян, які вучыўся там у гімназіі. У 1921 г. Альбін Стэповіч як бежанец вярнуўся ў Вільню. Паступіў на факультэт грамадскіх навук Віленскага ўніверсітэта, на якім студыяваў да 1924 г. Належаў да Беларускага студэнцкага саюзу, пісаў артыкулы і допісы ў яго орган «Наш шлях», у «Крыніцу». У «Нашым Шляху» апублікаваў артыкул пра беларускую народную песню, даказваючы яе багацце і спецыфіку: «Кожны народ незалежна ад ступені свайго культурнага жыцьця, мае сваю народную песьню, у каторай як у люстры адбіваецца яго нацыянальная асобнасьць, яго характар. (…) Песьня беларуская, гэта цэлая літанія скарг пакрыўджанага чалавека. У песьні яго адбіваецца ўсё жыцьцё, пачынаючы ад калыскі і канчаючы труной. І калі нашаму гаротніку прыйдзе вясёлая часіна і з набалелых грудзей

---

[1] Чакур, Г. Экспазіцыя «Дом Казіміра Сваяка» адкрылася ў Баранях // http://www.ostrovets.by/?=3874, ад 10.10.2010; Глагоўская, Л. Адкрылі хату-музей Сваяка // Czasopis. 2010. № 11. С. 40–42.

[2] Беларускія пісьменнікі. Біябліяграфічны слоўнік. Т. 5. Мінск, 1995. С. 414.

[3] Głogowska, H. Karierę rozpoczynał w Ciechanowcu // Czasopis. 1993. № 9. С. 2.

[4] Паштоўка ад А. Стэповіча з Казані да бацькоў у Барані ад 2.07.1913 (у архіве В. Ю. Стэповіча).

[5] Захоўваецца ў зборах В. Ю. Стэповіча ў Гданьску.

[6] Архіў Казанскага ўніверсітэта. Спр. 427. Л. 1, 3.

плыве: “Чаму ж мне ня пець, чаму ня гудзець, калі ў маей хатачцы парадак ідзець”, то і гэту песьню радасну пяе на мінорны лад. Гэта заўныўная сьлёзнасьць нашых мэлёдый ня зьмяншае яе мастацкай вартасьці, а дае толькі тыповы нацыянальны воблік. Мы, Беларусы, ня маем гэніяльных тварцоў музыкі, каторыя магліб чэрпаць з народнай песьні натхненьне і выліць гэту песьню ў закончанай культывірованай форме. Можна аднак спадзявацца, што адраджаючыся народ, як дрэўца маладое расьцець хутка і не ў далекай будучыне па меры культурнага прагрэсу нашай Бацькаўшчыны дасьць нам сваіх вялікіх мастакоў, каторыя, апіраючыся на народнай творчасьці, створаць нашу беларускую музыку. (…) У сучасны мамэнт нам, Беларусам, трэба толькі сьцерагчы песьні, гэты скарб народны, ад чужацкага налёту і забыцьця»[1]. Супрацоўнічаючы з «Крыніцай» у 1926 г., палемізаваў у ёй наконт ролі арганістаў у развіцці беларускай музычнай культуры: «Arhanistyja ŭ našym krai kidajuć swaju prafesiju, na ich miesca prychodzić armija niedawučkaŭ, katoryja ŭ kaścioły našy uwodziać niemahčymuju muzyku i śpieŭ. (…) Naprykład, u kaściele św. Jana ŭ Wilni na chorach, dzie kaliści zasiadaŭ pry arhanach Maniuška, siańnia da wušej našych dalatajuć biazwiaznyja akordy razstrojenaj fisharmonii, dy razbity hołas arhanistaha. (…) Sučasnaja muzyka świeckaja biare swoj pačatak z muzyki kaścielnaj. Dzie tolki stajała wysokaja kultura ŭ światyniach, tam my widzim niaŭmiruščyja pamiatniki tworčaści muzykalnaj. A twaryli tady pierawažna arhanistyja. Dawoli prypomnić takija wialičyni, jak Palestrina, Orlando di Lasso, Bach, Haendel, Haydn, Rameaux, Gounod, Saint-Saens, Maniuška i dziesiatki inšych, kab pryznać, što los arhanistych, heta ważnaja ahulnaludzkaja sprawa, heta ŭ značnaj miery sprawa kulturnaha bahaćcia nacyi. Nam biełarusam pry našaj biednaści daloka jašče da wytwareńnia typu muzykanta-mastaka, adnak my pawinny pryzadumacca pierš-napierš nad losam našych arhanistych i šukać wychadu z ich ciažkoha pałažeńnia. Treba na pačatak, kab našy ksiandzy biełarusy zrazumieli swaich supracoŭnikaŭ u kaściele i pamahli im i materjalna i maralna. (…) Kožny biełarus arhanisty pawinien pamiatać, što jon wyjšaŭ z našaha narodu, katory tut žywie z prad wiakoŭ i, što kali dahetul arhanisty stajaŭ z boku narodu, — ciapier pawinien wiarnucca da jaho i tam pracawać. Treba, kab biełaruski arhanisty wučyŭ śpiewakoŭ swaich biełaruskija pieśni i wystupaŭ z imi na wiečarynach-kancertach. Treba, kab arhanisty zbiraŭ swaje pieśni, pierakładaŭ ich na noty i pierasyłaŭ-by ich choć-by ŭ redakcyju «Bieł. Krynicy»[2].

Альбін Стэповіч падтрымліваў і прапагандаваў развіццё беларускай песні праз стваранне хораў: «Treba było-b zasnawać Tawarystwa, jakoje-b mieła na mecie twareńnie pierš-na-pierš choraŭ, jak kaścielnych tak i świeckich. Ja kładu asabliwy nacisk na chory, bo ŭ muzycе instrumentalnaj i wokalnaj solo, my pakul što tworaŭ blizu što nia majem, tak sama jak i siłaŭ wykanaŭčych.

[1] А. С. Беларуская народная песьня // Наш шлях. 1922. № 1. С. 22–23.
[2] St. Al. Ab našych arhanistych // Biełaruskaja Krynica. 1926. № 13. С. 3.

Takija chory mahli-by arhanizawać kožnyja dobra muzykalnyja arhanistyja, abo inšyja muzykalnyja ludzi. Meta hetych choraŭ wiadomaja: pašyrać u mastackaj formie našr pieśniu i ŭzbudzić luboŭ da jaje, ładziačy wiečaryny-kancerty, a także ŭwodziačy biełaruskuju relihijnuju pieśniu ŭ kaściol»[1]. Прапанаваў закладаць гурткі беларускай песні пры Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры, які існаваў з 1926 г.

Альбін Стэповіч вучыў спеваў і музыкі ў віленскіх школах. З 1 сакавіка 1922 г. працаваў у Віленскай беларускай гімназіі, пра што пісаў брату Кастантаму: «Ad 1-ha marca adnu z škoł astaŭlaju i pierachodžu ŭ Biełaruskuju Himnaziju. Heta ŭžo napeйna»[2]. Праца настаўніка ў Віленскай беларускай гімназіі звязана была таксама з вядзеннем хору пры ёй, які «даволі часта выступаў на канцэртах і сьвяткаваньнях»[3]. На I з'ездзе педагогаў беларускіх сярэдніх школ Заходняй Беларусі, які адбываўся ў Вільні 11–14 красавіка 1923 г., выступіў з дакладам, пасля якога была прынятая рэзалюцыя: «Лічыць пажаданым, каб лектары спеваў стараліся падгатаваць вучняў старэйшых класаў тэарэтычна і практычна ў знанні музыкі, каб яны маглі не толькі чытаць ноты галасамі, але і запісваць іх… Заснаваць пры школах музычныя гурткі і абавязкова ладзіць школьныя канцэрты ў ліку магчыма большым»[4]. Супольна з Антонам Грыневічам і Паўлам Южыкам Альбін Стэповіч выказваўся за выкладанне мастацкіх навукаў (пяяння і рысавання) на высокім узроўні[5]. Апрача настаўніцкай працы займаўся таксама пісаннем музыкі да беларускай паэзіі, сабіраў беларускія народныя песні[6]. 14 лістапада 1925 г. пісаў да брата Кастантага ў Засвір: «Dobra byłob kab ty prywioz mnie jakiejś relihijnyja pieśni. Napisaŭby bolš melodyjaŭ. Ja tolki nie razumieju, chto śpieŭnik choče wydać i za jakija hroszy. U mianie na biadu nadta mała wolnaha času. Kancelarščyna zajadaječ.

---

[1] Stepowič, A. Ab padtrymańni i raźwićci biełaruskaj pieśni // Biełaruskaja Krynica. 1926. № 39. С. 3.

[2] Паштоўка А. Стэповіча з Вільні да К. Стэповіча ад 20.02.1922 (у архіве В. Ю. Стэповіча).

[3] Заява А. Стэповіча ў Цэнтральную Беларускую Школьную Раду ад 6.06.1923 // Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 883. Воп. 1. Спр. 30. Л. 4.

[4] Цыт. па: Бабкін, Г. Ці пачуем…

[5] Матэрыялы I-га зьезду пэдагогаў беларускіх сярэдніх школаў Заходняе Беларусі 11–14 красавіка 1923 году // Заходняя Беларусь. Зборнік грамадзкае мысьлі, навукі, літаратуры, мастацтва Заходняй Беларусі. Вільня, 1924.

[6] Удалося знайсці запісаныя ім песні: Нешчасьлівы чалавек // Родныя Гоні. 1927. Кн. 2. С. 25; Узыйшлі, ўзыйшлі ды два месяцы ясны. Мэлёдыю й тэкст запісаў у 1923 г. А. Стэповіч у сваёй маці ў в. Барані Сьвянцянскага пав. // Нёман. 1932. № 1. С. 44; Ды за морам мышка // Нёман. 1932. № 1. С. 26; Ой, бяда-ж мая // Нёман. 1932. № 2. с. 76; Idziom, pajdziom ŭdol vulicy // Шлях Моладзі. 1934. № 3. С. 18.

Zdajecca časami ŭsio kinuŭby i pajechaŭ u Zaświr i uziaŭsiab za muzyku»[1]. Пра якую канцэляршчыну пісаў Альбін Стэповіч, пакуль невядома. Магчыма, заангажаваны быў у грамадскую дзейнасць у Беларускай хрысціянскай дэмакратыі або ў рэдакцыі «Крыніцы». Вёў таксама хор пры касьцеле св. Мікалая ў Вільні, дзе адбываліся службы на беларускай мове.

З 21 ліпеня 1927 г. стаў выдаўцом «Беларускай крыніцы». 26 чэрвеня 1926 г. у Вільні быў заснаваны Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, якога Віленскі аддзел узначаліў Альбін Стэповіч (вёў пры ім таксама беларускі хор), будучы адначасова сакратаром яго Цэнтральнага ўрада[2]. Напісаў яго гімн (словы і музыку) «Дзе чутны мовы нашай гукі…»[3]. З хорам БІГіК выступаў у Вільні і на правінцыі пры розных нагодах, такіх як: 10-я ўгодкі «Крыніцы» ўвосень 1926 г.[4], 10-я ўгодкі смерці Максіма Багдановіча[5], вечар беларускай песні і паэзіі ў Вільні ў 1927 г.[6] ці аматарскі тэатр у Новай Вілейцы (3 красавіка 1927 г.)[7]. 22 кастрычніка 1926 г. быў абраны сакратаром Цэнтральнага Камітэта Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (БХД)[8]. Пэўны час быў таксама намеснікам старшыні БХД. У маі 1926 г. у Вільні пачала дзейнічаць Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны, на кіраўніка якой быў пакліканы Альбін Стэповіч[9]. Быў ім да чэрвеня 1927 г.[10] Язэп Найдзюк пісаў, што Альбін Стэповіч зрокся становішча кіраўніка друкарні яшчэ пад канец 1926 г.: «Меў многа іншае работы. Ён супрацоўнічаў з рэдакцыяй "Бел. Крыніцы", кіраваў беларускімі хорамі касьцельным і Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, а пасьля, ад 1928 да 1930 г., быў паслом у сойм ад БХД»[11]. Таксама варта згадаць, што ўдзельнічаў у з'ездзе Беларускага сялянскага саюзу, які адбываўся 24 сакавіка 1926 г.[12]

28 снежня 1927 г. у Вільні адбыўся Беларускі выбарчы з'езд, на якім заснаваўся Беларускі аб'яднаны выбарчы камітэт. БХД прадстаўляў у ім

---

[1] Паштоўка А. Стэповіча з Вільні да К. Стэповіча ў Засвір ад 14.11.1925 (у архіве В. Ю. Стэповіча).

[2] Krótki zarys zagadnienia białoruskiego. Sztab Generalny. Oddział II. Warszawa, 1928. С. 352.

[3] Стэповіч, А. Дзе чутны мовы нашай гукі… Вільня, 1926.

[4] Biełaruskaja Krynica. 1926. № 40. С. 4–5.

[5] Biełaruskaja Krynica. 1927. № 22. С. 1.

[6] Сялянская Ніва. 1927. № 42. С. 2.

[7] Сялянская Ніва. 1927. № 32. С. 3.

[8] Krótki zarys… С. 364; Biełaruskaja Krynica. 1926. № 40. С. 5.

[9] Цыпрыяновіч, С. (Я. Найдзюк). Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926–1940). Лёндан, 1991. с. 6.

[10] Пратакол справы Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады // Бібліятэка Акадэміі Навук Літвы. Аддзел Рукапісаў. Ф. 21-2215. Л. 144А (паказанні А. Стэповіча).

[11] Цыпрыяновіч, С. (Я. Найдзюк). Беларуская… С. 8.

[12] Krótki zarys… С. 342.

м. інш. Альбін Стэповіч[1]. Стаў ён таксама адным з кандыдатаў у Сойм у выбарах 1928 г. з другога месца на спіску № 18 Блоку нацыянальных меншасцяў ад Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі разам з Паўлам Карузам (на першым месцы) і Канстантым Юхневічам (на трэцім месцы) у Свянцянскай выбарнай акрузе, якая абымала паветы: Свянцянскі, Пастаўскі, Дзісненскі, Браслаўскі[2]. Выбары для траіх кандыдатаў закончыліся паспяхова, паколькі ў Свянцянскай акрузе выстаўлены быў толькі адзін беларускі спісак[3]. Падчас двухгадовай кадэнцыі Сойму быў членам Беларускага пасольскага клуба, камісіі адбудовы краіны і тры разы прамаўляў на пленарных паседжаннях Сойму, выступаючы ў абарону беларускага школьніцтва і годнага жыцця беларусаў у ІІ Рэчыпаспалітай. Першы раз выступіў падчас дыскусіі над падаткавымі законамі на 33 паседжанні Сойму 23 лістапада 1928 г.: «Wysoki Sejmie! Po niefortunnem przedłożeniu rządowem projektów podatkowych ustaw na jednem z posiedzeń sesji ubiegłej, dziś jesteśmy świadkami nowej próby uchwalenia ustaw, które mają polepszyć położenie ekonomiczne klas majętnych w Polsce i jednocześnie pogorszyć stan najliczniejszej klasy włościańskiej. (…) Dziwić się należy, iż Rząd w poszukiwaniu środków zwraca się przedewszystkiem do tej części ludności, która od czasu wskrzeszenia Polski niepodległej nie może uporać się z istniejącemi dotychczas podatkami państwowemi i samorządowemi. Mam tu na myśli najbiedniejszą, najbardziej zniszczoną działaniami wojennymi i najbardziej małorolną ludność białoruską. Kto zna czem i w jakiej ilości odżywia się chłop białoruski i czem się on przyodziewa, ten stwierdzi stanowczo, że jeżeli może być mowa o podatkach, to tylko chyba o ich obniżeniu, nie zaś o podwyższeniu. (…) O ile w naszych postulatach narodowych i politycznych my Białorusini możemy być dzieleni na rozmaite odłamy, to w dziedzinie naszych żądań ekonomicznych panuje niezłomna solidarność i głębokie przekonanie, że chłop białoruski nic więcej dać nie może. (…) Wskutek przyrostu ludności widzimy takie zjawisko: na 5 ha pracuje gospodarz z pięcioma dorosłymi synami. Emigrować, jak za czasów przedwojennych ci młodzi ludzie nie mają dokąd. W miastach zarobków nie ma, w domu głód, nędza i rozpacz. A tymczasem tuż pod bokiem siedzi pan obszarnik z niezliczonemi obszarami ziemi a z drugiej strony rzecznik polonizacji kraju — osadnik polski. Oto zasadnicze przyczyny, dlaczego chłopa białoruskiego tak chętnie polska prasa i społeczeństwo lubi chrzcić mianem wywrotowca i antypaństwowca. (…) By przekonać się o tem, że chłop białoruski nie może płacić większych podatków, (…) wystarczy p. Ministrowi pojechać na naszą wieś białoruską i przekonać się naocznie o rozpaczliwej nędzy chłopa. (…) Zważywszy

[1] Biełaruski Pradwybarny Zjezd // Krynica. № 2. 5.01.1928. C. 2.

[2] Našy pieršyja 3 kandydaty ŭ Sojm na Świancianski wybarny wokruh // Biełaruskaja Krynica. 1928. № 15. S. 2.

[3] Głogowska, H. Białorusini w parlamentach II Rzeczypospolitej // Przemiany społeczne, narodowościowe i polonijne / pod red. A. Chodubskiego. Toruń, 1994. C. 135–136.

to wszystko, Białoruski Klub Poselski, w którego imieniu przemawiam, głosować będzie za odrzuceniem projektów ustaw podatkowych w pierwszem czytaniu»[1].

7 лютага 1929 г. на 47-м паседжанні Сойму Альбін Стэповіч выступаў у дыскусіі над бюджэтам Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы (Ministerstwo Wyznań Religijnych i Oświecenia Publicznego), баронячы правы беларусаў на ўласную асвету: «Wysoka Izbo! Resort Ministerstwa Wyznań Religijnych i Oświecenia Publicznego należy do najbardziej ważnych dla mniejszości narodowych, ponieważ szkolnictwo jest najściślej związane z życiem i rozwojem tych mniejszości. To też posłowie białoruscy (…) nie opuścili najmniejszej okazji, by spełnić swój obowiązek i domagać się szkoły w języku ojczystym w ilości odpowiadającej liczebności Białorusinów. (…) Według statystyki urzędowej w roku zeszłym było na terenie woj. wileńskiego szkół białoruskich powszechnych rządowych 11, prywatnych 3, utrakwistycznych 18; w woj. nowogródzkiem białoruskich szkół powszechnych rządowych 10, prywatnych 1, utrakwistycznych 26, czyli razem na terenie dwóch województw znajduje się obecnie 25 szkół białoruskich powszechnych, a tymczasem szkół polskich powszechnych te 2 województwa mają 2164. Jaki jest procent ludności białoruskiej w tych województwach? Trudno oczekiwać od statystyki urzędowej polskiej, by była ścisła, można natomiast twierdzić, iż jest ona na pewno tendencyjną. Otóż nawet ta statystyka polska z dnia 30 listopada 1921 r. głosi, iż woj. wileńskie i nowogródzkie, razem wzięte, posiadają 33% ludności białoruskiej. Wynika stąd, iż Białorusini z ogólnej ilości szkół polskich 2164 powinni mieć trzecią część, to znaczy 821. Mają tymczasem 25. (…) Zaznaczyć jeszcze muszę, iż statystyka rządowa zalicza wszystkich katolików białoruskich do Polaków, ale nawet pewien procent prawosławnych Białorusinów. Gdyby więc statystyka ludności białoruskiej odpowiadała rzeczywistości, szkolnictwo białoruskie przedstawiałoby się niewątpliwie jeszcze bardziej w rozpaczliwym stanie. (…) Trzeba zwrócić również uwagę na jakość szkół białoruskich. Otóż z nielicznemi wyjątkami uczą dzieci nasze w szkole białoruskiej nauczyciele Polacy, którzy niedwuznacznie przed dziećmi wyrażają pogardę dla mowy białoruskiej. Jeszcze gorzej dzieje się w szkołach utrakwistycznych. Tu nauczyciel Polak często nie ma pojęcia o białoruszczyźnie i uczy po białorusku chyba tylko gramatyki i rysowania. Ponieważ szkół białoruskich brak, Białorusini są zmuszeni, i to literalnie, posyłać swe dzieci do szkół polskich, gdzie często nie ma ani jednego dziecka polskiego. Trzeba być obecnym na lekcji w takiej szkole, by odczuć całą grozę położenia. Uderza przede wszystkiem nierozumienie języka dziecka przez nauczyciela i odwrotnie. Nauczyciel przysłany z pod Krakowa, nie rozumie wcale mowy białoruskiej, a klasa, szczególniej tam, gdzie mieszkają Białorusini, nie rozumie, czego od niej chce nauczyciel. Cóż tedy dziwnego, że dziecko przez kilka lat nie

---

[1] Sprawozdania stenograficzne z posiedzeń Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej od 27.03.1928 do 29.03.1930, 33 posiedzenie z dnia 23 listopada 1928 r., ł. 39–40.

może się nauczyć czytać. (…) Ze szkolnictwem średniem lepiej nie jest. (…) Widzimy wyraźne dążenie p. Ministra Oświaty do całkowitego likwidowania tego, co przedtem istniało. Wysiłkiem nadzwyczajnym społeczeństwa białoruskiego były otwarte gimnazja w Wilnie, Radoszkowicach, Nowogródku i Klecku. Otóż by młodzież nie emigrowała za granicę po zdobycie wyższej oświaty, nadano gimnazjum wileńskiemu prawo publiczności, ale gimnazjum w Radoszkowicach przekształcono na szkołę powszechną, innemi słowy zamknięto je pod zarzutem niskiego poziomu nauczania. (…) O szkolnictwie białoruskiem prasa polska, szczególnie endecka, a również część społeczeństwa polskiego stara się wytworzyć opinję, jakoby lud białoruski nie życzył sobie szkoły ojczystej, natomiast pragnął szkoły polskiej. Tego rodzaju zdania można nieraz usłyszeć od nauczycielstwa polskiego i władz szkolnych. Tak jednak na szczęście nie jest. Naród białoruski wbrew fałszywej opinji naszych przeciwników politycznych kategorycznie domaga się szkoły ojczystej, nie patrząc na różne przeszkody natury formalnej i na teror administracyjny. Jeszcze roku 1926 wpłynęło podań na 412 szkół białoruskich. Ostatniemi czasy ilość tego rodzaju deklaracji znacznie się powiększyła. Jak trzeba przewidywać, Rząd żadnej deklaracji nie uwzględnił. (…) Aby tembardziej uwypuklić ten opłakany stan szkolnictwa białoruskiego w granicach Państwa Polskiego, muszę dla zestawienia rzucić okiem na szkolnictwo białoruskie w Białorusi sowieckiej. (…) Dając to zestawienie, narażam się na zarzut zachwycania się ustrojem sowieckim. Dla uniknięcia nieporozumienia muszę zaznaczyć, iż daleki jestem od gloryfikowania ustroju komunistycznego, przeciwnie, klub nasz, jak i ja osobiście, stojąc na gruncie demokratycznym, nie może uznawać żadnej dyktatury, niezależnie od tego, skąd ona pochodzi, z prawa czy z lewa. My Białorusini nie uważamy eksperymentów komunistycznych za realne i potrzebne i ustosunkowujemy się do nich negatywnie. Wszystko to jednak nie przeszkadza nam patrzeć na rzeczy trzeźwo i objektywnie. Mianowicie odróżniamy ryzykowne i beznadziejne bolszewickie próby od pracy twórczej u podstaw kultury narodowej. (…) Stoimy przed faktem, iż na Białorusi sowieckiej otwarto moc szkół średnich, otwarto uniwersytet, akademję agronomiczną i wreszcie już w r. b. akademię umiejętności w Mińsku. Obalać te fakty, szkoda trudu. Mówią one same za siebie»[1].

У той жа прамове Альбін Стэповіч закрануў таксама справу паланізацыі беларусаў праз каталіцкі касцёл: «Nie tylko szkoła polonizuje Białorusinów, sekunduje jej w tem wytrwale duchowieństwo endeckie. Dnia 11 grudnia r. ub. arcybiskup Jałbrzykowski w Wilnie ogłosił w pismach okólnik, zakazujący katolikom należeć do Stronnictwa Białoruskiej Demokracji Chrześcijańskiej, (…) oraz czytać organ tego stronnictwa «Biełoruskaja Krynica». (…) Akcja arcybiskupa Jałbrzykowskiego przeciw Białorusinom nie ujawnia się jedynie w formie teroryzowania Białorusinów wspomnianym zarządzeniem. Jeszcze

---

[1] Sprawozdania stenograficzne z posiedzeń Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej od 27.03.1928 do 29.03.1930, 47 posiedzenie z dnia 7 lutego 1929 r., ł. 44–47.

wcześniej arcybiskup Jałbrzykowski zasłynął z usuwania języka białoruskiego z nabożeństw dodatkowych i kazań. Również ulubionym sposobem zwalczania wprowadzania białoruszczyzny do kościoła jest usuwanie księży Białorusinów z parafji białoruskich i wysyłanie ich do parafji polskich, a nawet zagranicę. Na miejsce usuniętego Białorusina staje naturalnie Polak nacjonalista, z wybitnie endeckiem credo politycznem»[1].

Праз год Альбін Стэповіч выступіў у дыскусіі над бюджэтам Міністэрства ўнутраных спраў у сувязі з павелічэннем сродкаў на службу бяспекі: «Widzimy dziś powiększenie wydatków na służbę bezpieczeństwa, które na ziemiach białoruskich u nas jest raczej niebezpieczeństwem. Skutek nadmiaru policji i jej politycznego nastawienia jest ten, że niżsi funkcjonariusze policji, by zadowolić wymagania swoich przełożonych, a także, by pokazać, że się darmo chleba nie je, szukają przestępstw politycznych i wykroczeń administracyjnych tam, gdzie ich niema. Widzimy stąd policyjne wizyty niemal w każdej chacie wiejskiej. Nie znam innego zjawiska w życiu wsi, któreby potrafiło tak obrzydzać życie spokojnym obywatelom, jak to wtrącanie się policji już nawet do życia prywatnego. Biada takiemu gospodarzowi, który prenumeruje albo czyta gazety białoruskie. Zapisany on jest na listę obywateli nieprawomyślnych i, co za tym idzie, może być wezwany na posterunek policyjny, a tam nawet pobity. (…) Za co biją? To zależy od nastroju komendanta danego posterunku. Czasem za to, że wezwany jest podejrzany o nieprawomyślność, a na przykład spokojnego obywatela Moroza Michała skatowano na posterunku w Nowojelni (woj. nowogródzkie) tylko za to, że chciał założyć legalną początkową szkołę białoruską. (…) W preliminarzu budżetowym widzimy również podwyżkę przeszło o 4 miljony na uposażenie wojewodów i starostów. (…) Mówiąc o starostach powiatowych, nie można pominąć ich roli w życiu t. zw. samorządów. Prawdziwą bolączką wsi białoruskiej jest widzimisię starosty w zatwierdzaniu wyborów na wójta lub sołtysa. Stworzył się u nas ciekawy typ zawodowego wójta, który będąc nam obcy narodowością i duchem, staje na czele gminy z nominacji, by być ślepem narzędziem w ręku starosty, na szkodę interesów wsi. My posłowie Białorusini nie możemy kłaść na barki obecnego pana Ministra Spraw Wewnętrznych odpowiedzialności za smutną spuściznę po p. Ministrze Składkowskim. Będziemy natomiast czekać i domagać się od p. Ministra Józewskiego likwidacji wszystkich nadużyć i bezprawia, cechującego okres urzędowania byłego Ministra Spraw Wewnętrznych»[2].

Альбін Стэповіч, будучы дэпутатам польскага Сойму ў 1928–1930 гг., бываў частым госцем у розным месцах Заходняй Беларусі. Арганізаваў сустрэчы з выбаршчыкамі, падчас якіх праводзіў таксама ўсведамляльную працу. 20 верасня 1928 г. на сустрэчы ў Свіры гаварыў: «Usie siły kožnaha polskaha

[1] Sprawozdania stenograficzne z posiedzeń Sejmu Rzeczypospolitej Polskiej od 27.03.1928 do 29.03.1930, 47 posiedzenie z dnia 7 lutego 1929 r., ł. 47–48.

[2] Ibid. Ł. 85–86.

ŭradu byli i jość skirawany na toje, kab nas zrabić Palakami. Ale nie dajmosia i nie pazwalajma, kab u polskich ustanowach, kudy nas na służbu nia pryjmajuć, nas panižali i ździekwalisia nad našaj čaławiečaj hodnaściaj. My — duży, wialiki narod, nas bolej na świecie jak Żydoŭ i Litwinoŭ, Łatyšoŭ, Estoncaŭ, Finaŭ, Šwedaŭ i inš. A ŭsie my tut Biełarusy»[1]. Летам 1928 г. адведаў беларускую школу ў Шаўлянах на Браслаўшчыне (сустрэўся з дзецьмі і дарослымі, зрабіў справаздачу з працы Сойму і прадставіў агульнае палітычнае палажэнне ў Польшчы)[2], а вясной 1929 г. — беларускую школу ў Рудаўцы Слонімскага павета[3]. Выступаў таксама ў Вільні і на правінцыі з лекцыямі: «Хто такія Беларусы і да чаго яны імкнуцца (важнейшыя мамэнты з гісторыі Беларусі і сучаснае наша палажэнне пад Польшчай)» (7 ліпеня 1929 г. ў Рубяжэвічах)[4], «Беларусы і іх імкненні» (19 студзеня 1930 г. уВаракомшчыне)[5]. Яго дэпутацкая дзейнасць адносілася таксама да інтэрвенцыяў у Віленскага куратара асветы ў абарону беларускага школьніцтва і ў Віленскага архіепіскапа і апостальскага нунцыя ў Варшаве ў справе беларускай мовы ў касцеле[6]. Вясной 1928 г. заплаціў залог за арыштаваных і пасаджаных у турму на Лукішкі беларускіх дзеячаў Міколу Дварэцкага, Булыгу і Краўчонка[7].

2 сакавіка 1930 г. на агульным сходзе Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні, які аб’ядноўваў прадстаўнікоў дзясятку беларускіх арганізацыяў, Альбін Стэповіч быў выбраны на намесніка старшыні БНК[8].

Будучы выдаўцом «Беларускай Крыніцы», пісаў у ёй шмат перадавых артыкулаў. У яго публіцыстыцы з 1927–1930 гг. дамінуе палітычная тэматыка, актуальная для таго часу. Прадстаўляў у ёй погляды беларускага адраджэнскага асяроддзя хадэцкага напрамку на падзеі ў Польшчы, Савецкай Беларусі ды сярод беларусаў у Польшчы. Пішучы крытычна пра Беларускую сялянска-работніцкую Грамаду, сцвярджаў: «Choć była ŭ swaich padstawach tworana čužymi rukami i dla čužych metaŭ, ale ŭsio-ž taki mieła tuju dobruju staranu, što chočučy-niachočučy uświadamlała narod i ŭ nacyjanalnych adnosinach»[9]. Шмат месца ў публіцыстыцы Альбіна Стэповіча займала асведамлянне беларусаў і агітаванне іх да ўдзелу ў грамадска-палітычным жыцці, асабліва перад парламенцкімі выбарамі. У пачатку 1928 г. пісаў: «Na kožnym świedamym Biełarusie, što lubić swaju Baćkaŭščynu i wieryć, što ŭ polskim parlamancie za

---

[1] Padświrski. Pasolski mitynh u Świry // Biełaruskaja Krynica. 1928. № 46. S. 4.
[2] Prysutny. U Šaŭlanskaj Biełaruskaj Škole // Biełaruskaja Krynica. 1928. № 40. S. 1.
[3] Biełaruskaja Krynica. 1929. № 20. S. 2.
[4] Biełaruskaja Krynica. 1929. № 24. S. 2.
[5] Biełaruskaja Krynica. 1930. № 4. S. 4.
[6] Sprawy Narodowościowe. 1929. № 1. S. 86.
[7] Беларускі Дзень. № 20. 30.05.1928.
[8] Biełaruskaja Krynica. 1930. № 10. S. 1.
[9] Al. S. Na parozie Nowaha Hodu // Biełaruskaja Krynica. 1928. № 1. S. 1.

роўныя часткі (што зноў жа амаль ідэальна для кампаратыўнага аналізу), усе літаратурныя працэсы ў першай і другой ідуць абсалютна ў розных кірунках. На першы погляд цікава, дарэчы, што за гэтую велізарную розніцу (яна па ўсіх знешніх параметрах — на карысць усходнебеларускай літаратуры) не ўхапіліся прапагандысты або ідэолагі, але зноў жа, пры больш падрабязным аналізе разумееш — гэтага лепш было не рабіць: дэталізацыя магла б прадэманстраваць некаторыя моманты, для тых жа ідэолагаў непажаданыя. І гэтая «рознасць» сама па сабе ўяўляла вельмі цікавае поле для літаратуразнаўчага даследавання. Паспрабуем пералічыць некаторыя пункты, якія падаюцца асабліва важнымі.

**2.** Заходнебеларуская літаратура практычна цалкам па-за феноменам прыходу масавай, дзёрзкай і амбіцыйнай літаратурнай генерацыі, на канфлікце якой ва ўсходнебеларускай літаратуры практычна трымаецца літаратурны працэс у ягоных пазітыўных і негатыўных праявах. Амаль тысячны «Маладняк», элітарнае і падкрэслена прафесійна-літаратурнае «Узвышша», кампраміснае, але з яўным ухілам у літаратурны акадэмізм «Полымя» (гаворка ідзе перш за ўсё пра часопіс і ягоную рэдакцыйную палітыку, а не пра аднайменнае літаб'яднанне), шэраг іншых літаратурных арганізацый — літаратурны рух Заходняй Беларусі колькасна і якасна дэманструе зусім іншыя формы. На палеміцы і канфліктах з «нашаніўцамі», «адраджэнцамі», якой наскрозь прасякнута беларуская савецкая літаратура 1920-х гадоў, адны пісьменнікі з «новай хвалі» раслі і сталелі, іншыя — канчаткова траплялі ў тупік «пралетарскай літаратуры» і фактычна сыходзілі з літаратурнай арбіты, але усё гэта толькі пэўная форма літаратурнай эвалюцыі, «адбору», які цалкам натуральны, нават тыповы для большасці еўрапейскіх літаратур. Дарэчы, і для старэйшай літаратурнай генерацыі канфлікт, вонкавы, як у Я. Коласа, або, скажам, знешне абсалютна невыразны, але безумоўна бачны праз творчасць (Я. Купала, М. Гарэцкі), быў у нейкай ступені рухавіком літаратурнага росту і эвалюцыі. У Заходняй Беларусі няма нават знаку з'яўлення масавай маладой генерацыі, там шырокі — але, з іншага боку, абсалютна немагчымы нават для ліберальных 1920-х у Савецкай Беларусі — спектр мікравыданняў (накшталт «Крывіча» або «Сялянскай нівы»), часам з вельмі кароткім тэрмінам жыцця; але ўтвараюць гэты спектр ці не напалову ўчарашнія «нашаніўцы»; гаварыць пра нейкі масавы прыход у літаратуру маладых пісьменнікаў, паўторымся, не выпадае, і сам характар літаратурнага канфлікту зусім іншы, і разуменне яго сутнасці патрабуе настойлівага і ўважлівага аналізу — хаця ён, безумоўна, ёсць. Дынаміка літаратурных працэсаў, канцэнтрацыя літаратурнага часу — зноў жа абсалютна розная ў дзвюх частках. Ва ўсходняй шлях ад пісьменніка-пачаткоўца да сталага прафесіянала займае 5–6 гадоў (К. Чорны, К. Крапіва, М. Зарэцкі, Я. Пушча — пералік можа быць доўгі), тое ж, дарэчы, было характэрна і для «Нашай Нівы». У заходняй — літаратурны час, за выключэннем асобных, не зусім «кантэкставых» постацяў (кшталту

Н. Арсеннева), ажно да 1930-х як бы «застыў». Скажам, паэзія М. Васілька такой канцэнтрацыі пошуку (фармальнага і эстэтычнага) і мастацкай дынамікі не дэманструе.

**3.** Першая палова 1920-х ва ўсходнебеларускай літаратуры — час больш паэтычны, другая палова 1920-х — гэта ўжо пачатак дамінавання прозы, прытым вялікіх жанраў — аповесці і рамана. Драматургія, да з'яўлення ў 1930-х п'ес К. Крапівы, саступае і паэзіі, і прозе — колькасна і якасна. Заходнебеларуская літаратура з боку прозы — гэта «статыстычная пагрэшнасць» у параўнанні з усходнебеларускай, дамінуючай застаецца на ўсім працягу яе існавання паэзія, але досыць актыўныя і драматургі (праўда, не вельмі шматлікія), што зноў жа парадаксальна — нацыянальнага тэатра гэтая частка Беларусі не мае.

**4.** Адсутнасць літаратурнага цэнтру ў заходнебеларускай літаратуры. Вільня, у адрозненне ад «нашаніўскіх часоў», страчвае значэнне літаратурнай сталіцы, літаратурнага цэнтру. Яе цалкам замяніў у гэтай ролі Мінск, што, безумоўна, з'яўлялася часткай прадуманай палітыкі савецкай улады па «мяккім» далучэнні Заходняй Беларусі да СССР, у тым ліку і праз культурную палітыку. Такі ж працэс назіраецца і ў дачыненні да Заходняй Украіны[1]; ва ўсялякім выпадку, нічога падобнага літаратурным інстытуцыям усходняй часткі (літаратурная перыёдыка, выдавецтвы, тэатр, адукацыйныя ўстановы) у 1920-я гады заходняя супрацьпаставіць не можа: мікравыданні, мікравыдавецтвы, часта з вельмі кароткім тэрмінам жыцця, раздробленасць і нярэдка — антаганізм паміж рознымі плынямі, літаратурнымі лагерамі, выклікаюць у тым ліку і жаданне многіх літаратурных дзеячаў наблізіцца да рэальнага цэнтру літаратуры — што прыводзіць да пераезду тых жа М. Гарэцкага, В. Ластоўскага або Ф. Аляхновіча ў БССР. Але, з іншага боку, як толькі ў 1930-я гады Мінск як літаратурны цэнтр па многіх прычынах ужо не ўяўляецца такім для заходнебеларускіх пісьменнікаў, пачынаюцца досыць інтэнсіўныя спробы кансалідацыі і кампрамісу, аднаўлення «свайго» цэнтру, прыкладам чаго можа служыць гісторыя стварэння і функцыянавання часопіса «Калоссе».

**5.** Несупадзенне «эстэтычных каардынатаў». Творы з Савецкай Беларусі выдаюцца ў Заходняй Беларусі дастаткова інтэнсіўна; трапляюць яны туды і іншымі, не заўсёды легальнымі шляхамі. Але пры відавочнай дамінантнасці —

---

[1] На сённяшні дзень не існуе грунтоўнай манаграфіі, прысвечанай аналізу «беларусізацыі» і карэнізацыі ў беларускім грамадскім жыцці 1920-х гадоў, якая вызначыла многія працэсы ў літаратуры і грамадстве 1920-х, у тым ліку Заходняй Беларусі, спроба далучыць якую і была адной з прычын звароту бальшавікоў-інтэрнацыяналістаў да гэтай палітыкі. Але ёсць дастаткова грунтоўная манаграфія, якая асвятляе блізкі па сутнасці працэс ва Украіне. Гл.: Борисёнок, Е. Ю. Феномен советской украинизации. 1920–1930-е годы. — М., 2006.

колькаснай і якаснай — літаратурнай метраполіі (а ў 1920-я гг. Савецкая Беларусь — менавіта літаратурная метраполія для Заходняй) мы не знойдзем значных уплываў на заходнебеларускія творы. Гэта той эстэтычны ўплыў, які чамусьці не «прышчапляўся». Прытым «нашаніўская» традыцыя, нават ранняя, прасочваецца ў заходнебеларускай літаратуры даволі выразна, нават у творах тых паэтаў, якія ніколі з «Нашай Нівай» не супрацоўнічалі (паэзія М. Машары або М. Васілька). З іншага боку, публікацыя паэтычнага зборніка У. Жылкі ў Савецкай Беларусі зрабіла ашаламляльны эфект, што відаць па колькасці адмоўных рэцэнзій, якія зноў жа дэманструюць пэўны комплекс ужо «савецка-беларускага» паэтычнага дыскурсу, для якога гэтая публікацыя як бы падкрэсліла пэўную страту эстэтычных арыенціраў.

Нарэшце, вельмі паказальным будзе і той факт, што большасць літаратараў Заходняй Беларусі, незалежна ад іхняй палітычнай арыентацыі (хаця можна смела гаварыць аб вельмі моцных пракамуністычных настроях сярод вельмі значнай часткі заходнебеларускай інтэлігенцыі), аказалася вельмі непажаданай пасля аб'яднання дзвюх частак, і прычыны гэтай непажаданасці і яе выніку — пераламаных лёсаў заходнебеларускіх пісьменнікаў маюць таксама не апошняе значэнне пры паўнавартасным «упісванні» заходнебеларускай літаратуры ў агульную «Гісторыю…» у якасці арганічнай і ўзаемазвязанай часткі.

Зразумела, што ў кароткім артыкуле можна толькі пазначыць, але не вызначыць праблему «выпадзення» заходнебеларускай літаратуры з агульнай сістэматыкі навуковага асэнсавання літаратурнага працэсу. Тым не менш, некаторыя папярэднія высновы зрабіць магчыма.

**Першае.** Пераемніцай «нашаніўскай» лініі развіцця літаратуры, як гэта ні парадаксальна, будзе заходне-, а не ўсходнебеларуская літаратура. Проста натуральны працэс раздыферэнцыяцыі, які назіраўся ўжо ў позняй «Нашай Ніве», быў непазбежным, прыводзіў да натуральнага пашырэння літаратурнага поля і разнастайнасці (эстэтычнай, светапогляднай, сацыяльнай, палітычнай), воляй гісторыі апынуўся «не ў тым часе». Логіка літаратурнага развіцця ўжо патрабавала разыходжання па розных школах, плынях, кірунках, рэаліі грамадска-палітычнага жыцця патрабавалі кроку назад — зноў да кансалідацыі вакол адзінага цэнтру, нягледзячы на рознасць ідэйна-эстэтычных прынцыпаў і арыентацый. Разуменне гэтага прыйшло занадта позна («Калоссе», Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры). Але іначай, відаць, быць не магло: дэзарыентацыя ў час дамінавання «левых» ідэалогій адчуваецца і ў намнога больш развітых літаратурах, чым заходнебеларуская.

**Другое.** Феномен беларускай савецкай літаратуры 1920-х гадоў дэманструе, якую велізарную ролю ў станаўленні літаратуры і літаратурнага поля адыгрываюць літаратурныя інстытуцыі (нават не цалкам незалежныя) і ліквідацыя сацыяльных бар'ераў і «кансерватыўных» сацыяльных ліфтаў. Часопісы і газеты, выдавецтвы і тэатры, універсітэт і школа (царква з гэтага

пераліку, натуральна, выпадае ў той час), а таксама сама магчымасць лёсу прафесійнага паэта, празаіка, крытыка (хай сабе і праз датацыйныя, а значыць, у пэўнай ступені маніпуляцыйныя механізмы) ствараюць пэўную мадэль літаратурнага поля і рынку і дазваляюць маладым літаратарам максімальна эфектыўна рэалізаваць свой патэнцыял, прытым у вельмі кароткі, як паказвае практыка, тэрмін. Фактар моцнага літаратурнага цэнтру, відаць, таксама тут неабходны і абавязковы.

**Трэцяе.** Жанравая развітасць, дынаміка, нарэшце, прадстаўленасць-непрадстаўленасць на пэўных гістарычных этапах тых ці іншых жанраў, дамінаванне адных і заняпад іншых, відавочна, вельмі моцна ўзаемазвязаны з узроўнем інстытуцыянальнай развітасці і запатрабаваннямі чытача. Але і чытач таксама фарміруецца праз інстытуцыі і ствараецца самой літаратурай, і ягонае з’яўленне, як і сам фармат кніжнага рынку, узаемасувязі літаратура-чытач, залежыць ад нейкага «першаштуршка». Інакш кажучы, на пытанне, што з’яўляецца раней — чытач або літаратура, трэба, відаць, адказваць — літаратура, нават у выглядзе не зусім залежнай ад дзяржавы і ідэалогіі. Гэты механізм сувязі быў напрацаваны «Нашай Нівай», быў змадэляваны ў значнай ступені дзяржавай у 1920-я гады ў Савецкай Беларусі, але не быў рэалізаваны — ва ўсялякім выпадку, напачатку — у Заходняй Беларусі.

Гэта толькі некалькі пытанняў, якія паўстаюць пры спробе «ўбудаваць» заходнебеларускую літаратуру ў якасці паўнавартаснай часткі агульнабеларускага літаратурнага працэсу. І, як здаецца, менавіта кампаратыўны аспект аналізу дзвюх частак адзінага цэлага дапаможа па-новаму зразумець многія заканамернасці развіцця ўсёй беларускай літаратуры XX стагоддзя.

**Эльвира Воронцова, Лариса Нургалеева** *(Томск, Россия)*

# БЕЛОРУССКО-ПОЛЬСКАЯ МИФОЛОГИЯ ПЕРЕСЕЛЕНЧЕСКИХ ПОСЕЛКОВ СИБИРИ В КОНТЕКСТЕ АРХИВНЫХ РАЗЫСКАНИЙ (ПО МАТЕРИАЛАМ ПОСЕЛКА ВИЛЕНКА ТОМСКОГО УЕЗДА ТОМСКОЙ ГУБЕРНИИ)

История Сибири богата не только памятью об освоении бескрайних просторов и природных ресурсов, но и чрезвычайно насыщенной переселенческой мифологией. В ней заметное место и по сей день занимает мощный мифологический пласт о польско-белорусском происхождении живущих здесь семей. По сей день в нашем городе существуют польские и белорусские сообщества, связи внутри которых тесно переплетены [23]. Потомки прежних переселенцев стараются говорить на белорусском и польском языках, исполнять национальные песни и музыку, играть театральные пьесы, обмениваться документами, фотографиями, письмами из семейных архивов, разыскивать старые географические карты. Многие посещают Римско-католический польский костел Покрова Пресвятой Богородицы царицы святого Розария, построенный в Томске в тридцатые годы девятнадцатого века по настоянию поляков, сосланных в Томск [24].

Вопрос «Откуда родом были наши предки?» является одним из ключевых для самоидентификации сибирского населения. Самые общие знания о нескольких волнах переселения из Польши и Белоруссии в Сибирь слишком масштабны для понимания конкретных деталей семейной мифологии. Стремление найти фабулу собственного рода заставляет многих обращаться к сохранившимся в архивах историческим документам и вести генеалогический поиск год за годом, отправляться в этнографические экспедиции. Как показало знакомство с потомками переселенцев, перебравшихся в Томскую губернию в конце XIX — начале XX века, подобная ситуация сложилась во многих сибирских семьях. Мы хотели бы показать типичную ситуацию, связанную с трансформацией родового мифа о белорусско-польском происхождении, происходящей на фоне сопоставления архивных данных, воспоминаний потомков переселенцев и документов из семейных архивов. Наш опыт во многих отношениях является типичным, как и поисковые проблемы, встающие перед людьми, занимающимися восстановлением исторических родовых связей.

Отправной точкой генеалогического поиска явились рассказы старших о прабабушках. Их образ складывался из таких деталей: одна приехала из Варшавы, другая — из Вильно. Одна очень хорошо говорила на польском языке.

До сих пор ее образ в воспоминаниях внуков ассоциируется с конкретными оборотами польской речи. Прабабушки были представительницами семей переселенцев, сосланных в Сибирь после восстания. Эти размытые образы и семейный миф были слишком малоинформативными, поэтому нужны были более объективные сведения. Несколько основных аспектов интересовало нас на первом этапе исследования: почему и откуда именно приехали наши предки, какова была их национальность и вероисповедание, какие родственные связи существуют между известными нам фамилиями переселенцев.

С тем чтобы по крупицам собрать более достоверный материал, нам пришлось на протяжении пятнадцати лет заниматься изучением материалов государственных и личных архивов, выезжать в малые этнографические экспедиции в окрестные поселки, записывать сведения со слов «очевидцев», собирать разрозненные коллекции фотографий и документов. В этом году нам удалось посетить места проживания наших прадедов в Белоруссии и познакомиться с людьми, которые еще помнят наших родственников и историю их переселения в Сибирь. Постепенно от генеалогического поиска мы перешли к просопографическому исследованию: родственные связи так тесно переплетены, что для того, чтобы восстановить их структуру, нужно изучить данные обо всех жителях переселенческого поселка Виленка, а порой и соседних селений.

Что открыли архивные документы? История переселения наших предков тесно связана с историей жителей нескольких поселков Томского уезда Томской губернии, являющейся одной из самых малозаселенных земель за Уралом [1]. Но в большей степени она привязана к поселку Бросовскому. К моменту приезда переселенцев он был обжит старожилами — выходцами из Пензенской, Вятской, Калужской губерний Российской империи. С 1898 г. Бросовский стал одним из многочисленных мест, где осели выходцы из Виленской, Витебской и других окрестных губерний. В 1904 г. он был переименован в поселок Виленка, что соответствовало изменившемуся за время переселенческой кампании составу населения. Сегодня это небольшой дачный поселок. Уникальная среда переселенческого быта и истории во многом утрачена. По истечении почти полутора веков со времени переезда в Сибирь невозможно встретить человека, который рассказал бы во всех нюансах историю переселения наших предков, но важным источником объективной информации остаются архивы.

Новые сведения позволяли раз за разом уточнять исходные данные. Например, по материалам метрических книг составлен Виленский некрополь (1899–1919 гг.), список брачных пар с указанием поручителей, уточнены даты рождения, причины смерти жителей деревни и т. д. Были сформированы обширные генеалогические схемы, создана схема расположения домов переселенческого поселка с именами хозяев. Однако трудность сбора информации такого рода связана с тем, что архивные коллекции часто

включают в себя неполную информацию. Она разбросана по разным тематическим разделам или нередко относится лишь к выборочным периодам истории поселений. Кроме того, представители одного и того же семейного клана могли крестить детей, венчаться и отпевать усопших в разных местах: одни — в православной церкви, другие — в католическом храме. Большая часть населения принадлежала епархии Русской православной церкви. Католической веры придерживались немногие. Соответственно, документы о близких родственниках могли храниться разными религиозными конфессиями. Подобная ситуация была характерна и для Белоруссии [5–7]. В поселке Прудцы, например, и по сей день существуют и православный храм, и католический костел.

Вернемся к начальному мифу об истории переселения. Напомним, что многие из опрошенных нами потомков переселенцев были уверены, что их предки были повстанцами, высланными из Польши. Однако исследование архивных документов показало, что переселенцы в основной своей массе были детьми и внуками крепостных крестьян, выехавших из-за малоземелья в Сибирь. Стимулом явилась государственная политика России того периода и возможность получения посемейной путевой, строительной и сельскохозяйственной ссуды. Документы о них сохранились в Государственном архиве Томской области (ГАТО) [3; 4; 8; 18; 20]. Они представляют собой интересный материал для различных форм анализа. Переселенцами, приехавшими в Виленку, становились и беженцы в период революционных волнений на железной дороге в г. Вильно в 1905 г. и Первой мировой войны. Они ехали к родственникам, уже обжившимся в Сибири. Нужно сказать, что такая категория, как «ссыльные», в период переселенческой кампании тоже существовала [16]. Но они не имели отношения к истории водворения крестьян в Томскую губернию.

В Сибири переселенцы продолжали родниться между собой. Несмотря на то что имущественное положение и социальный статус порой сильно отличались, они поддерживали родственные связи через браки детей на протяжении нескольких десятилетий [2]. Нужно отметить, что реальные связи традиций польской и белорусской культуры прослеживались и на бытовом уровне, и на культурном. Это отражалось в языке, организации жилья, приемах приготовления пищи, ведения хозяйства и т. д. Судя по анализу национальной структуры регионов, из которых выехали переселенцы Виленки, больше половины населения составляли белорусы, но также она включала в себя литовцев, латышей, евреев и поляков [6–7]. Однако в период коллективизации произошло стирание исконных национальных черт и многие люди по документам значились как «русские». Позже, в драматический период репрессий, указание на национальность могло быть одним из отягчающих факторов при формировании обвинений НКВД. Это хорошо видно из анализа известных «расстрельных дел».

Не имея возможности показать все этапы перехода от мифологического толкования семейной истории к ее более объективным описаниям, остановимся лишь на вопросах географии переселения. Данные такого рода в архивах хранятся разрозненно. Для выявления информации потребовалось сведение воедино информации, полученной из фондов ГАТО, Государственного исторического архива Литвы в Вильнюсе (ГИАЛ), районного архива Томского муниципалитета Томской области (РАТМ) и т. д. Географические сведения содержатся в прошениях о зачислении на участки земель и списках переселенцев, в протоколах, списках и ведомостях, связанных с выдачей ссуд переселенцам [3; 4; 8; 12–15; 17; 18; 20–22]. Другой достоверный источник — Материалы Всероссийской сельскохозяйственной переписи 1916 г. [9]; содержали важные географические данные и некоторые записи в Метрических книгах Петропавловской церкви с. Некрасовского (Петропавловского) [10–11].

Результаты систематизации собранных географических данных показали, что большую часть жителей поселка Виленка составляли приехавшие из Виленской и Витебской губерний. На момент переезда в 1898 г. эти территории относились к России [6–7]. Из *Дисненского уезда Поставской волости* прибыли семьи Лысенок (*д. Алашковцы*) и Куриловичей (*д. Дубравы*) — предположительно из соседних деревень, ранее принадлежавших помещику Людянскому. Николай Петрович Лысенок приехал уже женатым на Анисье Андреевне, урожденной Курилович. Янковский Иван Михайлович со своим многочисленным семейством переселился из Виленской губернии *Лидского уезда Лядской волости д. Прудцы*. Эта деревня до отмены крепостного права принадлежала помещице графине Урусской. Из *Гончарской волости* этого же уезда в Виленку переехали семьи Кумпяков, Дычков, Митюкевичей, Быстрицких, Школко, Говоров, Буяков. Они проживали с середины XVIII в. в деревнях, входивших до 1861 г. в состав имения Вашкевичи и принадлежавших помещикам Ленским. Из Витебской губернии приехали семьи Вагалей (*д. Липская Режицкого уезда Розенмуйжской волости*), Поплавских и Мартусевичей (*с. Освей Дриссенского уезда Освейской волости*). Как мы видим, подтверждения мифу о том, что приехавшие были ссыльными переселенцами из Польши, мы не находим.

Но нельзя не сказать об одном важном источнике формирования белорусско-польской мифологии сибирских семей. Виленская и Витебская губернии пережили несколько этапов государственно-территориального переподчинения. Напрашивается вывод о том, что необходимо более глубокое изучение истории этих земель. Примечателен факт: в «Ревизской сказке крестьян Лидского уезда» за 1795 г. все сведения даются на польском языке [19]. Возможно, здесь кроется один из интересных аспектов дальнейшего изучения польско-белорусского мифа…

Итак, накопившийся опыт сопоставления белорусско-польской мифологии переселенческих поселков Сибири с данными архивных поисков позволяет утверждать, что фрагментарные знания, передаваемые из уст в уста, могут искажать реальную картину семейной истории. Они требуют тщательной проверки и анализа данных из разных источников исторических данных. Перспектива сегодняшнего дня во многом связана с развитием сетевых проектов, которые позволят изучать исторические, генеалогические, национальные, религиозные аспекты истории на более объективной основе благодаря открытым ресурсам архивных данных и свободному обмену информацией между людьми, занимающимися генеалогическими исследованиями. Это не означает, что мифологические компоненты семейной истории исчезнут совсем, но она приобретет более реальные очертания, и передаваемые от поколения к поколению родовые легенды будут более исторически достоверными.

## Литература


1. Белянин, Д. Томская губерния на рубеже XIX–XX веков / Д. Белянин. [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://statehistory.ru/books/Dmitriy-Belyanin_Stolypinskaya-pereselencheskaya-politika-v-Tomskoy-gubernii—1906-1914-gg---/2. — Дата доступа: 18.06.2014.
2. Ведомости о материальном положении переселенцев. 1898 г. // ГАТО. Ф. 239. Оп. 1. Д. 4.
3. Ведомости учета ссуд переселенцев Томского уезда // ГАТО. Ф. 196. Оп. 19. Д. 2017.
4. Ведомость о суммах, выданных в путевое пособие переселенцам 1898 г. для водворения в Томскую губернию // ГАТО. Ф. 196. Оп. 19. Д. 317. Л. 24–87.
5. Виленская и Литовская епархия [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://ru.wikipedia.org/wiki/ — Дата доступа: 18.06.2014.
6. Виленский край [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://ru.wikipedia.org/wiki/ — Дата доступа: 18.06.2014.
7. Витебская губерния [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://ru.wikipedia.org/wiki/ — Дата доступа: 18.06.2014.
8. Дело о выдаче переселенцам поселка Бросовского … дополнительной ссуды // ГАТО. Ф. 3. Оп. 40. Д. 224 (1898 г.); Оп. 46. Д. 614 (1900 г.).
9. Материалы Всероссийской сельскохозяйственной переписи 1916 г. // ГАТО. Ф. 239. Оп. 16. Д. 217.
10. Метрическая книга, данная из Томской духовной консистории причту Петро-Павловской церкви села Некрасовского для записи родившихся, браком сочетавшихся и умерших // ГАТО. Ф. 527. Оп. 1. Д. 530. Л. 104–150; Д. 583. Д. 585. Л. 53–69 об. (1901 г.); Д. 600. Л. 1-60 об. (1917 г.); Д. 600. Л. 171–205 об. (1916 г.).
11. Метрическая книга родившихся, бракосочетавшихся, умерших Петропавловской церкви, с. Некрасовское и с. Петропавловское // РАТМ. Ф. 9. Оп. 1. Д. 77 (1898–1904 гг.); Д. 117 (1905–1908 гг.); Д. 136 (1909–1911 гг.); Д. 155 (1912–1914 гг.); Д. 174 (1915–1919 гг.).
12. О водворении переселенцев // ГАТО. Ф. 239. Оп. 1. Д. 12.

13. О причислении переселенцев по месту жительства // ГАТО. Ф. 196. Оп. 10. Д. 1074.
14. О причислении переселенцев пос. Виленка Петропавловской волости // ГАТО. Ф. 196. Оп. 8. Д. 956.
15. О причислении переселенцев пос. Бросовка Петропавловской волости // ГАТО. Ф. 196. Оп. 8. Д. 989.
16. О ссыльных, прибывших в октябре и ноябре 1897 г. и январе 1898 г. // ГАТО. Ф. 196. Оп. 9. Д. 499. Д. 556; Оп. 10. Д. 1060.
17. По прошениям крестьян о перечислении их в разные волости // ГАТО. Ф. 196. Оп. 8. Д. 70.
18. Постановления общего присутствия Томской казенной палаты, протоколы волостных правлений по вопросу исчисления переселенческих ссуд и переписка с Витебской и Херсонской казенными палатами о причислении задолжности по переселенческим ссудам с 08.01.1915 г. по 22.09.1917 г. // ГАТО. Ф. 196. Оп. 7. Д. 1076.
19. Ревизская сказка крестьян Лидского уезда. 1795 г. // ГИАЛ. Ф. 515. Оп. 15. Д. 155.
20. Списки о выдаче ссуды переселенцам, водворенным на Бросовском участке Нелюбинской волости Томского уезда за 1898–1900 гг. // ГАТО. Ф. 3. Оп. 46. Д. 412. Д. 614.
21. Списки переселенцев разных участков и волостей. 1901 г. // ГАТО. Ф. 239. Оп. 1. Д. 8.
22. Список переселенцев, прибывших из России для водворения в казенные земли в Томскую губернию. 1897 г. // ГАТО. Ф. 196. Оп. 8. Д. 35.
23. Томская область. Объединения национальных меньшинств. Национально-культурные автономии и НПО [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.indem.ru/ceprs/Minorities/Tom/Tom09.htm. — Дата доступа: 18.06.2014.
24. Томская Римско-католическая Церковь Покрова Пресвятой Богородицы царицы святого Розария [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://dom-polski.tpu.ru/russian/kostiol/costiol.html. — Дата доступа: 18.06.2014.

---

**Святлана Снапкоўская** *(Мінск, Беларусь)*

## СУЧАСНЫЯ НАПРАМКІ ДАСЛЕДАВАННЯ БЕЛАРУСАЗНАЎСТВА: РАСІЙСКІ ВЕКТАР

На сучасным этапе нямала даследаванняў прысвечана важнай навуковай праблеме — беларуска-польскім адносінам у навукова-культурнай сферы. Але пытанні беларусазнаўства сёння таксама плённа вывучаюцца не толькі заходнімі навукоўцамі, але і ўсходнімі. Я маю на ўвазе перш за ўсё дзейнасць нашых аўтарытэтных акадэмічных расійскіх школ, добра вядомых яшчэ з савецкіх часоў. Выбар тэмы майго артыкула звязаны з працэсамі расійска-беларускай інтэграцыі, скіраванай на збліжэнне нашых краін і народаў у

розных сферах жыццядзейнасці, у тым ліку і ў навукова-культурнай. Інтэграцыя ў сферы навукі і культуры — найважнейшы пункт беларуска-расійскіх пагадненняў 1996 і наступных гадоў.

Відавочна, што абмен вопытам у наладжванні працэсаў фарміравання і развіцця міжкультурнага дыялогу мае на мэце захаванне культурнай самабытнасці і разнастайнасці нашых народаў. Але гэты цярністы шлях можа быць пераадолены толькі ў выпадку сумеснай працы беларускіх і расійскіх навукоўцаў. Галоўны напрамак гэткай дзейнасці прадугледжвае як рэтраспектыўны гісторыка-культурны аналіз, так і сучасныя трэнды развіцця навукі і культуры ў Беларусі і Расіі. Наратыў «міжкультурны дыялог» першапачаткова прадугледжваў размову паміж дзвюма альбо некалькімі асобамі, але ў найноўшым навукова-культурным аспекце трактуецца як «размова на роўных». А размова на роўных засноўваецца і на раўназначных умовах функцыянавання дыялогу. Ці роўныя гэтыя ўмовы міжкультурнага расійска-беларускага дыялогу?

За адказам звернемся да нашага класіка — Максіма Багдановіча. У 1914 г. паэт пісаў, што «беларуская культура зусім не ёсць простым варыянтам культуры вялікарускай. Наадварот — гэта два самастойныя культурныя комплексы, якія з самага пачатку раслі і развіваліся незалежна адзін ад аднаго. Адрозніваючыся паміж сабою і па побытавых першаасновах, і па ўплывах, накіраваных звонку, і па падзеях далейшага гістарычнага жыцця, яны, натуральна, прыйшлі да далёка не тоесных канчатковых вынікаў»[1]. Адсюль відавочна і розная ступень культурных узаемаўплываў. На сучасным этапе ў межах адзінай рускамоўнай культурна-інфармацыйнай прасторы расійскі комплекс дамінуе над беларускім. Зразумела, што ў расійскай і беларускай культуры маецца наяўнасць цэлага комплексу элементаў культурна-гістарычнага падабенства (гістарычны, культурны, моўны, нацыянальная самасвядомасць і інш.). Але ў дадзеным выпадку гэта падабенства заканамерна іграе на карысць мацнейшаму. Адсюль сыходзіць і імкненне да ўніфікацыі нацыянальных каштоўнасцей.

Што адбываецца ў межах даследаванняў аўтарытэтных расійскіх навуковых цэнтраў, якую яны маюць накіраванасць і які змест гэтай беларусазнаўчай праблематыкі? Перш за ўсё лічу неабходным адзначыць кнігу «Беларуска-расійская інтэграцыя», што выйшла ў выдавецтве «Энцыклапедыкс» яшчэ ў 2002 г. Важна падкрэсліць, што падобная кніга, надрукаваная на беларускай мове, выйшла ўпершыню. У ёй змяшчаецца шэраг грунтоўных аналітычных артыкулаў па вузлавых праблемах прававых, эканамічных, сацыяльна-палітычных і культурных беларуска-расійскіх узаемаадносін. Даследаванне аднаго з аўтараў — Андрэя Екадумава — прысвечана культурным рэаліям беларуска-расійскай інтэграцыі. У ім паказана роля расійскага фактару ў

---

[1] Багдановіч, М. Белорусское возрождение // Багдановіч, М. Поўны збор твораў: у 3 т. Т. 2. Маст. проза, пераклады, чарнавыя накіды. — Мінск, 1993. — С. 259.

развіцці беларускай культурнай прасторы. У часы перабудовы (1985–1990 гг.) Расія пачала адыгрываць ролю культурнага донара БССР, што стала фактарам папярэдняга гістарычнага развіцця Беларусі. Але, адзначае аўтар, роля Расіі ў сацыякультурнай дынаміцы Беларусі канца 80-х — пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя далёка не адназначная. Расія перыяду гарбачоўскай перабудовы ў выглядзе сваіх дэмакратычных элітаў выступіла ініцыятарам развіцця нацыянальна-дэмакратычнага руху ў рэспубліках СССР, у тым ліку і ў БССР [1, с. 173–174].

За апошнія 20 гадоў у навукова-культурным асяроддзі Расійскай Федэрацыі сфарміраваліся два асноўныя напрамкі навукова-культурнага беларуска-расійскага дыялогу — акадэмічны і публіцыстычны. ***Акадэмічны*** напрамак базіруецца на ўліку нацыянальна-культурных інтарэсаў, этнічных асаблівасцей і скіраваны на захаванне нацыянальнай ідэнтычнасці, асобнасці нацый і народаў. Акадэмічны напрамак даволі ўстойліва развіваецца праз дзейнасць *Інстытута славяназнаўства і Інстытута Еўропы Расійскай акадэміі навук.* Гэта тэндэнцыя знайшла адлюстраванне і ў дзейнасці *Інстытута тэорыі і гісторыі педагогікі Расійскай акадэміі адукацыі.* Навукоўцамі-педагогамі інстытута распрацаваны шэраг істотных метадалагічных праблем, і ў першую чаргу гэта нацыянальныя каштоўнасці і ідэалы ў адукацыі дарэвалюцыйнага перыяду. На рубяжы XIX–XX стст. пачынаецца актыўнае вывучэнне этнапедагагічнай праблематыкі вядучымі вучонымі-педагогамі Расіі. Прычынамі ўзрастання цікавасці да гэтай тэматыкі былі: эканамічнае і культурнае асваенне ўскраінных зямель Расійскай імперыі; міграцыя рускага насельніцтва ў сувязі з перасяленчай палітыкай; уздым нацыянальных рухаў розных народаў; наспелая школьная рэформа, якая была накіравана на нацыянальныя каштоўнасці адукацыі; неабходнасць увядзення ўсеагульнай пачатковай адукацыі на ўсёй тэрыторыі Расійскай дзяржавы. Расійскія вучоныя і педагогі заўважылі гэтыя новыя з’явы і накіравалі ўвагу ўрадавых колаў і педагагічнай грамадскасці на праблему стварэння рускай нацыянальнай школы, а ў больш шырокім плане — на праблему суадносін агульначалавечага і нацыянальнага ў адукацыі і выхаванні. Напружаны інтарэс да нацыянальных каштоўнасцей адукацыі, які выразна праявіўся ў пачатку XX ст., быў заканамерным вынікам развіцця педагагічнай думкі Расіі: ад успрымання агульначалавечых ідэй Асветы (XVIII — пачатак XIX ст.) — праз авалоданне каштоўнасцямі заходнееўрапейскай педагогікі (першая палова XIX ст.) — да пераканання ў неабходнасці іх узаемасувязі са спецыфічнымі традыцыямі рускай школы (другая палова XIX — пачатак XX ст.) [4, с. 226].

Паспяховы вынік навуковай дзейнасці забяспечваецца ўмацаваннем і развіццём шматгадовай традыцыі акадэмічных інстытутаў. Яе сутнасць заключаецца ў наступным: пераважае не персаналісцкая выбіральнасць, але наяўнасць і высокі ўзровень ведаў у даследаванні праблем гісторыі і тэорыі культуры. Гэты падстававы спосаб навуковай і педагагічнай дзейнасці забяс-

печвае паспяховасць вынікаў даследаванняў, што ажыццяўляюцца ў сучаснай навуцы і практыцы.

Праблематыка Інстытута славяназнаўства РАН, менавіта аддзела ўсходняга славянства, выдзяляецца актуальнасцю і навукова-тэарэтычнай значнасцю, што прадэманстравана напрамкамі дзейнасці і разнастайнымі праектамі. Комплексны напрамак «Механізмы фарміравання і спосабы праяўлення этнакультурнай ідэнтычнасці» тэрытарыяльна ўключае даследаванні Украіны, Беларусі і Польшчы і ставіць на мэце вывучэнне асаблівасцей фарміравання нацыянальнай самасвядомасці і эвалюцыі этнакультурнай ідэнтычнасці народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, а таксама даследаванне ролі і ўплыву як агульнаславянскай культурнай прасторы, так і дзяржаўнага фактару на іх станаўленне і развіццё [5].

У метадалагічным плане зроблена нямала. Акрамя тэарэтычнага абгрунтавання тэрмінаў «этнас», «нацыя», «этнакультурная прастора», выяўлены крытэрыі нацыянальнай ідэнтычнасці, паказаны механізмы ідэнтыфікацыі асобы ў розных гістарычных умовах, як унутраная і знешняя ідэнтычнасць і іерархія ідэнтычнасцей, так і рэгіянальная ідэнтычнасць. Раскрыта выяўленне этнакультурнай і нацыянальнай ідэнтычнасцяў у гістарычных тэкстах, візуальных крыніцах і эга-дакументах, паказаны ўяўленні, характэрныя для розных сацыяльных слаёў. Ажыццёўлена параўнальнае вывучэнне народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, паказана асобнае і агульнае ва ўмовах фарміравання этнакультурнай і канфесійнай ідэнтычнасці, развянчаныя міфы аб нацыянальнай выключнасці і ахарактарызавана ўнікальнасць гістарычнага лёсу асобных народаў.

Праект «Усходнеславянскія этнакультурныя і рэлігійныя анклавы на прасторы Slavia Orthodox» (тэрмін для абазначэння культурна-моўных сітуацый у праваслаўных паўднёва- і ўсходнеславянскіх народаў) прадугледжвае аналіз гістарычных умоў фарміравання ўсходнеславянскіх этнакультурных і рэлігійных анклаваў, выяўленне міграцыйных працэсаў і міграцыйнай палітыкі ў адносінах да ўсходнеславянскіх перасяленчых груп. У шырокім гістарычным кантэксце разглядаюцца сацыяпалітычныя, культурныя і моўныя працэсы ў поліэтнічным рэгіёне — стратэгіі ўзаемадзеяння анклаўнага насельніцтва з жыхарамі метраполіі. Аналізуюцца теарэтычныя, метадалагічныя, ідэалагічныя, юрыдычныя асновы нацыянальна-культурнай палітыкі ў адносінах да цэлага шэрагу анклаўных груп. На тэарэтычным узроўні адбываецца пошук формаў захавання этнакультурнай ідэнтычнасці і стварэнне ўласных інстытуцый у межах анклаваў (нацыянальныя школы, сродкі масавай інфармацыі, культурныя арганізацыі і г. д.). Распрацоўваецца праблема тыпалогіі анклаўных груп і пытанні тэрміналогіі іх абазначэння (анклаў, дыяспара, зямляцтва і г. д.). Адлюстраваны ўплыў знешняга фактару на ўмовы існавання ўсходнеславянскіх анклаваў. Адну з задач аўтары бачаць у параўнальным аналізе іншаславянскіх анклаваў на прасторы Slavia Orthodox.

Кіраўніцтва Інстытута Еўропы Расійскай акадэміі навук лічыць беларуска-ўкраінскую навукова-культурную праблематыку вельмі актуальнай у сваёй навуковай дзейнасці. Інстытутам падтрыманы навуковы праект па падрыхтоўцы кнігі па Беларусі, дзе плануецца змяшчэнне цэлага раздзела «Расійска-беларускія культурна-камунікацыйныя ўзаемаадносіны». Змест раздзела прадугледжвае раскрыццё шэрагу актуальных праблем расійска-беларускіх узаемаадносін у галіне культуры, камунікацыі і інфармацыі. Аўтары бачаць сваю задачу ў выяўленні перадумоў і аб’ектыўных фактараў, якія збліжаюць нашы народы і дзяржавы ў культурна-камунікацыйнай сферы, як і таго, што перашкаджае іх збліжэнню. Асаблівая ўвага будзе нададзена пытанням фарміравання і развіцця культурна-гуманітарнага супрацоўніцтва з пачатку 1990-х гг. да нашых дзён.

Вядучымі расійскімі акадэмічнымі навукоўцамі ў 2007 г. выдадзена калектыўная манаграфія «Западные окраины Российской империи» [2]. У цэнтры ўвагі аўтараў была праблема ўзаемадзеяння імперскай улады і розных нацыянальных рухаў, у тым ліку і на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю. Адмова ад спрошчаных падыходаў да гэтай праблемы дазволіла больш дэталёва аналізаваць стратэгію і тактыку нацыянальна-культурнай палітыкі Расіі. У кнігу ўключаны артыкулы польскіх, украінскіх і беларускіх аўтараў, што дало магчымасць параўнаць падыходы розных гістарыяграфій.

Беларускія навукоўцы ў 2012 г. выдалі грунтоўнае навукова-тэарэтычнае даследаванне «Культура Беларусі: 20 год развіцця» [3]. У дадзеным выданні зроблена спроба асэнсаваць асноўныя вынікі развіцця культуры Беларусі за гады існавання суверэннай беларускай дзяржавы. У кнізе прааналізаваны прынцыпы дзяржаўнай палітыкі ў сферы культуры і адукацыі ў гістарычнай рэтраспектыве. Каштоўным з’яўляецца тое, што праведены падрабязны аналіз стану, тэндэнцый і прыярытэтаў развіцця культуры Беларусі дазволіў на аснове комплекснага падыходу выявіць сучасную стратэгію і перспектывы развіцця нацыянальнай культуры краіны. Відавочна, кнігай можна ганарыцца, паколькі яна развівае сучасную навуку і культурную практыку.

У межах сумеснага беларуска-расійскага праекта ў 2013 г. у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» выйшла кніга-фотаальбом «Белорусы Москвы. XVII век». Гэтая кніга — фундаментальная праца беларускіх, расійскіх і літоўскіх даследчыкаў — выразна дэманструе важкі ўклад беларускіх майстроў, архітэктараў і навукоўцаў у развіццё культуры Масквы.

Наступны напрамак вывучэння беларусазнаўства я вызначыла як ***публіцыстычны***. Чаму? Таму што ён, амаль не маючы навуковай асновы, прадстаўляе даволі шырокую сацыяльную базу — ад прафесараў да звычайных грамадзян. Я не бачу неабходнасці ў яго аналізе, але хачу толькі акрэсліць. Змест поглядаў гэтай часткі насельніцтва (прыхільнікаў публіцыстычнага напрамку) вагаецца ад ідэалогіі «заходнерусізму» (добра вядомага ў нашай найноўшай гісторыі) да банальнай неінфармаванасці, калі не сказаць болей.

Асноўныя найноўшыя характарыстыкі гэтай тэндэнцыі — сублімацыя і часам падмена паняццяў «савецкі» і «расійскі», што выяўляецца ў: 1) недахопе паліткарэктнасці ў сродках масавай інфармацыі; 2) адсутнасці дыферэнцыяцыі ў поглядах на гісторыю ўкраінскай і беларускай культуры і нават на сучасныя ідэалагічныя і сацыяльна-культурныя працэсы, што адбываюцца ў нашых дзвюх братніх краінах. Часам нават дактары філасофскіх навук запісваюць беларуса Андрэя Андрэевіча Грамыку да ўкраінцаў. Але між іншым падкрэсліваюць, што больш за 50 адсоткаў загадчыкаў кафедраў расійскіх ВНУ складаюць этнічныя беларусы і ўкраінцы.

І яшчэ вельмі важна адзначыць у сувязі з гэтым недастатковую інфармаванасць у пытаннях канфесійнага характару. Тут я маю на ўвазе, па-першае, культурныя асаблівасці функцыянавання аўтакефальнай праваслаўнай царквы ва Украіне. Па-другое, часам механічнае залічэнне беларусаў каталіцкага веравызнання заходняга рэгіёна нашай краіны да палякаў. У гэткім кантэксце варта прыгадаць прамову выбітнага віцебскага даследчыка культуры Беларусі канца XIX — пачатку XX ст. Аляксея Сапунова. У Дзярждуме сто гадоў таму ён выказаў літаральна наступнае: «Адносіць беларусаў-каталікоў да палякаў — гэта не што іншае як, прабачце, этнаграфічнае рабаванне» [4, с. 113]. Культуралагічны аналіз паказвае, што ў сённяшняй Беларусі па гэткіх пытаннях канфесіянальнага характару існуе паразуменне. Мы добра ведаем, што расіяне вельмі прыязна сустракаюць беларусаў, дзеляцца станоўчымі ўражаннямі аб нашай культуры. Але самае істотнае яны фармулююць так: «Главное, что у вас все говорят по-русски». А калі адказваеш ім па-беларуску, здзіўляюцца: «Почему вы не говорите по-белорусски, ведь это такой красивый язык?»

Сёлета ў маі месяцы я прымала ўдзел у чарговых XIV міжнародных Ліхачоўскіх навуковых чытаннях у Санкт-Пецярбургу. Выступіць там — вялікі гонар для кожнага навукоўца, паколькі чытанні сталі моцным рэсурсам развіцця навукі і навукова-тэарэтычнага ўзбагачэння ўдзельнікаў форуму. У сувязі з гэтым хачу выказаць некалькі думак. Мноства розных ідэй і падыходаў рэалізуецца перш за ўсё ў сферы адукацыі, якая разам са сферай культуры складае цэласны духоўна-маральны комплекс. Пагэтаму асноўная задача бачыцца ў тым, каб сфармуляваць перспектыўныя пазіцыі, якія важна закласці ў адукацыйную праблематыку. Беларусь — шматнацыянальная і шматканфесійная краіна. Разнастайны гістарычны вопыт — часоў ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі, савецкага часу і сучасны — прадугледжвае розныя падыходы да вырашэння праблем адукацыі. Акадэмік Дзмітрый Сяргеевіч Ліхачоў падкрэсліваў, што кожная культура мае свае каштоўнасці і павінна быць падтрымана перш за ўсё праз адукацыю. У разнастайнасці культур неабходна бачыць крыніцу развіцця. Але для гэтага мы павінны навукова правільна ставіцца да адрозненняў і бачыць у іх крыніцу ўзбагачэння. Праблемы суіснавання розных культур існуюць, і неабходна выпрацаваць

падыходы да вырашэння гэтых пытанняў. Дырэктар Інстытута філасофіі РАН акадэмік Гусейнаў вылучыў тэзіс, што глабальная культура сфарміравалася, пагэтаму мы павінны навучыцца жыць не толькі ў сваіх нацыянальных культурах, культурах малых этнасаў, культуры вялікай этнічнай супольнасці, але і ў глабальных культурах. І тут спецыялісты ў адукацыйнай сферы павінны не толькі рэльефна акрэсліць прынцыпы і падыходы да гэтай праблемы.

Вельмі важна даць навуковыя рэкамендацыі, каб знайсці канкрэтныя рашэнні праз змест адукацыі. А без увядзення ў змест школьнай адукацыі прадмета «Культура Беларусі ў сусветным кантэксце» немагчыма вырашаць актуальныя задачы выхавання моладзі. Пагэтаму ўношу прапанову звярнуцца да Міністэрства адукацыі аб увядзенні ў змест школьнай адукацыі прадмета «Культура Беларусі ў сусветным кантэксце». Шэсць гадоў прайшло з таго часу, як прадмет «Сусветная мастацкая культура» быў выведзены з вучэбнага плана агульнаадукацыйнай школы. Адмоўныя вынікі гэтай памылкі ўсім вядомыя. А такое вяртанне культуры ў школу якраз і будзе адпавядаць логіцы сучаснага педагагічнага працэсу, дзе ў апошнія гады актывізавалася патрыятычнае выхаванне моладзі. Гэтаму важнейшаму напрамку ў сістэме выхавання Рэспублікі Беларусь трэба надаць трывалы грунт, навуковыя і метадычныя падставы і маральныя арыенціры, што і складае культурны змест нацыянальнай сістэмы адукацыі. А самае галоўнае — дапаможа вырашыць праблемы бездухоўнасці, абыякавасці, псіхалогіі ўтрымальніцтва.

Папярэдне мною ўжо былі распрацаваны дзве мадэлі нацыянальнай школы як у кантэксце ўласнабеларускім, так і агульнарасійскім. А зараз у русле пастаўленых задач цалкам лагічна прапанаваць уласную мадэль бачання гэтага працэсу на прыкладзе нацыянальнай сістэмы адукацыі. Аўтарская рэтраспектыўная фрэймавая мадэль адукацыі распрацавана на аснове архіўных крыніц, прайшла апрабацыю ў вядучых расійскіх навукова-педагагічных выданнях і знайшла падтрымку сярод спецыялістаў. Мадэль скіравана на гарманізацыю спецыфічных нацыянальных і ўніверсальных інтэнцый у канкрэтным гісторыка-культурным працэсе. Фрэйм мы разглядаем як блок з канкрэтна-гістарычным альбо эталонным зместам. Вынік узаемадзеяння асноўных складаючых мадэліруемага працэсу знаходзіцца ў прамой залежнасці ад зместу фрэймаў, што дазваляе на тэарэтычным узроўні будаваць і абгрунтоўваць адукацыйную парадыгму.

У якасці асноўных фрэймаў мадэлі выступаюць культурна-адукацыйная палітыка дзяржавы і нацыянальна-культурная спецыфіка дадзенага рэгіёна як кантэксна-складаючыя ўмовы развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі. Мадэль адлюстроўвае ўзаемадзеянне зместу двух асноўных фрэймаў пад уздзеяннем знешняга і ўнутранага фактараў. Гэта дае магчымасць вызначаць асноўныя шляхі ўзаемадзеяння розных фактараў у канкрэтных нацыянальна-культурных рэаліях, прагназаваць развіццё адукацыі, скіраванай не на процістаянне, а на інтэграцыю нацыянальных суб'ектаў.

У якасці перспектыўнага кірунку далейшага даследавання можна прапанаваць наступны: адукацыя і дыялог культур. Дзеля яго рэалізацыі неабходна вырашэнне шэрагу навукова-педагагічных задач: даследаванне прафесійнай дзейнасці расійскіх і беларускіх адукацыйных устаноў на аснове паглыбленай характарыстыкі асноў расійскай і беларускай ідэнтычнасці і рэтраспектыўнага кампаратывісцкага аналізу, па-другое — распрацоўка механізмаў узаемадзеяння культурна-адукацыйных праектаў у гуманітарнай сферы.

Сучасная эпоха радыкальных трансфармацый на постсавецкай прасторы прад'яўляе надзённыя патрабаванні да разумення культур, традыцый і ладу жыцця кожнага народа, які ўцягваецца ў мікрасістэму. Запатрабаванасць разглядаемай праблематыкі ўзмацняецца ўнікальнасцю вопыту супрацоўніцтва дзяржавы, грамадскасці і царквы ў вырашэнні праблем адукацыі і выхавання, у пошуку балансу ўладна-прававых інтарэсаў і духоўна-маральных пачаткаў у сферы адукацыі і культуры. Гэта вельмі актуальна ў сучаснай сацыякультурнай сітуацыі Расіі і Беларусі. Хаця культурны дыялог паміж Расіяй і Беларуссю ў апошнія часы ідзе для Беларусі больш інтэнсіўна, сацыяльна-культурныя мадэлі, якія пераважаюць у Беларусі, адрозніваюцца па шэрагу момантаў ад расійскіх.

## Літаратура


1. Беларуска-расійская інтэграцыя. Аналітычныя артыкулы. — Мінск, 2002.
2. Западные окраины Российской империи. — М., 2007.
3. Культура Беларусі: 20 год развіцця (1991–2011) / С. П. Вінакурава [і інш.]; навук. рэд. І. І. Крук. — Мінск, 2012.
4. Снапковская, С. В. Развитие образования и педагогической мысли Беларуси во второй половине XIX — начале XX вв. / С. В. Снапковская. — М., 2011.
5. Этнокультурная идентичность народов Украины, Белоруссии и Польши: механизмы формирования и способы проявления. — М., 2011.

**Маргарыта Петухова** *(Мінск, Беларусь)*

# ЭКФРАСІС ВА ЎСПАМІНАХ ЯНА БУЛГАКА «КРАЙ ДЗІЦЯЧЫХ ГАДОЎ»

У сувязі з ростам у літаратуразнаўстве цікавасці да інтэрмедыяльнай праблематыкі (інтэрмедыяльнасць, згодна з Н. Цішунінай, уяўляе сабой «адметны тып унутрытэкставых узаемасувязей у мастацкім творы, заснаваны на ўзаемадзеянні мастацкіх кодаў розных відаў мастацтваў», а таксама з'яўляецца спецыфічнай метадалогіяй «аналізу як асобнага мастацкага твора, так і мовы мастацкай культуры ў цэлым, якая грунтуецца на прынцыпах міждысцыплінарных даследаванняў» [6, с. 153]) сярод даследчыкаў абудзілася цікавасць да пытання экфрасісу. У навуковай літаратуры ўсё часцей з'яўляюцца матэрыялы, у якіх раскрываецца сутнасць з'явы, высвятляюцца межы паняцця, распрацоўваецца тыпалогія і акрэсліваюцца функцыі экфрасісу. Традыцыйна паняццем экфрасісу акрэсліваецца вербальная рэпрэзентацыя ў мастацкай літаратуры твораў візуальнага мастацтва (экфрасіс — гэта «міжнародная» форма паняцця; у працах даследчыкаў ужываюцца і іншыя варыянты — экфразіс, экфраза).

Гісторыя экфрасісу звязана з развіццём рыторыкі: для сафістаў II–I стст. да н. э. экфрасіс з'яўляўся адным з найважнейшых і абавязковых практыкаванняў пры навучанні красамоўству. Аратар павінен быў так візуалізаваць прадмет, каб ва ўяўленні слухача ўзнік дакладны вобраз твора мастацтва, пары года, чалавека. Слухач павінен быў быць уражаны, захоплены і здзіўлены яскравым апісаннем і прамовай выступоўцы ў цэлым.

Экфрастычнае апісанне было арганічна засвоена і літаратурай. Найбольш раннія прыклады экфрасісаў сустракаюцца яшчэ ў эпасе Гамэра «Іліяда»: апісанне посцілкі Алены, калясніцы Геры, шчыта Афіны, даспехаў Агамемнана. Аднак самым яскравым экфрасісам у творы з'яўляецца апісанне шчыта Ахілеса (дадзены прыклад можна лічыць энцыклапедычным, бо ён карыстаецца асаблівай папулярнасцю сярод даследчыкаў, і нават папулярныя электронныя рэсурсы разглядаюць урывак з 18 Песні «Іліяды» ў якасці аднаго з першых у гісторыі літаратуры экфрасісаў). Экфрасіс лёг у аснову «Карцін» Філастрата, пабудаваных у форме гутаркі на тэму выяўленчага мастацтва, сфарміраваўшы папулярны жанр «слоўных галерэй»; экфрастычныя апісанні з'яўляюцца неад'емным элементам жанру падарожжа.

Відавочна, што з часоў антычнасці разуменне сутнасці, аб'ёму і спецыфікі экфрасісу значна змянілася, бо кожная эпоха насычала паняцце сваім зместам, што адпавядаў пануючым эстэтычным поглядам. Да гэтага часу адсутнічае адзіная фармулёўка паняцця: адны даследчыкі называюць экфрасіс рытарычнай фігурай (Р. Гольдт), іншыя — самастойным жанрам (расійская даслед-

чыца Г. Сідарава вылучае нават раман-экфрасіс), семіятычным перакладам, прыёмам, топасам і стылістычнай фігурай.

Па-рознаму вызначаецца і аб'ём з'яў, якія акрэсліваюцца паняццем экфрасісу. Вылучаюцца вузкі і шырокі падыходы. У вузкім разуменні экфрасіс — гэта слоўнае апісанне твораў выяўленчага мастацтва. У шырокім сэнсе экфрасіс ахоплівае не толькі апісанне твораў жывапісу, графікі, скульптуры і архітэктуры, але і апісанні горада, інтэр'ераў, арнаментаў, фотаздымкаў, касцюмаў, начыння і іншых артэфактаў. Л. Гелер, аўтар адной з ключавых для вывучэння дадзенага пытання прац, да экфрасісаў адносіць апісанні не толькі прасторавых, але і часавых аб'ектаў (напрыклад, музычны экфрасіс) [2]. У сваёй працы мы таксама звяртаемся да шырокага разумення з'явы, засяроджваючыся, аднак, на разглядзе экфрастычных апісанняў візуальных артэфактаў.

Ядром экфрасісу з'яўляецца дакладнае ўзнаўленне рэчаіснасці, але найбольш каштоўнае ў такім прадстаўленні артаб'екта — гэта інтэрпрэтацыя, тлумачэнне, заключанае ў самім апісанні. Менавіта гэта стварае «дадатковую сімвалічную глыбіню, спараджае новыя вобразы і сэнсы» [5, с. 3]. У агульнакультуралагічным кантэксце экфрасіс выступае як адзін з набольш распаўсюджаных спосабаў паяднаць у адной мастацкай прасторы розныя пачаткі — вербальны і візуальны.

Важнае месца экфрасіс займае ў творчасці Яна Булгака, вядомага беларуска-польскага фатографа і пісьменніка, для якога спроба сумясціць вербальны і візуальны аспекты ягонага таленту з'яўляецца аўтарскай стратэгіяй. Узаемасувязь і ўзаемадзеянне слова і фотавыявы назіраецца ў спадчыне Булгака на ідэйна-тэматычным узроўні (усё багацце творчага набытку майстра можна апісаць трыядай ЗЯМЛЯ-КРАЯВІД-ЧАЛАВЕК); праяўляецца ў імкненні да сінтэзу вербальнага і візуальнага кампанентаў (узорам гарманічнага паяднання тэксту і фотаілюстрацыі з'яўляецца цыкл «Вандроўкі фатографа ў слове і выяве», аўтабіяграфічная аповесць «ДОМ»), а таксама выяўляецца ў паэтыцы ягоных літаратурных твораў (экфрасіс).

Яскравым прыкладам выкарыстання экфрастычнага апісання з'яўляюцца ўспаміны Яна Булгака «Край дзіцячых гадоў» — твор, які ўваскрашае зніклы свет шляхецкага двара. Даследчыкі называюць «Край дзіцячых гадоў» энцыклапедыяй шляхецкага жыцця на Навагрудчыне ў канцы XIX стагоддзя, у многім дзякуючы засяроджанасці майстра на апісаннях не толькі архітэктуры, але і асобных дэталяў. Багаты матэрыял, прадстаўлены ва ўспамінах, дае разгорнутую характарыстыку духоўнага і матэрыяльнага свету шляхецкай Навагрудчыны.

Характаралагічная функцыя — адна з асноўных, што выконваюць экфрасісы ў тэксце літаратурнага твора. Падрабязныя апісанні архітэктуры шляхецкай сядзібы, ландшафтнага дызайну, інтэр'ераў, твораў прыкладнога

мастацтва не з’яўляюцца для Я. Булгака самамэтай ці спосабам упрыгожыць твор (хаця і дэкаратыўныя магчымасці экфрасісаў нельга выключаць з-пад увагі), а працуюць на раскрыццё вобразаў-персанажаў успамінаў, перадаюць духоўную атмасферу і адметны клімат дому, а ў цэлым — характарызуюць эпоху.

Шляхецкі двор ва ўспамінах «Край дзіцячых гадоў» — сапраўдны зладжаны ансамбль розных па прызначэнні пабудоў, колькасць якіх была дакладна вызначана і не змянялася даволі працяглы час. Лямус, свіран, стайня, гумно, пякарня і іншыя фальваркавыя будынкі, што не заўсёды адпавядалі запатрабаванням двара, сведчылі аб моцнай сувязі з традыцыяй і захоўвалі ў сабе адбіткі папярэдніх эпох, слаўных часоў і часоў заняпаду. Ва ўмовах пасля паўстання 1863 года, у перыяд нацыянальнай дэпрэсіі, захаванне ў нязменным выглядзе аблічча двара (а двор — гэта праекцыя вольнай Айчыны) было ў асяродку сям’і Булгакаў ці не адзіным сродкам пратэсту супраць новай улады і тых рэформаў, якія яна актыўна насаджала. Перабудоўка сядзібы, змена белага колеру сцен (менавіта **белы двор** стаў сапраўдным топасам для літаратуры — А. Міцкевіч, З. Манькоўская) сведчылі аб духоўнай дэградацыі асобы і разглядаліся як сапраўдная здрада, за якую заўсёды чакала пакаранне: *«У нас было звычайнай справай, што калі які-небудзь двор трапляў у рукі расіяніна, то адразу з’яўлялася маляваная бляха і драўляныя прыбудоўкі самага дрэннага густу, сапраўды варварскага, а за ім — здзічэласць і агульнае знішчэнне двара, так што па знешнім выглядзе можна было заўсёды пазнаць, хто жыве ў двары»* [1, с. 109].

Аднак не толькі знешні выгляд двара характарызуе рэчаіснасць і людзей: унутраны выгляд сядзібы, а таксама свет рэчаў з’яўляюцца адлюстраваннем псіхалогіі як асобных персанажаў успамінаў, так і шляхецкага саслоўя ў цэлым. Амаль кожны прадмет у доме няўлоўнымі настальгічнымі ніткамі звязаны з персанажамі ўспамінаў: фарфоравая статуэтка пастушкі з «крывавым запекшымся румянцам» нагадвае аб заўчаснай смерці маці героя, такой жа далікатнай, наіўнай і хваравітай; гравюры з выявай Яна Сабескага асацыююцца з вобразам бацькі, які, нягледзячы на тое, што прадстаўляе ў творы распаўсюджаны ў XIX стагоддзі тып «шляхціца-грэчкасея», носіць у сабе сармацкія ідэалы, сканцэнтраваныя ў асобе караля-воіна; а апісанне недарэчных зялёных шпалераў *«са сцэнамі палявання, у якіх ганчак глядзеў на аленя зусім абыякава, а засеўшы ў засадзе паляўнічы меў выраз твару бандыта»* [1, с. 58] падрыхтоўвае чытача да ўспрыняцця даволі камічнай асобы пана Лапушынскага, настаўніка, які аддаваў перавагу здароваму пасляабедзеннаму сну, а не заняткам з вучнем.

Булгак праводзіць сапраўдную экскурсію па шляхецкім доме, распавядаючы пра кожны прадмет, які трапляецца на вочы (варта адзначыць, што даволі эклектычны інтэр’ер майстар называе «радасцю для вачэй»), і, згодна

з сутнасцю экфрасісу, не толькі апісвае, але і робіць акцэнт на сімвалічным змесце рэчаў і іх унутранай гісторыі. Экфрасісы абразоў сведчаць пра духоўнасць і хрысціянскі светапогляд герояў «Краю дзіцячых гадоў»; мэбля розных стыляў і эпох (барока, ракако, ампір) і прадметы, зробленыя ва ўласных майстэрнях, з'яўляюцца знакам ашчаднасці; а сапраўдная ода «пузатаму» самавару — хвалебны спеў гасціннасці і адкрытасці дому.

Як чалавек з даволі яскравым візуальным бачаннем свету, Ян Булгак падае вельмі дэталёвае апісанне двара, часам ператвараючыся ў фатографа з уласцівай дадзенай прафесіі цікавасцю да святла (інтэнсіўнасці, тэмпературы, крыніцы асвятлення), прапорцый, ліній, кантрастаў і фактуры. Тым не менш, экфрастычныя апісанні майстра не пераходзяць у сухую інвентарызацыю дзякуючы пісьменніцкаму таленту бачыць у рэчах іх глыбінную сутнасць, звязваць іх са сваім унутраным жыццём і разуменнем, што толькі падкрэслівае пануючую ў доме атмасферу гармоніі, раўнавагі і любові.

Шляхецкі двор ва ўспамінах Яна Булгака з'яўляецца сапраўдным героем успамінаў, што дае падставы ўжываць у дачыненні да твора паняцце топаэкфрасісу, прапанаванае расійскім даследчыкам А. Клінгам. Топаэкфрасіс — гэта «апісанне ў літаратурным творы месца дзеяння, якое нясе на сабе асаблівую эстэтычную нагрузку» [4, с. 97]. Акрамя эстэтычнай нагрузкі топаэкфрасіс шляхецкага двара выконвае ва ўспамінах яшчэ і структуратваральную функцыю: вакол апісання шляхецкіх засценкаў выбудоўваецца сюжэт і кампазіцыя «Краю дзіцячых гадоў».

Галоўнай жа функцыяй экфрастычных апісанняў у творы з'яўляецца функцыя захавання памяці (акумулятыўная функцыя): *«Я так прагна хацеў бы ўваскрасіць непараўнальную чароўнасць гэтага малога свету, поўнага высакародных пачуццяў, добрых людзей і прыгожых мілых рэчаў…»* [1, с. 49].

Экфрасіс з'яўляецца важным элементам вербальнай тканіны ўспамінаў Яна Булгака і выконвае шэраг функцый: экфрастычныя апісанні падаюць разгорнутую характарыстыку персанажаў, акрэсліваюць атмасферу шляхецкага двара, а таксама перадаюць аблічча эпохі. Топаэкфрасіс у творы выконвае структуратваральную функцыю — вызначае сюжэт і кампазію «Краю дзіцячых гадоў».

Экфрасіс — універсальная катэгорыя: прыклады экфрастычных апісанняў можна знайсці фактычна ў кожнага пісьменніка, што тлумачыцца жаданнем творцы выйсці за межы вербальнай прасторы, а таксама адлюстроўвае глыбінную сувязь мастацтваў.

## Літаратура

1. Булгак, Я. Край дзіцячых гадоў / Я. Булгак. — Мінск, 2004.
2. Геллер, Л. Воскрешение понятия, или Слово об экфрасисе / Л. Геллер // Экфрасис в русской литературе / под ред. Л. Геллера. — М., 2002. — С. 5–22.

3. Дзічкоўская, Н. Паэтыка экфрасіса ў аповесці «Лабірынты» Вацлава Ластоўскага / Н. Дзічкоўская // Роднае слова. — 2011. — № 5. — С. 29–32.
4. Клинг, О. Топоэкфрасис: место действия как герой литературного произведения (возможности термина) / О. Клинг // Экфрасис в русской литературе / под ред. Л. Геллера. — М., 2002. — С. 97–110.
5. Постнова, Е. А. Экфрасис в творчестве В. А. Каверина 1960-1970-х гг. : автореф. дис. … канд. филол. наук: 10.01.01 / Е. А. Постнова. — Пермь, 2012.
6. Тишунина, Н. В. Методология интермедиального анализа в свете междисциплинарных исследований / Н. В. Тишунина // Методология гуманитарного знания в перспективе XXI века. К 80-летию профессора Моисея Самойловича Кагана. Материалы междунар. науч. конф., 18 мая 2001 г., Санкт-Петербург. Серия «Symposium». Вып. 12. — СПб.: Санкт-Петерб. филос. об-во, 2001. — С. 149–154.

**Ірына Багдановіч** *(Мінск, Беларусь)*

# БЕЛАРУСКІ СВЯТАР — АСОБА І ВОБРАЗ У ГІСТАРЫЧНЫХ ПЕРЫПЕТЫЯХ XX ст.

*(на матэрыяле творчасці Вінцука Адважнага)*

Нацыянальнае адраджэнне пачатку XX ст. моцнай хваляй ускалыхнула ўсе сферы грамадскага і культурнага жыцця Беларусі. Мы прызвычаіліся, гаворачы пра гэтую з’яву, згадваць пераважна выбітныя постаці грамадска-палітычных дзеячаў і пісьменнікаў. Аднак неабходна падкрэсліць, што выключна важную ролю ў нацыянальным адраджэнні, у яго духоўнай сферы адыгралі беларускія святары. Святар перадусім — гэта рукапаложаная асоба, якая атрымала святарскае пасвячэнне і асноўная місія якой звязана з цэлебрацыяй Святой Імшы, падчас якой адбываецца таямнічае пераўтварэнне хлеба і віна ў Цела і Кроў Хрыста, якое прымаецца святарамі і вернікамі ў сакрамэнце Эўхарыстыі (Прычасця). Святар таксама нясе і тлумачыць вернікам Слова Божае, прамаўляе «навуку» (казанне), удзяляе іншыя сакрамэнты (напрыклад, хросту, сужэнства, намашчэння хворых), адпраўляе належныя абрады (напрыклад, пахавання, асвячэння жытла). Вакол святара звычайна ўтвараецца і своеасаблівы культурны цэнтр парафіі: арганізуецца хор, нядзельная школа катэхезы для дзяцей, гурток мастацкай самадзейнасці альбо тэатральны гурток, распаўсюджваюцца газеты і кнігі. Падобную дзейнасць шырока разгарнулі ў сваіх парафіях беларускія святары, выпускнікі Віленскай духоўнай семінарыі і Пецярбургскай духоўнай каталіцкай акадэміі, якія былі шчырымі прыхільнікамі выкарыстання беларускай мовы ў богаслужэнні і праводзілі асветніцкую працу па адраджэнні беларускай нацыянальнай

самасвядомасці сярод жыхароў сваіх парафій. Невыпадкова касцёл лічыўся школай жыцця, дзе адбываецца духоўнае станаўленне і выхаванне асобы. Прынамсі, так пісаў у вершы «Брату настаўніку», прысвечаным, відавочна, некаму са знаёмых святароў-адраджэнцаў, слынны заходнебеларускі паэт і святар Казімір Сваяк (кс. Кастусь Стэповіч). Ён заклікаў «брата» не гараваць у нядолі, не сумаваць, хоць льюцца слёзы, але верыць у адраджэнне беларусаў:

Вер, што беларус устане,
Згіне хітрых панаванне.
Духам глянь кругом-наўкола:
Закрасуе касцёл-школа;
Роднай мовай, родным чынам
Аджыве наш бедачына [2, с. 79].

Нямала асобаў сярод нацыянальна свядомых святароў-беларусаў, шчырых працаўнікоў на ніве адраджэння, былі і выдатнымі пісьменнікамі: гэта, напрыклад, ксяндзы-беларусы Адам Станкевіч, згаданы ўжо Кастусь Стэповіч (Казімір Сваяк), Аляксандр Астрамовіч (Андрэй Зязюля) ды іншыя. Іх прыяцелем і таксама выдатным, арыгінальным паводле асаблівасцяў таленту пісьменнікам быў заходнебеларускі святар, айцец марыянін Язэп Германовіч (1890–1978), вядомы пад псеўдонімам Вінцук Адважны.

Ён нарадзіўся ў Гальшанах Ашмянскага павета, скончыў Віленскую духоўную семінарыю, у 1913 г. быў пасвечаны ў ксяндзы, а ў 1924 г. уступіў у ордэн айцоў марыянаў у Друі. Ужо ў гэты перыяд ён актыўна далучаецца да беларускага духоўнага і нацыянальнага адраджэння: служыць святаром у вёсках Лапеніца Ваўкавыскага павета, затым Луконіца Слуцкага павета, дзе актыўна спрычыняецца да справы беларусізацыі касцёла; затым, як айцец марыянін, шчыра аддаецца святарскаму служэнню ў Друйскім кляштары, а таксама ў Вільні. У гэты ж перыяд ён набывае вядомасць як беларускі літаратар: з 1919 г. пачынае выступаць на старонках газеты «Беларуская крыніца» як палымяны публіцыст, а ў далейшым часта друкуецца як паэт, празаік, перакладчык. Апрача перыядычнага друку, асобнымі выданнямі ў Вільні пад крыптанімам A. W. выходзяць яго вершаваныя і празаічныя аповесці «Як Казюк сабраўся да споведзі» (1928), «Казюкова жанімства» (1929), «Як Ганула збіралася ў Аргенціну» (1930), «Адам і Анэлька» (1931), «Унія на Палессі» (Альбертын, 1932), «Батлейка» (1932), пераклад вядомай расійскай казкі П. Яршова «Канёк-гарбунёк» (1932). У 1933 г. у Вільні выходзіць першы зборнік яго вершаў «Беларускія цымбалы» з прадмовай кс. А. Станкевіча, якая ўяўляла сабой грунтоўны нарыс творчасці Вінцука Адважнага.

У 1932 г. а. Я. Германовіча адарвалі ад чыннай працы на Бацькаўшчыне і як місіянера накіравалі на Далёкі Усход — у Харбін, дзе ён мусіў працаваць сярод рускага насельніцтва. Місія ўспрымалася хутчэй як высылка з радзімы — падалей ад нацыянальна-адраджэнскай працы на рэлігійнай ніве,

супраць якой былі варожа настроеныя афіцыйныя каталіцкія ўлады ў тагачаснай Заходняй Беларусі. Але і ў Харбіне, нягледзячы на досыць цяжкія ўмовы працы, перагружанасць абавязкамі, В. Адважны не кідае пісаць, у 1933 г. піша і дасылае на радзіму свой новы твор — аўтабіяграфічную аповесць «Хлапец», якая друкуецца ў «Беларускай крыніцы» ў 1934–1935 гг. і выходзіць асобным выданнем (Вільня, 1935). З Харбіна, як вядома, арыштаваны ў канцы 1948 г., святар трапляе ў сталінскі лагер. Гэта быў цяжкі перыяд выпрабаванняў і цярпенняў, перыяд адарванасці ад радзімы і выжывання ў нялюдскіх умовах лагернага жыцця. Духоўная моц і глыбокая вера айца Язэпа дазволілі яму выжыць і не зламацца ў той рэчаіснасці. Пасля вызвалення ў 1955 г. ён быў дэпартаваны ў Польшчу, затым выехаў у Рым, а адтуль у Вялікабрытанію, дзе ў лонданскім беларускім Доме айцоў марыянаў працягваў плённую святарскую службу (малітоўную і выхаваўчую) і літаратурную дзейнасць, рэдагаваў часопіс «Божым шляхам», напісаў і апублікаваў успаміны з лагернага жыцця «Кітай–Сібір–Масква» (Мюнхен, 1962), якія былі перакладзеныя на розныя мовы і сталіся шырока вядомымі ва ўсім свеце. Часопіс «Божым шляхам» на працягу 1960–1970-х гг. рэгулярна выходзіў з яго вершамі на рэлігійна-біблійную тэматыку і байкамі, дзе напоўніцу раскрываўся талент В. Адважнага як гумарыста і сатырыка. Байка была яго ўлюбёным жанрам, у якім найбольш яскрава рэалізаваўся яго паэтычны талент на ўсіх этапах творчасці. У часе эміграцыі была выдадзена і асобная кніга В. Адважнага «Байкі і іншыя вершы» (Лондан, 1973). Пяру а. Я. Германовіча ў гэты перыяд належаць таксама шматлікія мемуарныя творы: апрача лагерных успамінаў ён піша ўспаміны са свайго гальшанскага і ашмянскага дзяцінства і юнацтва «Учора, сягоння, заўтра», піша пра сваіх бацькоў і шматлікіх сяброў-святароў, многія з якіх на той час ужо спачылі ў вечнасці (пра К. Сваяка, А. Зязюлю ды інш.).

Уся творчасць В. Адважнага (а. Язэпа Германовіча) звязана з лёсам і гістарычнымі шляхамі беларускага народа. Пачынаючы ад ранняй палымянай публіцыстыкі 1919–1920 гг., дзе ён у духу і стылі «Мужыцкай праўды» Кастуся Каліноўскага тлумачыў суайчыннікам, што яны — беларусы, асобны народ са сваёй гісторыяй, мовай, традыцыямі, характарам, знешнім выглядам («Мы беларусы», «Наша імя — беларусы», «Зямля наша — беларуская», «Дарагія Браты Беларусы» і інш.), ён і надалей, у паэзіі і прозе заходнебеларускага перыяду, рабіў акцэнт на праблеме нацыянальнага самаўсведамлення беларускага народа як галоўным чынніку яго адраджэння. Прывядзём як адзін з узораў гэтага ўрачыстага тлумачальнага красамоўства фрагмент артыкула «Мы беларусы» (1919):

«Дарагія Браты Беларусы! Пэўне будзеце дзівіцца, што я вас Беларусамі называю, але чакайце — вы такі сапраўды Беларусы. “Што ж гэта Беларусь?” — пытаюць мяне суседзі. Адзін стары, дзядзька Міхал, казаў: “Я ўжо шэсцьдзесят гадоў жыву, а зроду не чуў, што мы Беларусы”. Вось і гавары з

людзьмі: здзівіўся Гнедка, што яго канём называюць. — Вось, Браты Беларусы, мы, як і шмат другіх народаў, таксама есмо асобным народам <…>

Мы таксама, як і другія народы, маем сваю гутарку; простая наша гаворка, але родная і для нас дарагая. Маем свой Край, зямлі многа, прастору, бароў, рэкаў, азёраў. Маглі б мы быць шчаслівы, толькі ўся бяда, што не ведаем, як называемся. Кажам, што мы "тутэйшыя". Яно то праўда, але гэтага мала, бо кожны ў сваім краі "тутэйшы". Другія паблыталі народ і веру; кажуць: "мы польскія" або "рускія". Не, браткі, мы ані польскія, ані рускія, мы саўсім інакшыя. Мы Беларусы.

Расказваў мне адзін бывалы чалавек. "Перш, — казаў ён, — я таксама не разумеў, хто я такі. Я думаў і называў сябе «польскім». Здарылася мне быць прад вайной у Польшчы. Сэрца маё цешылася: я каталік. Быў у касцёлах пекных, ламаў язык, каб пекна па-польску гаварыць. Аднак палякі крыва на мяне паглядалі. Як прыйшлося работы шукаць, то яшчэ горай выйшла.

Так і вярнуўся дахаты. Не далей як у два гады пасля таго ўцякалі мы ад вайны да Расеі. Там ізноў бяда: маскалі лаюць нас «паляцкай» мордай. Хто ж мы, калі гэтак? Нідзе нас не прымаюць. У Расеі і ў Польшчы мы чужыя. Па-літоўску не ўмеем — то ж мы не ліцвіны. Мы Беларусы — вось хто мы!" <…>» [1, с. 526–527].

Апрача публіцыстыкі К. Каліноўскага, традыцыяй, на якую абапіраўся В. Адважны, была творчасць Францішка Багушэвіча, а асабліва прадмова да паэтычнага зборніка «Дудка беларуская» (1891), дзе былі сфармуляваны асноўныя ідэі беларускага нацыянальнага адраджэння. Уплыў Ф. Багушэвіча адчувальны ў вершах зборніка В. Адважнага «Беларускія цымбалы», сама назва якога наследуе «музычную» традыцыю «Дудкі…». Да таго ж, паводле біяграфічных крыніц, менавіта творчасць Ф. Багушэвіча зрабіла вызначальны ўплыў на станаўленне нацыянальнай свядомасці самога В. Адважнага і як беларускага святара і як беларускага паэта. Так, кс. А. Станкевіч у прадмове да «Беларускіх цымбалаў» пісаў: «Беларуская народная свядомасць прыйшла да В. А. хутка. Далі яе "Дудка" і "Смык" Багушэвіча, якіх яму дастарчылі ягоныя аднапаветнікі, беларускія адраджэнцы кс. А. Лісоўскі і паэт кс. А. Астрамовіч (Андрэй Зязюля)» [1, с. 554]. А вучань айца Язэпа біскуп Чэслаў Сіповіч згадваў пра гэты ж факт крыху інакш. Ён пісаў, што першы раз у сваім жыцці Я. Германовіч сутыкнуўся з беларускім друкаваным словам, калі трапіў у гарадскую школу ў Ашмянах, і гэта была менавіта «Дудка» Багушэвіча, «якую дае яму і ягонай сястры Людвіні беларускі каталіцкі святар Гуневіч. Гэтая кніжачка адчыніла ім вочы, што яны беларусы, і з гэтай пазіцыі яны не сышлі праз усё жыццё» [1, с. 567].

Гэты аўтабіяграфічны факт адлюстраваўся таксама і ў аповесці «Хлапец», дзе па-мастацку глыбока і праўдзіва раскрываецца няпросты лёс беларускага хлопчыка Вінцука Паўловіча, прататыпам якога з'яўляецца, без сумнення,

сам аўтар. На жыцёвым шляху Вінцука важную ролю адыгрываюць не толькі сям'я, сацыяльна-гістарычныя абставіны, якія ставяць перад хлопчыкам свае вымогі, але, можа найбольш, менавіта каталіцкі касцёл і ягоныя прадстаўнікі — гэта найперш беларускі ксёндз Тамаш Галуза, які сее ў вучнях нацыянальную свядомасць, даводзіць, што яны асобны беларускі народ, пушчаны самім Богам у свет, і арганіст Харашуха — таксама шчыры свядомы беларус, які становіцца добрым апекуном для хлопчыка пасля смерці ягонай матулі, удавы Ганулі Якубіхі, бо ад сіраты адвярнуліся ўсе сваякі.

У аповесці малююцца глыбока праўдзівыя карціны жыцця беларускай вёскі пачатку ХХ ст., калі завірыла нацыянальнае адраджэнне, пракладваючы сабе шлях паміж ціскам польскага духавенства і расійскага чыноўніцтва. Адзін з цэнтральных персанажаў твора — малады ксёндз вікарый Галуза, які за сваю актыўную беларускую дзейнасць у касцёле, у школе і сярод парафіянаў у вёсцы Мураванцы быў пакараны адхіленнем ад працы ў парафіі і высланы ў кляштар: «…варункі кары выйшлі ксяндзу Галузу самыя лёгкія (дай, Божа, кожнаму такую кару!) — тры месяцы кляштару, пяцьдзясят рублёў штрафу і тры гады без права быць пробашчам» [1, с. 216]. На развітанне ксёндз запрасіў да сябе сваіх любімых вучняў, сярод якіх быў, вядома ж, Вінцусь, а таксама арганіст Харашуха. Ксёндз шчыра размаўляе з хлопцамі, наказвае ім быць сапраўднымі мужчынамі, годна трымацца ва ўсіх жыццёвых выпрабаваннях. Ён расказвае гісторыю са сваіх дзіцячых гадоў, звязаную з Францішкам Багушэвічам. Аднак спачатку пытаецца ў вучняў, ці ведаюць яны, хто такі Мацей Бурачок? Вучні адказваюць, што гэта беларускі паэт, які напісаў «Дудку беларускую» і «Смык беларускі». Ксёндз, задаволены адказам, распавядае далей пра тое, што ён ведаў асабіста Мацея Бурачка і што сапраўднае прозвішча таго — «Францішак Багушэвіч».

Да знаёмства спрычыніўся бацька ксяндза Галузы, у якога завёўся па «нейкай напасці» суд з суседзямі з-за кавалка арандаванай зямлі і ён, запрогшы каня і ўзяўшы дванаццацігадовага сына, паехаў «да Багушэвіча на раду». Багушэвіч слухаў бацькаву скаргу, нешта запісваў, пытаўся, радзіў, як і належыць адвакату. Пасля абмеркавання зямельнай справы, распавядаў ксёндз Галуза, «Багушэвіч звярнуўся ка мне і пытае: “Ну, а ты, маладзец, хто ты?” А я яму рэзва кажу: “Я Тамаш Галуза, сын Габрыэля Галузы з вёскі Пярхулева”. А ён мяне пытае: “А скажы ты, ці ты польскі, ці рускі?” Я падумаў і кажу: “Я тутэйшы!” А бацька мяне штурхае пад бок і падказвае: “Кажы — польскі!” Але я стаяў на сваім: яшчэ раз падумаў і кажу: «Тутэйшы, але польскай веры!» І думаю сабе тагды: добра я сказаў ці не. Ну, і смяяўся тагды Багушэвіч, смяяўся, але нейкім смехам неабідным! Мы самі з бацькам прачувалі, што тут нешта напуталі і не маглі гэтай путаніцы разблытаць, — дык і мы смяяліся самі з сябе, гледзячы на пана Багушэвіча. А ён абняў мяне і кажа: “Ах ты, малыш, будзеш калісьці бойкім чалавекам: я віджу, што стараешся думаць, а

гэта многа значыць. Бацька, помні, вучы хлапца: будзеш мецъ пацеху з яго!” Тагды Багушэвіч пасадзіў нас на крэслы, угасціў нас і стаў нам тлумачыць аб веры і народнасці: хто мы такія і як трэба любіць зямлю і мову сваю, — адным словам, ён першы пасеяў у маім сэрцы любоў да Бацькаўшчыны. Ад гэтай пары я ўжо ніколі не называў сябе тутэйшым, бо ведаў, што я беларус. Пасля ўжо я сам талкаваў суседзям і аб'ясняў народныя катэхізмы» [1, с. 220]. Так успамінаў знаёмства з Багушэвічам ксёндз Галуза, дадаўшы, што на развітанне паэт прачытаў ім «з памяці некалькі сваіх вершаў», ад якіх «мой бацька аж клаўся ад смеху», і «падараваў нам на памятку сваю кніжачку “Дудка беларуская”, а мяне пацалаваў у абедзве шчакі». Арганіст Харашуха заўважыў, што такім чынам ён дастаў «багаславенства ад самога беларускага патрыярха» [1, с. 221].

Далей падчас гэтай сустрэчы, нягледзячы на тое, што ўжо было позна і вучняў трэба было адпускаць дамоў, ксёндз чытаў усім «Дудку беларускую», тлумачыў сэнс яе вершаў, «гаварыў аб адносінах расейскай улады да нашага народа і аб патрэбе адраджэння» [1, с. 221]. Гэта была сапраўды «народная катэхізма» — вучэнне аб страце і неабходнасці вяртання нацыянальнай самасвядомасці: «Наш народ праз доўгія гады ляжыць як бы ў гарачцы <…>, а ведама, што дзеецца з чалавекам у гарачцы: ён траціць памяць, не ўладае сам сабой <…>. Так і на нас, беларусаў, напаў нейкі страшэнны чад ці чмут: мы страцілі памяць і розум, і вот нам здаецца, што мы нейкія другія — палякі ці маскалі <…>. Мы з гэтага дуру забыліся, што мы былі калісьці вялікім, магутным і разумным народам; а наша простая беларуская мова не толькі была мовай мужыцкай, але панавала на князёўскіх дварах у Навагрудку, Менску, Крэве, Віцебску і Полацку, а нават і на каралеўскім двары ў Вільні. Тым часам цяпер кожны смаркаты пісака крывіць душу на маскоўскі фасон, а мы перад ім топчамся, стыдаемся роднай мовы і баімся кожнага смердзюха, што здалёку да нас прыехаў. Мы ахвотна хватаемся за чужое, бо гэта нам здаецца лепшае і моднае. Чужыя людзі ў вочы нас, як малых дзяцей, зводзяць; а за вочы з нас, як з дурных, смяюцца. Вот да чаго мы дажыліся! <…>. Мы можам ужо вылезці з чужых пялёнак і стаць на свае собскія ногі, загаварыць сваім уласным голасам, пазнаць самі сябе і пастаяць за сваё <…>» [1, с. 221].

Такім чынам, ксёндз Галуза ў аповесці В. Адважнага «Хлапец» выступае сапраўдным светачам праўды, носьбітам нацыянальнай свядомасці і хрысціянскай духоўнасці. Ён ахвярна змагаецца за гэтую праўду, за гістарычнае права роднага народа на самастойнае развіццё. Духоўнае правадырства ксяндза Галузы абумоўлена самім яго пакліканнем да святарства, пакліканнем да абвяшчэння Божага Слова сярод свайго народа, які мусіць уваскрэснуць з доўгага замагільнага сну. Калі арганіст Харашуха ў адной з размоў з ксяндзом выказвае сумненне, што такое магчыма, — «паўстаць і быць незалежнымі», бо «нашы людзі такія некультурныя, простыя, несвядомыя», — ксёндз Галуза

ўпэўнена адказвае: «Што ў людзей немагчыма — то магчыма ў Бога! <…> Наша справа — справа Божая: мы стаім за справядлівасць і жадаем, каб кожны чалавек і кожны народ меў тое і ўладарыў тым, што яму належыць ад Бога <…> Наша адраджэнне апіраецца на праве прыродным» [1, с. 200–201]. Прыроднае права ксёндз папулярна тлумачыць як «закон натуры», паводле якога нельга «каня карміць мясам, а сабаку сенам, бо гэта супрацiўляецца іхнай натуры». Так і беларускі народ, прыроднае права якога сталася парушаным: «…ён вельмі працавіты, здольны, а вось не можа выдаць нічога вялікага, бо мы жывём чужым духам — культурай чужацкай, якая марнуе нашы сілы. О, каб даць нашаму простаму народу ягонае роднае слова ў школе, у касцёле, у царкве — дык народ стаў бы расці і развівацца…» [1, с. 201].

Пасля гэтай размовы з ксяндзом, падчас якой закраналіся і іншыя пытанні нацыянальнага быцця, арганіст Харашуха доўга не мог заснуць, думкі наплывалі, і ён сам сабе казаў: «Эх, каб хоць з дзесяць такіх энергічных ксяндзоў, як наш Галуза, дык сапраўды адрадзілі б край. А так… І дзіўна, чаму папоў беларусаў няма?..» [1, с. 202]. А далей герой бачыць незвычайную відзежу: нібыта ў біскупскай мітры перад ім ізноў з’яўляецца ксёндз вікарый, трымаючы ў руках «дзве Майсеевы табліцы», але Харашуха не можа прачытаць, што на іх напісана. Вікарый працёр табліцы, літары на іх сталі агністымі і асляпілі арганіста. Тады «сам вікарый стаў чытаць грамавым голасам, як бы труба ерыхонская». Гэта быў «новы закон адраджэння», прамоўлены нібыта самім Богам на ўзор хрысціянскага дэкалогу, які, абудзіўшыся, запісаў «на свежую памяць» арганіст: «Слухай, Харашуха, і ўвесь Народ Беларускі! 1. Беларус, пазнай сам сябе! 2. Беларус, не стыдайся свайго імені! 3. Беларус, помні, што дзень тваёй волі саўсім блізкі! 4. Любі Бацькаўшчыну сваю, зямлю сваю, мову сваю! 5. Не адракайся ані абсмейвай братоў сваіх! 6. Не ганяйся за нічым чужым! 7. Не прыкідвайся сам чужынцам! 8. Не абмаўляй сваіх братоў, каторыя працуюць для адраджэння! 9. Не завідуй чужынцам іхнай бацькаўшчыны. 10. Ані іхнай мовы, ні культуры, і ані ежы, ані адзежы, ані ўсяго таго, што бачыш у іх» [1, с. 202].

Такім чынам, можна казаць, што аповесць В. Адважнага «Хлапец» утрымлівала ў сваім ідэйным змесце сапраўды праграму беларускага нацыянальнага адраджэння, стварала яго «катэхізіс» — вучэнне, заснаванае на хрысціянскім і патрыятычным грунце. Не дзіўна, што праваднікам такога вучэння паказаны святар — сапраўдны духоўны лідар народа, які вядзе яго да пазнання адвечных Божых праўдаў веры, навучае распазнаваць гэтыя праўды і бараніцца ад зманлівых спакусаў чужымі раскошамі, якія насамрэч абарочваюцца гвалтам і прымусам, стратаю самога гістарычнага быцця народа.

Творчасць Вінцука Адважнага, як і сама асоба айца Язэпа Германовіча, дае нам яскрава жыццёвы і ў многім тыповы прыклад беларускага святара першых дзесяцігоддзяў XX ст. — пастыра і настаўніка народа, асветніка і патрыёта,

які падзяляў лёс свайго, даручанага яму Богам, народа ва ўсіх няпростых, а часта варожых і неспрыяльных, варунках акрэсленага часу. Многае з таго, аб чым пісаў В. Адважны, пра што дбаў герой яго аповесці «Хлапец» малады ксёндз Галуза, застаецца актуальным і ў сённяшняй беларускай рэчаіснасці.

## Літаратура


1. Адважны, В. Выбраныя творы / В. Адважны. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 592 с.
2. Сваяк, К. Выбраныя творы / К. Сваяк. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 472 с.

# ЗМЕСТ

## МОВАЗНАЎСТВА

## ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА



## ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРАЛОГІЯ

Пры афармленні кнігі выкарыстаны:
на вокладцы — «Тры багіні». Гравюра Эўгеніуша Мальдзіса (Познань);
на тытуле — «Вуліца Св. Ігнацыя, Вільня, 1917». Фота Яна Булгака.

*Навукова-папулярнае выданне*

**Беларусіка = Albaruthenica**
**Кніга 36**

**БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ МОЎНЫЯ, ЛІТАРАТУРНЫЯ, ГІСТАРЫЧНЫЯ І КУЛЬТУРНЫЯ СУВЯЗІ**

*Зборнік артыкулаў*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Ірына Багдановіч*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Наталля Кучмель*

Падпісана да друку 24.12.2014. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$.
Рызаграфія. Папера афсетная.
Ум. друк. арк. 13,3. Ул.-выд. арк. 13,64.
Наклад 115 асобнікаў. Зак. 765.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.